# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *online* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №23

## Красавік 2019

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*З 2018 года выходзіць два разы на год*

КУЛЬТУРА
НАЦЫЯ

*Атава, Канада*

КУЛЬТУРА
НАЦЫЯ

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі і нацыянальнага будаўніцтва.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Атава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Наступны 24-ты нумар часопіса выйдзе ў лістападзе 2019 года*

*Прадмова рэдактара да 23-га нумара часопіса*

**Добры дзень, паважаныя чытачы!**

Чарговы нумар часопіса “Культура. Нацыя” выходзіць у час, калі існаваньне беларускай нацыі зноў знаходзіцца пад іспытам неспрыяльных для яе знешніх і ўнутраных фактараў. Так, за апошнія шэсць месяцаў абвастрыліся палітычныя і эканамічныя праблемы, якія ідуць ад нашага усходняга суседа. Пытанне пастаўлена рубам – ці Беларусь вымушана будзе ісці ў строгім фарватэры расійскай палітыкі ці кіраўніцтву краіны ўдасца ў чарговы раз выкруціцца з крытычнай сітуацыі. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты – бясспрэчная заява старшыні міністраў РФ, сп. Мядзведзева аб неабходнасці паглыбленьня інтэграцыі Беларусі і Расіі ў рамках Саюзнай дзяржавы (дагавор аб стварэньні якой падпісаны ў 1999 годзе Лукашэнкам і Ельцыным), прызначэньне ў Беларусь агрэсіўнага, недасведчанага, што да нашай гісторыі, расійскага пасла М. Бабіча, пагрозы павышэньня коштаў на нафту для Беларусі, “яблычныя і грушавыя войны”, і г.д.

На старонках часопіса неаднаразова выказвалася думка, што рызыковае тактычнае балансаваньне прэзідэнта Лукашэнка паміж Расіяй і Захадам мусіць прывесці да стварэньня менавіта такой сітуацыі, калі агрэсіўны еўразійскі рух Расіі на Захад будзе бясспрэчна дыктаваць беларусам палітычныя і эканамічныя умовы, якія непазбежна прывядуць, рана ці позна, да паглынаньня Беларусі Расіяй. Вынікам такой “балансаванай” палітыкі сталася тое, што цяпер беларускі ўрад вымушаны прасіць чарговыя расійскія крэдыты на пагашэньне даўгоў, адтэрміноўку выплат 10-міліярднага крэдыту на будаўніцтва атамнай электрастанцыі, і г. д. Да гэтага дадаўся правал у правядзеньні змен у эканамічнай сферы.

У першую чаргу такому сумнаму выніку спрыяе адсутнасць выразнай стратэгічнай лініі ў беларускага кіраўніцтва ў адносінах да Расіі. Пакуль што прэзідэнт Лукашэнка, у адказ на шматлікія прыклады “закручваньня гаек” з боку Масквы, абмежаваўся заявай аб магчымасці перакрыць нафтапровад, які ідзе з Расіі на захад па беларускай тэрыторыі. Такім чынам, паміж дзвюма краінамі цяпер ужо ў адкрытую ідзе раней нябачная вайна – “мяккая каланізацыя” з боку Расіі і спробы ёй супрастаяць з боку Беларусі. Аднак, калісьці прыйдзецца аб такой стратэгіі заявіць – цяперашняму ці будучаму ураду! Час прыспешвае! Ва Украіне, нашай суседцы па усходнеславянскай цывілізацыі, прайшлі выбары прэзідэнта. Будзем спадзявацца, што курс Украіны на захад (ЕС і НАТО) не зменіцца, што безумоўна мела бы станоўчы уплыў на далейшы геапалітычны выбар Беларусі. Аб сучасных адносінах Беларусі і Расіі чытайце ў артыкуле “Куды завялі цябе – беларус?”

Што найбольш сумна ў сёняшняй сітуацыі гэта тое, што ў спробах спадабацца галоўнаму крэдытору, у аўтарытарнай беларускай краіне амаль вынішчаны слой нацыянальна-сьвядомых людзей ці па крайней меры задаўлена максімальна ажыццяўленьне імі так патрэбных для будучай Беларусі функцый – гэта нацыянальная асьвета і адукацыя, выхаваньне дэмакратычных поглядаў і культуры, уключаючы выбары, станаўленьне самаідэнтыфікацыі ў насельніцтва, стварэньне грамадзянскай супольнасці, і г. д.

Пад выглядам умацаваньня свайго "асобнага" суверэнітэту, заснаванага не на нацыянальных, а на пост-нео-савецкіх каштоўнасцях, адціснуты далёка на перыферыю сапраўдны суверэнітэт нацыянальнай дзяржавы. На жаль, асновай такога адмоўнага стаўленьня да ўсяго нацыянальнага з'яўляецца ментальнасць і светапогляд аднаго чалавека, прэзідэнта Лукашэнкі, які здолеў за 25 год свайго кіраваньня падпарадкаваць сабе ўсё і ўсіх. Без яго згоды нічога ў краіне не робіцца. Відавочна, што без яго не абышлося як пры зносе крыжоў у Курапатах, так і пры маўклівым адмаўленьні постаці К. Каліноўскага, як нацыянальнага героя.

Загадаў сп. Лукашэнка знесці крыжы ў Курапатах – зносяць. Ні пратэсты сьвятароў асноўных канфесій, ні нешматлікія пратэсты грамадскасці - вынікаў не далі. Сп. Лукашэнку, які па інфармацыі сам ні разу не быў у Курапатах, акружаюць асобы з сумніўнымі адносінамі да ўсяго беларускага – ходзяць у форме НКВД, збудавалі помнік царскаму паліцэйскаму і ахоўваюць яго, і да гэтага часу не ведаюць, хто пахаваны на гэтым народным мемарыяле. А сам сп. Лукашэнка 19 красавіка на "ленінскі" суботнік паехаў не ў Курапаты, а быў на пацешнай "лініі Сталіна". Ім варта было б пачытаць архіўныя звесткі, сабраныя Мараковым – дзе пералічаны дзесяткі тысяч знішчаных беларусаў – колер нацыі, каб нешта зразумець і пакаяцца, а не здзеквацца над памяцьцю людзей. Хацелася б знаць, а ці ведаюць яны, дзе пахаваны старшыня ЦВК, В. Ганчар, генерал Ю. Захаранка ...?

Запытай кожнага беларуса і ён знойдзе ў Курапатах сляды злачынстваў аўтарытарных рэжымаў. Брат майго дзеда, Сяргей Ігнатавіч Мурзёнак (1896-1937), прыйшоў з Заходняй Беларусі ў Мінск, вывучыўся, працаваў суддзём, арыштаваны як польскі шпіён 23 жніўня, растраляны 22 лістапада 1937 года ў Мінскай турме. Дзе ён пахаваны?! Як насмешку можна ўспрымаць заявы ўлады аб добраўпарадкаваньні ўрочышча Курапаты, куды па добрай савецкай традыцыі адпраўлены камсамол (БРСМ) і "ручныя" прафсаюзы. Думаецца, што такое б ніколі не магло здарыцца ў Літве ці Польшчы – на другі дзень, калі б такое адбылося ў гэтых краінах – падобныя на беларускія ўлады там больш бы не існавалі. Сорамна, што да гэтага часу ўрад Беларусі ніяк не адрэагаваў на плануемае перазахаваньне ў верасьні 2019 года парэшткаў паўстанцаў 1863-1864 гг., нядаўна знойдзеных у

Вільні. Няма ні рашэньня па афіцыйнай дэлегацыі, няма і заявы ці просьбы адносна неабходнасці зрабіць надмагільныя надпісы па-беларуску, уключаючы і на магіле К. Каліноўскага.

Няўцямныя заявы МЗС і праўладных дэпутатаў нічога не мяняюць. Наяўнасць палітычных зняволеных і пастаянныя арышты беларусаў-актывістаў, якія працягваюцца пры праўленьні дыктатара на працягу чвэрці стагоддзя, прывялі, так падаецца, да таго, што для большасці беларускага насельніцтва прыведзеныя вышэй прыклады антынацыянальнай палітыкі не з'яўляюцца надзвычайнай навіной. Абыякавасць значнай часткі беларусаў да нацыянальнага, якую памылкова называюць памяркоўнасцю, яшчэ больш узрасла за апошні час, і вельмі падобная на тую, якую прапагандуе адзін вядомы ў краіне чалавек.

Як вынік – у краіне існуе вялікая праблема – надзвычайна нізкая нацыянальная свядомасць беларускіх людзей. На заклік прыйсці на малітву ў Курапаты пасля зносу крыжоў з усяго 2-мільённага Мінску прыйшло каля 200 чалавек. Вялікі дзякуй гэтым людзям за іх рашучасць, але калі падлічыць, то гэта колькасць складае толькі 0.01% ад усяго насельніцтва горада. Відавочна, што шлях беларускага народа да сапраўднай свабоды яшчэ далёкі і ляжыць, гэты адзіны, найбольш верагодны шлях, праз нацыянальную і дэмакратычную асьвету беларусаў.

У нумары вы знойдзеце пісьмо-падзяку Літоўскаму ураду за разуменьне і станоўчае рашэньне аб ужываньні беларускай мовы на помніках паўстанцам 1863-1864 гг., якія  плануецца ўсталяваць у Вільні ў верасьні гэтага года. У нумары падаецца інфармацыя аб святкаваньні ў канадыйскай сталіцы Атаве Абвяшчэння незалежнасці БНР.

Безумоўна вас зацікавяць два артыкулы вядомага даследчыка-гісторыка Юрыя Грыбоўскія, прысвечаныя жыцьцю беларусаў падчас нямецкай акупацыі – адзін артыкул пра беларускую музычную і тэатральную чыннасьці ў Латвіі, другі – пра беларусаў у Варшаве.

Таксама вы знойдзеце багата матэрыялаў ад Сяргея Панізьніка – тут фальклор, вершы, успаміны пра Яўгенію Анішчыц, і, нарэшце, вельмі цікава пададзены календар важнейшых дат ужыцьці беларусаў у 2019 годзе, які суправаджаецца вершамі аўтара.

Прыемнага чытаньня.  Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса

*20 красавіка 2019 года, Атава*

Editorial. ***Magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.5-10.***

Dear readers!

The 23rd issue of "Culture. Nation" magazine comes at a time when the existence of the Belarusian nation experiences a challenge with adverse external and internal factors. In fact, over the past six months political and economic problems that come from our East neighbor much worsened. The question is put by an edge - or Belarus will be forced to go in the wake of Russia's strict policies or leadership of the country will be able to get out of a critical situation once again. This is evidenced by numerous facts - an undeniable statement of the Russian Federation Premier-Minister, Mr. Medvedev about the need to deepen the integration of Belarus and Russia in the framework of the Union State (agreement on creation of which was signed in 1999 by Lukashenka and Yeltsin), the appointment to Belarus of aggressive, ignorant in term of our history, the Russian ambassador Mikhail Babich, the threat of higher oil prices for the Belarus, "apple and pear wars", etc.

It has been repeatedly discussed in our magazine that a risky tactical balancing by President Lukashenko between Russia and the West should lead to the creation of just such a situation when aggressive Eurasian movement to the West will undoubtedly dictate Belarusians such political and economic environment which would inevitably lead, sooner or later, to absorption of Belarus by Russia. The result of this "balancing" policy was that the Belarusian government at the moment is forced to ask Russian loans to pay off debts, a deferment to repay 10-billion-loan for the construction of a nuclear power plant, and so on. Add to this a failure in carrying out reforms in the economic sphere.

Such a sad result might be explained by the absence of a clear strategic line of the Belarusian authorities in relation to Russia. So far, in response to the numerous examples of "tightening the screws" on the part of Moscow President Lukashenko proposed to block the pipeline coming from Russia to the West on the Belarusian territory. Thus, between the two countries is now going opened, the previously invisible, war - "soft colonization" of Belarus by Russia and attempts to withstand to it by Belarus. However, once such a strategy would have to be created – if not by the current but a future government! Time to hurry! In Ukraine, our neighbor in the East-Slavic civilization, presidential elections were held. Let's hope that the course of Ukraine to the West (EU

and NATO) does not change which certainly would have a positive impact on the future geopolitical choice of Belarus.

Under the guise of strengthening its "unique" sovereignty based not on national, but on the post-Soviet neo-values, the government pressed far to the periphery the real sovereignty of the nation-state. Unfortunately, the basis of such a negative attitude to everything national is a mentality and outlook of one person, President Lukashenko, who has managed during 25 years of his rule, subjugate everything and everyone. Without his consent in the country is doing nothing. It is obvious that without him could not have done the demolition of crosses in Kurapaty, and the tacit refusal of K. Kalinouski as a national hero.

He was ordered to take off crosses from Kurapaty – it was done. Neither priest protests of main religion confessions nor few public protests did save them. Mr. Lukashenko, who according to the information has never been in Kurapaty, is surrounded by people with dubious attitude to all Belarusian – wearing the NKVD form, erected a monument to the tsar's policemen (zandarm) and guard it, and still do not know who are buried in this national memorial. They ought to read the archived data collected by Marakou which lists tens of thousands of murdered Belarusians - the color of the nation, to understand something, and repent, and not to mock people's memory. Anyone would like to be informed if these people know where the CEC Chairman of Central Election Committee, V. Ganchar, Gen. Y. Zakharenko ... are buried?

Ask every Belarusian and he finds traces of communist regime crimes in Kurapaty. Brother of my grandfather, Siargei Ignatavich Murzionak (1896-1937), came from Western Belarus in Minsk, learned, worked as a judge, was arrested as a Polish spy in August 23, shot on November 22, 1937 in Minsk jail. Where is he buried?! As a joke can be taken the authority words on the Kurapaty improvement, where in good Soviet tradition were sent Komsomol (BRSM) and "tamed" trade unions. It is thought that this would never have happened in Lithuania and Poland - the next day, if it happened in those countries, the government like in Belarus would no longer exist.

It is a shame that so far the government of Belarus did not react to the planned reburial in September 2019 of rebels remains (1863-1864) recently found in Vilnius. No decision on the official delegation, no application or request on the need to make the tombstone inscriptions in Belarusian, including K. Kalinowski grave.

Obscure and unclear statements of Ministry of Foreign Affairs and pro-government deputies do not change anything. The existence of political prisoners and constant arrests

of Belarusian activists, which are continued under the rule of the dictator for a quarter century, led, it seems so, to the fact that for the majority of the Belarusian population examples of anti-national policy of the above is not emergency news. The indifference of a large part of the Belarusians to the national, which is mistakenly referred to as a tolerance, increased even more in recent years, and is very similar to that promoted by the one well-known person in the country.

As a result, the country has a big problem – an extremely low national consciousness of the Belarusian people. To the call for pray in Kurapaty after the demolition of crosses came about 200 people from two million city population. Many thanks to these people for their determination, but if you calculate, the amount consists only 0.01% of the total population of the city. It is clear that the path of the Belarusian people to true freedom is still far and lies, this only and the most likely one, through a national and democratic education of Belarusians.

*Wishing you pleasant reading.*
*The magazine Founder and Editor,*
*Piotra Murzionak*
*April 20, 2019, Ottawa*

Please, send your comments and remarks to the address: chasopis.sakavik@hotmail.com

*Пісьмо-падзяка Літоўскаму ўраду*

Ambassador of the Republic of Lithuania to Canada
150 Metcalf Str. #1600
Ottawa, Ontario, K2P 1P1
613-5675458

Ottawa, April 21, 2019

Dear Ambassador,
We, the members of the Belarusian Institute of Arts and Sciences in Canada (BINIM), would like to add our voices in support of the hundreds of Belarusian cultural and public figures who cosigned the corresponding letter to the President of Lithuania Dalia Grybauskaitė ("Nasha Niva", 23.03.2019). We wish to sincerely thank the Government of the Republic of Lithuania for their efforts to locate the remains of tortured rebels from 1863-1864 and to give them last honorable respects, including a positive decision to use the Belarusian language on the Monuments of Heroes that will be installed in September 2019.

The decision of the Lithuanian government to write the names of heroes in the Belarusian, Lithuanian and Polish languages has once again confirmed the interconnection of history as well as the values of our peoples. One need only recall that in the battle with the Teutonic Knights at Grunwald in 1410, 25 out of 40 banners of the Grand Duchy of Lithuania were from the cities and towns of modern Belarus. Belarusians together with Lithuanians, Poles and Ukrainians lived together for centuries in a federal state, the Polish-Lithuanian Commonwealth. The territory of Belarus and Belarusian warriors were directly involved in three uprisings that took place for the restoration of that Commonwealth.

The uprising of 1863-1864 in Belarusian lands was led in critical moments by Kastus Kalinouski. Some think he is Lithuanian, some that he is a Pole, but please consider the lines written by K. Kalinouski himself in Latinitsa in the Belarusian newspaper "Peasant's Truth" which he published. Whatever the sense of ownership, it is clear that we continue to share a common history and many common historical figures. It seems most desirable then to share and not to divide those prominent figures between our countries. We sincerely believe that Lithuania and Poland, having attained their place in a modern Europe will continue to help Belarusians establish a free democratic state.

Dr. Piotra Murzionak
President, Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada
11 Cramer Drive, Ottawa, ON K2H 5X2; tel.: 613-680-1114

*Артыкулы*

**Пётра Мурзёнак: Куды завялі цябе – беларус?**

Пасля афганскай аванцюры, развалу КПСС і СССР, лёс падарыў Беларусі ў 1990 годзе яшчэ адзін шанс адбудаваць незалежную, самастойную і суверэнную краіну. Фармальна так выглядае. Аднак, па сутнасці, як і іншыя малыя і сярэднія пост-савецкія рэспублікі, Беларусь знаходзіцца пад прэсам – зараз, як і ў часы СССР, яна ўваходзіць у сферу надзвычайна блізкіх геапалітычных інтарэсаў Расіі, як і некаторыя усходне- і цэнтральна-еўрапейскія дзяржавы, якія яшчэ нядаўна былі ў арганізацыі Варшаўскага дагавора. І хаця тэрыторыя і людскі патэнцыял Расійскай імперыі ў выглядзе СССР значна зменшыліся, але небяспека эканамічнага і палітычнага ціску з боку Расіі і падпарадкаваньня нядаўніх “брацкіх” савецкіх рэспублік аж да страты іх незалежнасці і суверэнітэта хвалюе нацыянальныя эліты не толькі ў Беларусі. Можна нават казаць, што на сёняшні дзень палітыка і паводзіны Расіі ў некаторых рэгіёнах Беларусі (Віцебск, Магілёў) нават пераважаюць па свайму уплыву магчымасці і жаданні беларускіх эліт, як кіруючай, так і нацыянальна-свядомай, што тычыцца пабудовы нацыянальнай дзяржавы.

Ніхто не возмецца абсалютна адкінуць страхі і гарантаваць немагчымасць расійскай ваеннай інвазіі у Беларусь, як гэта здарылася з Украінай. Беларусь у першы раз была захоплена Расійскай імперыяй пры падзеле Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст.  Варта нагадаць, што пасля гэтага Расія “прырастала” ў 19-м стагоддзі - Каўказам (1859-1878) і Сярэдняй Азіяй (1854-1885), у 20-м стагоддзі – тэрыторыяй Заходняй Беларусі і Украіны і краінамі Прыбалтыкі (1939-1940), пасля 2-й сусветнай вайны краінамі Усходняй Еўропы, і нядаўна Паўднёвай Асеціяй (Грузія, 2008) і Крымам (Украіна, 2014). Такая агрэсіўная прырода Расійскай дзяржавы.

Добравядомы лідэр ЛДПР, сп. Жырыноўскі,  яшчэ нядаўна заклікаў, каб рускі салдат памыў ногі ў Індыйскім акіяне. Не дзіўна, што 70% палякаў нават у 1994 годзе, ужо пасля развалу Берлінскай сцяны, баяліся ваеннай пагрозы з боку Расіі, і толькі ўступленьне Польшчы ў НАТО ў сакавіку 1999 года крыху супакоіла польскую грамадскасць. Аднак, расійская агрэсія супраць Украіны зноў аднавіла

гэтыя страхі, як у Польшчы, так і ў краінах Прыбалтыкі. Змешчаныя ў гэтыя краінах у 2018 годзе нешматлікія узброеныя сілы НАТО не змяншаюць напругу у гэтым рэгіёне. Такія ж страхі ёсць і ў часткі насельніцтва Беларусі.

Усё ж, у наш час пагроза для беларускай нацыі наўрад ці ляжыць у непасрэднай ваеннай агрэсіі. Супраць магчымага ваеннага захопу Беларусі Расіяй, нягледзячы на тое, што яны саюзнікі па Саюзнай дзяржаве і ОДКБ, як бы сведчаць наступныя факты:

- Беларусь з'яўляецца дзейным сябрам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;
- непарушнасць дзяржаўных граніц у Еўропе пацверджана ў Заключным Акце аб Бяспецы і Супрацоўніцтву ў Еўропе (Хельсінкі, 1975);
- Беларусі дадзены гарантыі бяспекі Расіяй, Вялікабрытаніяй і ЗША ў сувязі з Дамовай аб нераспаўсюджваньні ядзернага ўзбраення і дадатковым мемарандумам, падпісаным 5 снежня 1994 года.

Аднак, саліднасць указаных арганізацый і прынятых пастаноў не гарантуе бяспеку для Беларусі. Такі ж мемарандум, напрыклад, быў падпісаны з Украінай, аднак, гэта не спыніла Расію ад захопу украінскай тэрыторыі, а Вялікабрытанія і ЗША не выканалі сваіх гарантыйных абавязацельстваў. У сувязі з гэтым мемарандумам нельга ўспрымаць як жарт прапанову Прэзідэнта Пуціна ў 2005 годзе аб далучэньні Беларусі да Расіі шасцю губернямі. Дарэчы, урад Беларусі на той час ніяк афіцыйна не адрэагаваў на гэта. Тым не менш, малаверагодна чакаць паўтарэньня расійскай ваеннай агрэсіі гібрыднага тыпу ("зялёныя чалавечкі"), якая адбылася ва Украіне. Так думаецца таму, што вядучыя заходнія краіны здолелі з дапамогай санкцый стрымаць агрэсара, па крайней меры на нейкі час.

Відавочна, што лёс беларускай нацыі будзе шмат у чым залежыць ад эканамічных і палітычных рычагоў з боку Расіі, скіраваных на тое каб паступова падпарадкаваць і інтэграваць Беларусь у свой склад шляхам "мяккай каланізацыі", знішчыўшы ідэалагічна і культуральна беларускі этнас. Рэакцыя нацыянальна-свядомых сіл на такую расійскую палітыку прадказальная – яны будуць супраціўляцца ўсімі даступнымі сродкамі. А вось як будзе рэагаваць правячая эліта дакладна невядома. Хаця менавіта ад дзеяньняў дзяржавы, і асабліва Прэзідэнта Лукашэнкі, можа адкрыцца як адмоўны, так і станоўчы сцэнар для будучыні беларускай дзяржавы.

Чаго толькі варта адна яго заява ад 15 лютага 2019 года падчас сустрэчы з Пуціным у Сочы: маўляў, яны ўдвух з Пуціным гатовы яднацца, аднак, ці гатовы расіяне і беларусы да гэтага? Далучэнне беларускай тэрыторыі да Расіі, пры адпаведнай

згодзе Лукашэнкі на поўную страту беларускага суверэнітэту і незалежнасці, цалкам магчымае, бо ў Расіі, паводле Канстытуцыі, няма права нацый і народаў на самавызначэньне. Таму Беларусь у найлепшым варыянце магла б атрымаць статус аўтаномнай нацыянальнай рэспублікі РФ. Гэта быў бы найлепшы варыянт для Лукашэнкі – змог бы зберагчы на нейкі час уладу на “беларускай” тэрыторыі. Можна думаць, што па прычыне многанацыянальнасці Расіі для Беларусі будзе немагчымым патрабаваць спецыяльны аўтаномны статус іншага узроўню ад таго што маюць расійскія аўтаномныя нацыянальныя рэспублікі.

Калі казаць пра сёняшні дзень, то ў складзе Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, Беларусь мае дзяржаўны статус. Ці зможа яна зберагаць яго ў Саюзнай дзяржаве і як доўга? На самай справе, да гэтага часу не вызначаны палітычна-юрыдычны статус Саюзнай дзяржавы. Што гэта – федэрацыя, канфедэрацыя? Намеры аб стварэньні агульных наддзяржаўных органаў прапісаны, аднак, абодва бакі не спяшаюцца іх рэалізоўваць. З другога боку, вы не знойдзеце і ніякіх сігналаў падтрымкі ў будаўніцтве і ўмацаваньні нацыянальных дзяржаў у пост-савецкіх рэспубліках, у прыватнасці Беларусі і Украіны, як з боку дзейнай расійскай улады, так і з боку абсалютнай большасці расійскіх лібералаў-дэмакратаў. Гэта ж невыпадкова, што ва Указе Прэзідэнта РФ, Пуціна (№495 ад 24.08.2018) аб прызначэньні ў Беларусь паслом сп. М. Бабіча назва краіны даецца ў старым напісаньні – “ ... в Республике Белоруссия”, а трэба “Рэспубліка Беларусь”. Не спяшаюцца ісці на цесную інтэграцыю і ў Беларусі, як Лукашэнка, нягледзячы на яго дзіўную рыторыку, так і яго бліжэйшае акружэньне.

Так выглядае, што палітычнае рашэнне аб з’яданьні Беларусі і Расіі зараз адкрыта не стаіць на павестцы дня, што падмацоўваецца і заявамі на высокім узроўні з абодвух бакоў. Таму, можа быць другі, немілітарны і больш спакойны варыянт – “мяккай каланізацыі”, які па ўсёй верагоднасці будзе імкнуцца праводзіць Расія. Відавочна, што нацыянальная палітыка ў самой Расіі мяняецца. Яшчэ зусім нядаўна, 19 снежня 2012 года Пуцін падпісаў Указ «О стратегии государственной национальной политики Российской Федерации на период до 2025 года», дзе канстатуецца, што ў РФ выкарыстоўваецца 277 моў і дыялектаў, у дзяржаўнай сыстэме адукацыі выкарыстоўваецца 89 моў, з іх – 30 у якасці моў навучаньня, 59 – у якасці вучэбнага прадмета. Аднак, ужо ў 2018 годзе ім было заяўлена, што бацькі не мусяць прымушаць сваіх дзяцей вывучаць родную мову ў аўтаномных нацыянальных рэспубліках. Гэта выклікала шэраг пратэстаў у Татарыі, Мардовіі, Бурацііі. Сітуацыя, вельмі падобная на беларускую, дзе выбар мовы навучаньня добраахвотны (беларуская або руская мова), што пры пануючым выкарыстаньні рускай мовы непазбежна вядзе да знішчэння мовы каранной нацыі і паступовай

асіміляцыі самой нацыі у рускі мір. Пра нацыяналізм беларусаў у такім фармаце гаварыць не прыйдзецца. Прыкладам таму з'яўляецца знікненьне яшчэ ў 11-12 ст. такіх плямёнаў і народаў як мяшчэра, мурома, меря, склаўшых аснову вялікарускага этнаса, і змяншэнне ў Расіі колькасці людзей іншых нацыянальнасцяў у наш час – у параўнаньні з даваенным часам колькасць мардвінаў, карэлаў, вепсаў, іжорцаў зменшылася у некалькі разоў. Гэта ж будзе чакаць пасля паглынаньня і беларусаў, справа толькі часу.

Іншая справа, што зараз у Расіі ратуюць за моцную цэнтралізаваную "дзяржаву Пуціна" (Суркоў, 2019) http://www.ng.ru/ideas/2019-02-11/5_7503_surkov.html і адпаведна можна чакаць замену федэральнага устройства і ўвядзеньне губерняў. У Расіі ўжо скасаваны дзве ці тры нацыянальныя вобласці. Да таго ж уведзены 8 федэральных акругаў і 11 эканамічных раёнаў, якія нівеліруюць нацыянальную прыналежнасць насельніцтва у гэтых адміністратыўных падзелах. Але ці пагодзяцца Татарстан і яшчэ 20 аўтаномных нацыянальных рэспублік Расійскай Федэрацыі, у якіх пражывае больш за 20 мільёнаў чалавек,ператварыцца ў губернатарствы?

Калі ўзгадаць прыклад Чачні, дзе калабарацыйны мір быў дасягнуты праз гібель соцен тысяч дарослых і дзяцей, і рэальную сітуацыю сёння на Каўказе, то здавалася б, што такое рашэньне пакуль малаверагоднае, але ... магчымае. У такім выпадку, Беларусь не будзе мець нават статус аўтаномнай рэспублікі і будзе існаваць у складзе Расіі ў найгоршым выглядзе – шасцю беларускімі губернямі. Асаблівасці многанацыянальнага складу Расійскай Федэрацыі сведчаць таксама супраць магчымасці стварэньня панславянскай дзяржавы з удзелам Украіны, Беларусі – такая ідэя раней абмяркоўвалася, але зараз, здаецца, не актуальная, больш тэарэтычная, па прычыне расійска-украінскай вайны.

На жаль, знешняя пагроза нацыянальным інтарэсам Беларусі ідзе як і раней з Усходу, а не з Захаду. Стратэгічная задача для беларускай нацыі гэта выскачыць з пад-уплыву і абдымкаў еўразійскай Расіі і як мінімум дабіцца у першую чаргу нейтральнага існаваньня беларускай дзяржавы ў асяроддзі еўрапейскіх краін. У апошнія гады кіраўніцтва Расіі сфармулявала стратэгію на зберажэньне так званага "русского мира". У выніку – чалавецтва паўстала перад пагрозай новай вайны і падзелу свету. Здаецца, што сучасная стратэгія Расіі ідзе далей чым рэалізацыя ідэй панславізма і еўразізма, і скіравана на аднаўленьне і прызнаньне уплывовага сусветнага цэнтру са сталіцай у Маскве. Далучэньне да Расіі аднаго-двух дадатковых суб'ектаў істотна не паўплывае на "нацыянальную расійскую палітру".

Аднак, далучэньне ці ўключэньне Беларусі ці Украіны ў склад Расіі надоўга будзе азначаць страту гэтымі нацыямі шанса развівацца самастойна ў свабодным свеце.

Калі ў Расіі не адбудзецца адкат ад імперскага мышленьня і ідэі ўзнаўленьня былой гегемоніі ў сьвеце, то яна, як пераемніца духоўнай спадчыны Расійскай імперыі і СССР, пацягне Беларусь на дно як "Цітанік". Калі судзіць па нядаўняму артыкулу Суркова адказ ад ідэі цэнтралізаванай "дзяржавы Пуціна" малаверагодны. Усё ж падаецца, што беларусы не адносяцца да таго "глыбіннага народа", на які спадзяецца указаны аўтар-еўразіст пры будаўніцтве новай канструкцыі Расіі.

Кіраўніцтва Расіі працягвае гнуць сваю лінію, скіраваную на падрыў суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. 2 верасня 2017 года прэм'ер РФ Д. Мядзведзеў на паседжаньні ўрада Расіі абмяркоўваў прапанову падпісаць Пагадненьне паміж Расіяй і Беларуссю аб расійскай авіяцыйнай базе на беларускай тэрыторыі, якое "будзе садзейнічаць арганізацыі сумеснай аховы знешняй мяжы саюзнай дзяржавы ў паветранай прасторы і стварэнні Адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь і доўгатэрмінова замацуе расійскую вайсковую прысутнасць у рэгіёне». Праўда, на фоне шматлікіх эканамічных войн (малочных, цэментных, нафтавых) паміж Беларусьсю і Расіяй у 2017-2018 годзе такая неабходнасць у ваеннай базе адпала з прычыны «немэтазгоднасці». Аднак, дадайце, у 2017 годзе расійскія і беларускія войскі правялі вайсовыя вучэньні «Захад» на тэрыторыі Беларусі, у 2019 годзе у Беларусі плануюцца вучэньні войск ОДКБ. Абвастрэньне халоднай вайны і сбліжэньне да вайны гарачай адбываецца паміж Расіяй і ЗША, Расіяй і НАТА, а Беларусь не толькі знаходзіцца на гэтай мяжы, а і з'уляецца непасрэдным ваенным і палітычным саюзнікам Расіі. З гэтага вынікае непасрэдная ваенная пагроза нашай краіне ў выпадку сутыкненьня сіл, уключаных у канфлікт. У дадатак, у Беларусі напладзіліся шматлікія пра-расійскія арганізацыі (больш за сотню), якія змогуць адыграць пры неабходнасці роль 5-й калоны. Казакі, якіх ніколі не было заўважна на беларускай тэрыторыі цягам вякоў (хіба што падчас набегаў), ужо пайшлі ў прэзідэнты краіны (М. Улаховіч, выбары-2015).

Ёсьць шмат фактаў, якія сьведчаць аб тым, што ідэалагічная вайна супраць беларускага нацыяналізму з боку Расіі вядзецца даўно, і на жаль, міжволі ці нават пры магчымай падтрымцы з боку беларускай улады. Імкненьне беларускага народа да свабоды і незалежнасьці знаходзяцца пад атакай ідэй аб адзінстве трох усходнеславянскіх народаў, на дапамогу прыходзіць несастарэлая, прыхаваная савецка-камуністычная ідэалогія, а таксама гераічнае змаганьне народаў СССР

супраць фашысцкай агрэсіі падчас ІІ-й сусьветнай вайны. Прыгадаем толькі нядаўнія факты:

– журналісты "Нашай Нівы" паказалі 2017 годзе, што беларускія дзеці з Віцебскага рэгіёна накіроўваюцца ў ваеньна-патрыятычныя лагеры Расіі, дзе яны "выхоўваюцца" пад кіраўніцтвам людзей з нацыстскімі паглядамі;

– сп. Гіркін, чалавек, які ўзначальваў захоп г. Славянска ў 2014 годзе падчас вайны ў Данбасе, стварыў арганізацыю, якая імкнецца да аб'яднаньня Беларусі і Украіны з Расіяй;

– расійская прапаганда праз тэлебачаньне і радыё на шматлікіх каналах безальтэрнатыўна замбіруе насельніцтва Беларусі ("Крым – наш", фашысты-бандэраўцы кіруюць у Кіеве, абвінавачваньні ў мяккай беларусізацыі, і г.д.);

- расійскія цэнтры навукі і культуры адкрыты ў Мінску і ў Брэсьце, хутка будзе адкрыты ў Гомелі, а затым у астатніх абласных цэнтрах.

Навідавоку няспынны паток у Беларусь высокіх гасцей з Масквы. Так, у маі-чэрвені 2016 года Мінск наведалі: С. Лаўроў, міністр замежных спраў РФ, 16.05.2016, "аб сумесным супрацьстаяньні пашырэньню НАТО на ўсход»; У. Пуцін, 8.06.2016, "абмеркаваньне ўзгодненай палітыкі ў Саюзнай дзяржаве"; В. Матвіенка, спікер Дзяржсавета РФ, 8.06.2016, "з ідэяй адзінай візы для Саюзнай дзяржавы"; С. Нарышкін, спікер Дзярждумы РФ, 10.06.2016, 50-я сэсія Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі: "Наше взаимодействие представляет бесценный опыт, является живым примером как для евразийской экономической интеграции, так и для других новых международных площадок").

Тут трэба заўважыць, што ў ельцынскія часы, калі Лукашэнка разыгрываў расійскую карту, ён шмат ездзіў па Расіі – зараз жа сітуацыя зьмянілася на процілеглую. У снежні 2018 года у Брэсце на паседжаньні Саюзнай дзяржавы сп. Д. Мядзьведзеў фактычна запатрабаваў паглыбіць інтэграцыю паводле дамовы аб стварэньні Саюзнай дзяржавы Беларусь-Расія, уключна з увядзеньнем адзінай валюты, адзінай таможні, суда, падліковай палаты і г.д. 25 снежня 2018 сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, дзе праходзіла абмеркаваньне умоў паставак нафты ў Беларусь, закончылася дамоўленасцю аб стварэнні працоўнай групы для распрацоўкі пытаньняў далейшай інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы. Паўторная спроба Лукашэнкі вытаргаваць нафтавыя прэферэнцыі з Пуціным 29 снежня 2018 года не прывяла да посьпеху. У той жа час, на пачатку 2019 года прадстаўнік Расіі ў Саюзнай дзяржаве сп. Рапота заявіў, што расійская працоўная група ўжо працуе над 15 празнымі праектамі па далейшай магчымай інтэграцыі дзвюх краін (у красавіку гэтыя расійскія прапановы ўжо былі перададзены

беларускаму боку, які здаецца не спяшаецца з аналагічнай працай). У лютым 2019 года, Лукашэнка і Пуцін зноў сустракаюцца, цяпер ужо на перамовы запрашаліся міністры адукацыі, культуры і спорту, што таксама сведчыць аб магчымых планах «мяккага» паглынання Беларусі Расіяй.

Відавочна, што сцэнару "мяккай каланізацыі" спрыяе, вольна ці нявольна, і курс на яднаньне з Расіяй, узяты Лукашэнкам на самым пачатку яго абраньня прэзідэнтам, курс, які абцяжарвае развіцьцё краіны. І не толькі таму, што Беларусь прывязана да расійскіх прыродных рэсурсаў і яе эканомікі – многія краіны знаходзяцца ў падобным узаемазалежным стане, напрыклад, Канада і ЗША, дзе эканамічныя і палітычныя стасункі цывілізаваныя і раўнапраўныя. Справа ў тым, што Лукашэнка, забаўляючы вярхушку Расіі, выціснуў з краіны амаль усе свядомыя беларускія сілы, па крайней меры, задавіў актыўнасць нацыянальна-свядомай эліты, якая яшчэ спрабуе штосці здзейсніць. Відавочна, ён перастараўся, бо ў значнай ступені спаліў масты для магчымага адступленьня і выкарыстаньня "беларускай" карты. Хаця па-сапраўднаму гэта было варта пачынаць рабіць яшчэ 25 год таму назад. Па звестках Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце Беларусі на пачатку 2019 года беларускай мовай дома карыстаецца не болей 3% насельніцтва. Непрыймальным з'яўляецца стан грамадзянскай супольнасці, якая з самага пачатку кіраваньня Лукашэнкі з 1994 года пачала прыціскацца ў Беларусі - прыцясненні прэсы, палітычных рухаў, незалежных грамадскіх арганізацый, наяўнасць палітзняволеных. Цікава, што сітуацыя ў Расіі зараз па многіх аспектах нагадвае Беларусь.

Калі казаць пра іншыя унутраныя неспрыяльныя фактары, то трэба адзначыць, што залежнасць эканомікі Беларусі ад Расіі вельмі высокая – каля 50% беларускага экспарту і імпарту завязана на Расію (каля 90% экспартуемага мяса і малака ідзе ў Расію, каля 95% паставак нафты ў Беларусь ідзе з Расіі). Тое балансаваньне, паміж эканамічнымі прэферэнцыямі, якія імкнецца дасягнуць Лукашэнка ад Расіі, і той вымушанай палітычнай аплатай за іх, вельмі небяспечнае. У інтэрв'ю, які даў "Нашай Ніве" былы беларускі дысідэнд М. Кукабака (25.04.2014), выказана думка што тое, што робіць Лукашэнка з'яўляецца найлепшым у абароне суверэнітэта Беларусі пакуль у Расіі кіруе Пуцін. Магчыма, што многія людзі падзяляюць яго думку і прызнаюць існаваньне "феномена Лукашэнкі". Але беларускаму кіраўніцтву ў цяперашняй сітуацыі трэба быць больш рашучым, калі яно сапраўды імкнецца зберагчы суверэнітэт і незалежнасць краіны. Спробы шукаць альтэрнатыўныя падыходы, да прыкладу, праз сумесныя праекты Украіны, Беларусі і Літвы, як гэта абмяркоўвалася міністрамі замежных спраў гэтых краін (14.08.2015), выглядаюць не зусім пераканаўчымі. У той жа час, увядзеньне

Беларусьсю 5-дзённага, а затым 30-дзённага бязвізавага ўезду у краіну (2017-2018), было добрай дэманстрацыяй правядзеньня суверэннай палітыкі без аглядкі на Расію.

На старонках "Нашай Нівы" (9.06.2016) прачытаў меркаваньне аб тым, што "Расейцы — гэта нашыя суседзі, руская мова — гэта таксама наша мова, як бы хто ні рабіў выгляд, што яна нам ёсьць чужой. … Расейцы — культурна не чужыя людзі сучаснаму беларусу. " Сказана добра ў тым сэнсе, што расейцы і іх мова не чужыя – але ж і не родныя. Расія – блізкая геаграфічна (суседзі), але не блізкая па сваёй ментальнасьці. Мы – не "рускія са знакам якасьці", як кажа А. Лукашэнка, а проста мы розныя, і шляхі ў нас мусяць быць рознымі, а сябраваць трэба з усімі суседзямі. Гэта рознасьць дае падставы народу Беларусі на асобнае існаваньне, без каланіяльнай залежнасьці і прымусу з боку еўразійскай цывілізацыі. Частка нашай агульнай ўсходнеславянскай цывілізацыі, Украіна, спрабуе сёньня праз вайну вырвацца з палітычнага, эканамічнага і духоўнага уплыву з боку еўразійскай Расіі. Беларусь, маючы з Украінай вельмі падобны лёс, будзе імкнуцца ці імкнецца абараніцца ад паглынаньня "рускім мірам" і не мае іншага выйсьця як шукаць свой шлях.

Напрасна кіраўнік Беларусі цешыцца, што амаль усе беларусы размаўляюць па руску і таму не варта баяцца расійскай агрэсіі, як гэта адбываецца ў адносінах да Украіны. Але ж менавіта рускамоўнасць і была адным з матываў агрэсіі на Украіне. Як толькі Беларусь павернецца тварам да роднай мовы, гэты расійскі «хай» без сумненьня адразу ўзнікне. Відавочна, што небяспека для ўсходнеславянскай цывілізацыі і для беларускай і украінскай нацый сёння ідзе з Расіі. Аб тым, што такая пагроза рэальная, сьведчыць наша гісторыя – толькі за 13 год вайны з Масковіяй (1654-1667) загінула каля 1.4 млн беларусаў з агульнай колькасці жыхароў у 2.9 млн; у 30-40-я гады 20 ст. знішчана большая частка беларускай эліты. Ці можна перакрыць страты ў мінулым горам і стратамі 2-й сусветнай вайны, якія ў асноўным помняць у Беларус, бо гэтая памяць ўзведзена на ўзровень дзяржаўнай прапаганды? Справа не ў супрацьпастаўленьні беларускага і украінскага народаў, і народаў РФ, а ў тым, каб яны мелі магчымасць жыць у свабодных краінах і паважалі выбар сваіх суседзяў. Відаць планы ў кіраўніка Беларусі не скіраваны на нацыянальнае будаўніцтва - хацелася б, каб за нешматлікімі станоўчымі фразамі аб беларускай мове і нацыі была не толькі вымушаная рыторыка, але і рэальныя дзеяньні. Пакуль што, Беларусь будуе рускамоўную цывільную дзяржаву, а сваім падпісаньнем дамовы аб Еўразійскім Саюзе лезе ў пашчу дракону, якому патрэбны новыя і новыя ахвяры.

Як выстаяць Беларусі ва ўмовах расійскага прэсу ды яшчэ зберагчы і адбудаваць нацыянальную краіну? Прыклад Украіны сведчыць, што для гэтага патрэбна мабілізацыя ўсіх унутраных сіл нацыі. Каб падпарадкаваць Украіну, краіну па маштабах не маленькую, Расія пачала ваенную агрэсію і анэксавала Крым (сакавік 2014) і працягвае правакацыйную гібрыдную вайну у Данбасе. Расія, парушаючы шматлікія міжнародныя дамовы, ня здолеўшы пераадолець нечаканы і ярасны супраціў украінскага народа, зараз уступіла ў геапалітычную канфрантацыю за украінскую прастору з ЗША і Еўрапейскім Саюзам. Сёння з-за пагрозы з боку Расіі хвалююцца тыя ж краіны Усходняй Еўропы, што калісьці былі захоплены Гітлерам і Сталіным паводле пакта Молатава-Рыбентропа ў 1939 годзе.

Тым не менш не варта траціць надзею. Гісторыя развіваецца паступова. Імперыя адступае і агрызаецца. Вырвацца з расійскага і савецкага плену вельмі цяжка. Людзі, што змагаюцца за сапраўдны суверэнітэт без разбору ганьбяцца, празываюцца на Украіне бандэраўцамі, на Беларусі – бэ-нэ-эфаўцамі ці нацыяналістамі ў горшым сэнсе гэтага слова. Замест стваральнай працы па паляпшэньню жыцця сваіх народаў у Расійскай Федэрацыі працягваюцца гульні “у нашых і ворагаў” у выглядзе беларуска-расійскіх і іншых вайсковых вучэньняў, рэалізуецца новая форма захопніцкай вайны, названая гібрыднай, зноў будуецца «Берлінская сцяна».

Расія сваёй агрэсіяй у адносінах да Украіны паказала свой Еўразійскі твар. Відавочна, што гэта агрэсія надоўга паставіць крыж на ўтварэньні “славянскіх” саюзаў. У нармальных умовах “Славянскія базары” патрэбны для развіцця дружбы паміж народамі, але калі яны становяцца інстументамі ў палітыцы, то ўрэшце яны ператвараюцца ў сцэну для пошукаў ворагаў ці прыхільнікаў, як гэта адбываецца на конкурсах Еўрабачаньня, ці як гэта адбывалася ў перыяд халоднай вайны.

Апошняя вайна скончылася 70 гадоў таму назад. Як быццам жывём у мірны перыяд. Аднак, успомнім колькі спробаў было ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе здабыць свабоду ў краінамі, якія знаходзіліся пад акупацыяй СССР: ГДР (1953), Венгрыя (1956), Польшча (1956), Чэхаславакія (1967) - усе яны былі брутальна падаўлены. Аб’яўленьне незалежнасці Чачні ад Расіі ў 1991 г. скончыліся двумя кровапралітнымі войнамі (1994-1996, 1999-2009) і чарговым заваяваньнем Чачні, толькі ўмяшанне заходніх краін спыніла захоп Грузіі Расіяй (2008). І вось зараз Україна (2014).

Каб апраўдаць сваю агрэсіўнасць у Расіі прыдумываюць прыгожыя тэрміны, такія як “принуждение к дружбе” (Грузія, 2008), “вежливые люди” \ “зялёные чалавечкі” і “защита прав русскоязычных” (Украіна, 2014). Не выключана, што расійская

агрэсія можа не скончыцца толькі захопам Крыма і ўсходніх рэгіёнаў Украіны. Хвалююцца балгары, пагражаюць румынам, латышам, літоўцам, эстонцам – народам якія спазналі ГУЛАГі і усе любаты рабскага стану. Для многіх з упамянутых вышэй краін сітуацыя кардынальна памянялася. Менавіта гэтыя краіны, якія знаходзяцца бліжэй да Расіі, трубяць на ўвесь свет аб пагрозе для свабоды і дэмакратыі, у адрозненьне ад заходніх краін, якія пакрысе толькі пачынаюць разумець, што адбываецца, і што ім пагражае.

Не складае выключэньне і Беларусь. Стан Беларусі дваякі – заднаго боку па многіх аспектах (палітычных, эканамічных, ваенных) яна значна залежыць ад Расіі, але з другога боку як суб’ект міжнароднага права і незалежная краіна – яна мусіць весці сябе адпаведна статусу. З’яўляючыся сябрам ААН і Руху недалучэньня, Беларусь мусіла б удзельнічаць у санкцыях супраць суседа-агрэсара нараўне з іншымі краінамі, якія прытрымліваюцца рашэньняў ААН. Аднак, парадокс у тым, што Беларусь знаходзіцца ў альянсе з Расіяй, краінай-агрэсарам. На жаль, мы жывём не на высьпе, маем з Расіяй працяглыя межы (1200 км). Беларусь удзельнічае у Арганізацыі дагавора аб калектыўнай бясьпецы (АДКБ), мае агульную з Расіяй супрацьпаветраную абарону на заходнім накірунку і вайсковыя расійскія базы на тэрыторыі краіны, праводзіць штогадовыя сумесныя вайсковыя вучэньні.

Так, Расія забяспечвае ядзерны парасон для Беларусі, але даверу да Расіі як гаранту незалежнасці і суверэнітэту беларускай краіны абсалютна няма. Расія напала на блізкую нам гістарычна і ментальна украінскую дзяржаву. Ці магчыма Беларусі і надалей знаходзіцца ў альянсе з Расіяй і заўжды адчуваць над сваёй галавой небясьпеку напаткаць такіж самы лёс як Украіна? Можна нагадаць таксама пра ўтварэньне новых расійскіх анклаваў – Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Прыднястроўя, Крыма – на тэрыторыях, якія яшчэ нядаўна ўваходзілі ў Грузію, Малдавію і Украіну. Відавочна, што трэба знайсці нейкія іншыя шляхі, каб дыстанцыявацца ад агрэсара як мага далей.

Безумоўна, што нацыянальнае будаўніцтва трывае значны супраціў савецкай спадчыны, носьбітам якой з'яўляецца і сучаснае беларускае кіраўніцтва. Але, калі капнуць глыбей, то гэты супраціў ідзе з часоў Расійскай імперыі. Расія не хоча даваць волі, як сваім шматлікім народам, так і сваім блізкім суседзям. Страціўшы уплыў на краіны сацыялістычнага лагера, зараз інтарэсы імперскай Расіі скіраваны на кантроль над краінамі СНГ. І асабліва зацікаўлена Расія ў кантролі над Беларусьсю і Украінай. Гэта цікаўнасць базуецца як на старых міфах, запачатых у часы Пятра I і Кацярыны II, аб пераемнасці гістарычнай спадчыны Кіеўскай Русі да Расіі і аб трыадзінстве трох славянскіх народаў, так і на геапалітычных інтарэсах. Па-праўдзе, Расія, у параўнаньні з Беларуссю і Украінай, зусім не славянская

краіна. Сёняшняя агрэсія Расіі ў адносінах да Украіны – гэта практычны доказ антаганістычнага існаваньня еўразійскай і нашай усходне-славянскай\заходне-рутэнскай цывілізацый, канфлікт паміж якімі непазбежны. Шкада, што далейшае іх размежаваньне адбываецца не мірным шляхам і з вялікімі ахвярамі. Але гэты працэс выдаецца незваротным.

Калі казаць пра знешні фактар, то змяншэнне ўплыву Расіі заўжды выклікала пад'ём нацыянальнага руху на Беларусі (як і на іншых акраінах імперыі) і было б жаданым. Аднак, спадзеўкі каго-нібудзь на развал Расіі, змены там улады ці нават на падтрымку Расіі павінны быць адкінутыя. Па той прычыне, што Расія, па сваёй прыродзе, ніколі не прызнае самастойнага развіцьця як Украіны, так і Беларусі.

Хістаньні кіраўніцтва Беларусі ад дэкларатыўнага жадання ўмацоўваць нацыянальную дзяржаву і мову да братаньня з рускім мядзведзем да добрых вынікаў не прывядуць. Калі кіраўнік Беларусі лічыць кіраўніка Расіі сваім родным братам, то гэта яго асабістая справа. Зыходзячы нават з хрысціянскіх пастулатаў, усе людзі на зямлі браты і сёстры. Аднак, калі старэйшы брат лічыць, што малодшы брат павінен слепа выконваць ягоныя загады, то чакаць добрых адносін паміж імі не прыходзіцца. Навошта нам такая радня? Але і вырвацца кіруючай эліце з пасткі, пабудаванай Прэзідэнтам Лукашэнкам, вельмі складана і патрабуе рашучых і асцярожных крокаў.

Бліжэйшая пагроза для Беларусі, як думаецца, ідзе з Расіі, і не як краіны з вялізным ваенным, эканамічным і палітычным патэнцыялам, а як краіны якая нясе ідэалогію еўразізма, ідэалогію верхавенства дзяржавы над асобай, калектывісцкага менталітэту над індывідуальным, павагі да моцных аўтарытарных лідэраў. Гэта моцна адрознівае Расію ад Беларусі, якая падчас доўгай гісторыі набыла шмат прыкмет заходняй цывілізацыі. Яшчэ адзін бадай самы небяспечны фактар для беларускай нацыі заключаецца ў тым, што Расія, валодаючы шматграннай культурнай спадчынай і сучаснай культурай і карыстаючы рускую мову як інструмент, можа паглынаць культуры малых краін, уключна з краінамі пост-савецкай прасторы. Супраць Беларусі можа спрацаваць расійская палітыка "мяккай каланізацыі". Усё гэта разам падштурхоўвае беларускія эліты, як праўладную, так і нацыянальна-свядомую, шукаць, абгрунтоўваць і абараняць свой спецыфічны шлях для зберажэньня і развіцьця нацыянальнай дзяржавы.

**Piotra Murzionak: Where you've been brought - Belarusian?**
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.12-23,*** www.sakavik.net ***)***

An analysis of the current interrelations between Belarus and Russia is provided. The nearest threat for Belarus, as it seems, comes from Russia, and not as a country with a huge military, economic and political potential, as well as a country bearing Eurasism ideology, the ideology of the rule of the state over the individual, a collectivist mentality over the individual, respect for strong authoritarian leaders. Another, perhaps the most dangerous factor for the Belarusian nation lies in the fact that Russia, having a multi-faceted cultural heritage and contemporary culture and using the Russian language as a tool, can absorb the culture of small countries, including the post-Soviet space. Russian policy can work against Belarus as a "soft colonization". All this together is pushing the Belarusian elites, both pro-government and national-motivated, to seek, to justify and defend its own specific way for the preservation and development of the nation-state.

**Юры Грыбоўскі: Да гісторыі беларускай музычнай і тэатральнай чыннасьці ў Латвіі падчас нямецкай акупацыі**

У міжваенны час адным з цэнтраў беларускай нацыянальна-культурнай дзейнасьці была Латвія. Асноўная колькасьць латвійскіх беларусаў пражывала ў Латгаліі, дзе яны былі аўтахтонным насельніцтвам. Дзякуючы вельмі лібэральнаму заканадаўству Латвійскай рэспублікі да 1934 г. мясцовыя беларусы карысталіся нацыянальна-культурнай аўтаноміяй, якая аднак была ліквідавана разам з усталяваньнем у краіне аўтарытарнага рэжыму Карліса Ўльманіса. У пэрыяд нямецкай акупацыі (1941-19445 г.) нацыянальна-культурнае жыцьцё латвійскіх беларусаў значна актывізавалася. Спрыяла гэтаму прагматычная палітыка акупантаў. Адным з істотных аспэктаў гэтага беларускага жыцьця ў гэты час была музычная й тэатральная чыннасьць. У дадзеным артыкуле падрабязна разглядаюцца ўмовы, у якіх адбывалася дзейнасьць беларускіх музыкаў і актораў, а таксама аналізуюцца вынікі іх працы.

***

Латвія займае заўважнае месца ў гісторыі беларускага нацыянальна-адраджэнчага руху ў 20 стагоддзі. У міжваенны час беларусы належылі да найбольш шматлікіх (пасьля расейцаў, немцаў, габрэяй і палякаў) групаў сярод прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў Латвіі. Беларусы ў сваёй большасьці былі аўтахтонамі на латвійскай зямлі. Месцам кампактнага пражываньня латвійскіх беларусаў была паўднёва-усходння частка краіны – Латгалія. Асноўную масу беларускага насельцнітва ў Латвіі складала незаможнае сялянства. Першыя спробы беларускага адраджэнцкага руху сяродлатгальскай беларускай вёскі адносяцца да пэрыяду Першай сусьветнай вайны, калі ў паўднёвай Латгаліі быў створаны Беларускі рэвалюцыйны камітэт, дзеячы якога дамагаліся адкрыцьця беларускіх школаў. Адразу пасьля заканчэньня Вялікай Вайны, у 1919-1921 г. цэнтар цяжару беларускага руху ў Латвіі перасунуўся ў Рыгу. Гэта было зьвязана са зьяўленьнем ў сталіцы дзеячоў БНР і адкрыцьцём дыплёматычных прадстаўніцтваў гэтае краіны. Так, у 1919 г. распачала сваю дзейнасьць Вайскова-дыплёматычная місія БНР на чале з Кастусём Езавітавым. Адчыніліся дыпляматычныя прадстаўніцтвы БНР у Рызе і Лібаве. Тады ж актывізавалася мясцовая беларуская калёнія.

Пасьля Рыскага міру некаторыя беларускія дзеячы, у тым ліку Езавітаў, абралі Латвію ў якасьці сталага месца жыхарства. Да іх далучылася група аднадумцаў, якія прыбылі з Польшчы (Іван Краскоўскі, Андрэй Якубецкі, Паўліна Мядзёлка і інш.). Гэта нешматлікая група дзеячоў стала ля вытокаў беларускага нацыянальна-культурнага, асьветнага і грамадзка-палітычнага жыцьця ў Латвіі ў міжваенны час. З цягам часу да эмігрантаў пачалі далучацца мясцовыя актывісты. За непрацяглы час удалося разгарнуць шпаркую грамадзка-культурную, асьветную, выдавецкую й палітычную чыннасьць. Дзякуючы ахвярным высілкам нешматлікай групы людзей Латвійская рэспубліка, побач з іншымі эўрапейскімі дзяржавамі (Польшча, Чэхаславаччына, Літва), стала адным з галоўных асяродкаў беларускага руху ў міжваенны час. Першай і найбуйнейшай арганізацыяй латвійскіх беларусаў былоБеларускае культурна-асьветнае таварыства "Бацькаўшчына", якое дзейнічала ў 1921-1925 г. У пазьнейшы пэрыяд яго працу працягвалі таварыствы "Рунь", "Беларуская хата", Беларускае настаўніцкае таварыства і іншыя. У краіне было створана беларускае школьніцтва, якое ў часе свайго ўздымку налічвала 50 пачатковых школаў і 3 сярэднія. У Рызе выходзілі беларускія пэрыёдыкі, друкавалася літаратура. Рабіліся захады, каб разгарнуць палітычную і каапэратыўную працу. Такім чынам, засеянае дзеячамі БНР каліва нацыянальнага руху добра прыжылося на латвійскай глебе й прынесла значны плён.

Пра трываласьць мясцовага беларускага нацыянальнага жыцьця яскрава сьведчыць факт, што яго не спыніў ані дзяржаўны пераварот Карліса Ульманіса (1934 г.) і ўвядзеньне ў краіне аўтарытарнага рэжыму, ані нават завіруха Другой сусьветнай вайны. Пры гэтым варта адзначыць, што падчас апошняй назіралася значнае ажыўленьне беларускай нацыянальна-культурнай працы ў Латвіі. Прычынай гэтага стану быў шэраг складаных геапалітычных і мілітарных чыньнікаў. У сувязі з гэтым неабходна больш падрабязна спыніцца на падзеях ваеннага часу. Улетку 1940 г. Латвія была пазбаўлена дзяржаўнай незалежнасьці і гвалтоўна далучана да Савецкага Саюза. Савецкае панаваньне ня было аднак працяглым. Сытуацыя зьмянілася з пачаткам нямецка-савецкай вайны. У выніку маланкавага наступу нямецкіх войскаў ужо на пачатку ліпеня 1941 г.уся Латвія была занятая Вэрмахтам. Такім чынам, савецкая акупацыя зьмянілася савецкай. У краіне ўсталяваўся нямецкі акупацыйны рэжым, які на большай частцы Латвіі доўжыўся тры гады. Акупанты стварылі Генэральную акругу "Латвія", якая была часткай Рэйхскамісарыяту "Остлянд" са сталіцай у Рызе.

Акупанты ведалі, што латвійскае грамадзтва адрозьнівалася вельмі стракатым нацыянальны склад. У сувязі з гэтым кіруючыся расавымі ды палітычна-мілітарнымі меркаваньнямі Бэрлін вырашыў дазволіць існаваньне пэўнай нацыянальна-культурнай і асьветнай аўтаноміі некаторым нацыянальным

меншасьцям, сярод іх беларусам. Па-ранейшаму беларусы былі адной з найбуйнейшых на колькасьці нацыянальных групаў Латвіі. Праведзены 24 лютага 1943 г. перапіс жыхароў у Генэральнай акрузе “Латвія” паказаў, што на гэным абшары пражывала 48 601 беларусаў (2,76% агульнай колькасьці жахарства). Нацыянальна-культурная аўтаномія ва ўмовах нямецкай акупацыі праяўлялася ў дзейнасьці грамадзкай арганізацыі й школьніцтва. У верасьні 1941 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (ад вясны 1942 г. – Беларускае аб’яднаньне) у Генэральнай акрузе “Латвія”. Гэтай арганізацыяй кіраваў Кастуся Езавітаў, а сярод актыву належыць пералічыць, між іншым, Андрэя Якубецкага, Сяргея Сахарава, Алеся Махноўскага, Пётру Мірановіча, Мікалая Дзямідава. Гэта арганізацыя ператварылася ў рухавік беларускай нацыянальна-культурнай і асьветнай працы ў акупаванай Латвіі. Многія аспэкты дзейнасьці беларускага актыву ўжо былі прадметам нашай дасьледчыцкай увагі і дачакаліся навуковага апрацаваньня. У дадзенай публікацыі варта засяродзіцца на адным зь іх, а менавіта – на музычнай і тэатральнай працы.

Беларускі актыў Латвіі ставіў сабе за мэту нацыянальнае ўсьведамленьне мясцовага беларускага жыхарства, нацыянальная сьвядомасьць якога ў значнай ступені было яшчэ несфармаванае. Дасягнуць гэтай мэты было магчыма ня толькі дзякуючы роднай школе, але таксама праз інтэнсыўную культурную працу. Невыпадкова адным з прыярытэтаў дзейнасьці вышэйзгаданага аб’яднаньня было ладжаньне канцэртаў і музычных фэстаў, стварэньне хораў, а таксама аматарскіх і вандроўных тэатраў. Ужо ўлетку 1941 г. пачалася праца па стварэньні беларускіх хораў. У гэты час быў створаны калектыў у мясцовасьці Індра, якім кіраваў Мікалай Гаўбштэйн. Пры дапамозе дзьвінскага аддзела Беларускага Нацыянальнага камітэтуўвесну 1942 г.у Дзьвінску пачалася праца пад стварэньнем «беларускай драматычнай дружыны» над кіраўніцтвам Язэпа Камаржынскага. Дзякуючы Я. Камаржынскаму і М. Гаўбштэйну пры аддзелах Беларускага аб’яднаньня ў Індры і Краславе ў хуткім часе былі створаны аматарскія драматычныя дружыны і хоры. З мэтай кіраваньня драматычнымі гурткамі ў Дзьвінск прыехаў Аляксандар Новікаў, былы рэжысэр віцебскага 2-га Беларускага дзяржаўнага тэатру. Тым часам дырыгент М. Гаўбштэйн узначаліў працу хораў. Выніку іх працы не давялося доўга чакаць. Восеньню 1942 г. пры аддзеле Беларускага аб’яднаньня ў Дзьвінску пачала працу аматарская трупа (кіраўнік А. Новікаў), якая раз-два ў месяц ставіла п’есы і канцэрты ў Дзьвінску, Індры і Краславе.

У жніўні, верасьні і кастрычніку 1942 г. драматычныя гурткі арганізавалі некалькі паказаў у Латгаліі. Спачатку акторы гралі дзьве п’есы — «Птушка шчасьця» Францішка Аляхновіча й «Мікітаў лапаць» Міхася Чарота. Прыбытак з мерапрыемстваў прызначаўся на беларускія культурна-асьветныя патрэбы.

Архіўныя крыніцы дазваляюць досыць падрабязна прасачыць за працай беларускіх калектываў. Так, напрыклад, 16 жніўня 1942 г.умястэчку Пустын намаганнямі сяброў Беларускага аб'яднаньня і ўдзельнікаў настаўніцкіх курсаў была пастаўлена п'еса «Птушка шчасьця», у якой галоўныя ролі выканалі Ігнат Блажэвіч, Зьміцер Юркевіч, Антон Пунін, Г. Дзяргач і іншыя. Выступіў таксама хор над кіраўніцтвам М. Гаўбштэйна. Прысутнічала каля тысячы чалавек, у тым ліку нямецкі камэндант Індры, прадстаўнікі латыскай адміністрацыі й паліцыі. Гэтая ж пастаноўка ў выкананьні тых жа артыстаў адбылася 23 жніўня ў Краславе па ініцыятыве мясцовага аддзела Беларускага аб'яданьня. Адным з пунктаў праграмы быў выступ Габрыелі Вікснэ-Апініс з Рыгі, якая выканала шэраг беларускіх («Скрыпка», «У садочку цвітучым» А. Туранкова, «Ай да ў нашым сяле» Зінчука), латыскіх і нямецкіх песьняў. 29 жніўня ў Краслаўцы пад рэжысурай Я. Камаржынскага была пастаўлена п'еса «Мікітаў лапаць», у якой выступілі Мікалай Талерка, Барбара Эндсберг, І. Блажэвіч, В. Пурыньш, А. Пунін. Пасьля спэктакля адбыўся выступ балета ў выкананьні групы вучаніцаў мясцовай пачатковай школы пад кіраўніцтвам Элізы Казакевіч. 30 жніўня ў Дзьвінску ў залі Дома яднаньня драматычны калектыў сыграў п'есу «Мікітаў лапаць». Заслугоўвае ўвагі тое, што на паказ прыбыло шмат беларусаў з Друі. Гэта была адна з першых сустрэчпў землякоў, якія працяглы час жылі па абодва бакі былой дзяржаўнай мяжы. Намаганьнямі аддзела Беларускага аб'яднаньня ў Індры 13 верасьня 1942 г. у Прыдруйску адбыўся паказ вышэйзгаданай п'есы Ф. Аляхновіча. 29 верасьня 1942 г. падчас урачыстага ўручэньня дыплёмаў удзельнікам настаўніцкіх курсаў пры беларускай гімназіі ў Індры драматычны калектыў мясцовага аддзела Беларускага аб'яднаньня пад кіраўніцтвам Я. Камаржынскага сыграў п'есу «Мікітаў лапаць», у якой выступілі акцёры Юзэфа Оруп-Васілеўская, Вольга Пурыньш-Мадзалеўская, Б. Эндсберг, М. Талерка, І. Блажэвіч. 1 кастрычніка 1942 г. драматычны гурток з Індры прыбыў у Друю па запрашэньні тамтэйшай беларускай школы. Індраўцы паставілі п'есу М. Чарота і арганізавалі выступы двух квартэтаў сьпевакоў. Вось як пісала пра гэтую падзею бэрлінская беларуская газэта «Раніца»: *«Вечарына прайшла з вялікім посьпехам і паклала пачатак цеснаму супрацоўніцтву беларускіх культурных сіл, штучна падзеленых у свой час мурам польска-латыскай мяжы, якая 20 год праходзіла па жывому целу беларускага народу й разрывала яго на часткі, аддаючы гэтыя часткі пад панаваньне чужынцаў»*.

Кіраўніцтва Беларускага аб'яднаньня плянавала гастролі ня толькі ў Латгаліі, але таксама у памежных з Латвіяй ваколіцах Браслава, Дрысы, Полацка й Себежа. Разьлік рабіўся на тое, каб незалежна ад Дзьвінска на правінцыі дзейнічалі драматычныя «дружыны», якія пад кіраўніцтвам мясцовых рэжысэраў маглі б самастойна ставіць п'сы ў вёсках. Аднак галоўным асяродкам тэатральнай працы

па-ранейшаму заставаўся Дзьвінск. 8 лістапада 1942 г.у горадзе адбыўся вялікі канцэрт беларускіх песьняў, падчас якога выступілі квартэт Беларускага аб'ядання ў Індры, Вольга Бароўская і Габрыеля Вікснэ. Аранжыраваў квартэту арганіст з Індры Язэп Станкевіч. 15 лістапада 1942 г. драматычны гурток дзьвінскага аддзела Беларускага аб'яданьня пад кіраўніцтвам А. Новікава паставіў п'есу М. Машары «Лёгкі хлеб». На паказе, які адбыўся ў будынку беларускай гімназіі ў Індры, прысутнічала больш за 500 гледачоў. Наступны спэктакль паводле гэтай п'есы адбыўся 22 лістапада 1942 г.у Краславе. На ім прысутнічала каля 450 гледачоў. 29 лістапада 1942 г. адбылася пастаноўка «Лёгкага хлеба» ў Дзьвінску, на якую прыйшло каля 800 чалавек. У наступным годзе артысты пашырылі свой рэпэртуар. У студзені 1943 г.у Дзьвінску былазладжаная вечарына беларускіх вадэвіляў, падчас якога адбыліся інсцэніроўкі твораў «Пярэстая красуля» А. Чужыніна, «Міхалка» Далецкіх і «Чорт і баба» Ф. Аляхновіча. 14 лютага 1943 г. у вялікай залі дзьвінскага Дома афіцэраў мясцовы драматычны гурток Беларускага аб'яднаньня пад кіраўніцтвам рэжысэра А. Новікава ўпершыню паставіў камэдыю Ф. Аляхновіча «Шчасьлівы муж». Посьпехі дзьвінскіх беларускіх актораў настолькі ўразілі кіраўніцтва Беларускага аб'яднаньня, што ўлетку 1943 г. абмяркоўвалася магчымасьць адкрыцьця ў Дзьвінску беларускага тэатра й опэры.

Тым часам працягвалі дзейнічаць драматычныя калектывы ў іншых мясцовасьцях. 2 студзеня 1943 г.у 7-й беларускай пачатковай школе ў вёсцы Гаравая (воласьць Скайста) адбылася вечарына з удзелам квартэта індраўскага Беларускага аб'яднаньня (кіраўнікі М. Гаўбштэйн і Я. Станкевіч) і драматычнай «дружыны» гэтага ж аддзела, якая паставіла п'есу «Птушка шчасьця» (рэжысэр З. Юркевіч). Паказ сабраў каля 600 гледачоў, сярод якіх былі вучні й бацькі беларускай школы, настаўнікі суседніх латыскіх школаў, камэндант Індры. Паводле сведчаньняў прысутных панаваў узнёслы й бадзёры настрой. 24 студзеня 1943 г. драматычны гурток індраўскага аддзела Беларускага аб'яднаньня ўпершыню паставіў п'есу «Боты». Пастаноўка была падрыхтавана Мікалаем Талеркам, а гралі ў ёй Вольга Мадзялеўская-Пурыньш, Эдвард і Канстанцін Сушынскія. У Індры існаваў таксама балетны гурток (кіраўніца Эліза Казакевіч) і мужчынскі квартэт (кіраўнік Язэп Станкевіч). Кастусь Езавітаў лічыў, што ў Індры варта таксама арганізаваць народны хор. Улетку 1943 г. аддзел Беларускага аб'яднаньня ў Зілупэ выйшаў з ініцыятывай стварэньня ўласнага хору. З гэтай мэтай 13 ліпеня 1943 г. кіраўніцтва аддзела зьвярнулася да цэнтральнай управы з просьбай дапамагчы набыць матарыял для пашыву народных строяў.

Выступы драматычных калектываў і хораў карысталіся папулярнасьцю гледачоў, але якасьць пастановак жадала быць лепшай. Рэцэнзэнты зьвярталі ўвагу на

небеззаганны грым і вопратку актораў, што не заўсёды адпавядалі ролям, якія выконваліся. Больш за тое, акторы-аматары не заўсёды былі здольныя на адпаведным узроўні выканаць свае ролі. Часамі кідалася ў вочы кепскае веданьне беларускай мовы. Вось якім чынам адзін з рэцэнзэнтаў дзяліўся сваімі крытычнымі заўвагамі пра спэктакль «Шчаслівы муж»: *«Г. Ліндэ гуляла на гэты раз у ролі старое дзяўчыны Уршулі, гуляла сярэдне. У яе гульні было трохі зашмат гістэрычнай нервовасьці, што можа выліцца ў празьмернасьць. Пажадаемо нашай аматарцы больш увагі звярнуць на міміку ды адшуканьне ў ад'ёмных баках сонечных месцаў, сэрца, што надае гульні больш веры. Прыяцельку Фельку гуляла Т. Мацвеева, і хаця адгуляла добра, аднак сэрца ў гульню не ўклала і яе Ганулька у „Лёгкім хлебе" была больш вартаснай. Гаўдэнта Залепку слаўна падаў на сцэне А. Абалевіч, аднак вопратка, як для жагнага жонкай мужа паслужніка была забагатая. Трэба адзначыць гульню І. Жукоўскай у ролі Мар'яны. І. Ж. як і Н. Лама абацаюць вырабіцца на значныя артыстычныя постаці нашага тэатру. Яе гульня — адбіткам сапраўднага жыцьця на сцэне. […] Рэжысёр А. Новікаў гуляў мнімага графа — Ільдэфонса Мацальскага. Гуляў сярэдне, але тэксту не ведаў, ды і троху перасаліваў, чаму ў гледача зьяўляецца сумніў, як можна закахацца ў гэтакага грубага мужчыну. Вельмі дрэнна ў яго стаіць справа з мовай, і беларускі глядач патрабуе дасканалага веданьня беларускай мовы, як ад рэжысёра і артыстага. Асабліва дрэнна быў паложаны грым амаль ва ўсіх артыстаў, за вынікам двух-трох, і не адпавядаў тым ролям, якія гуляліся»*.

Працу дзьвінскага драматычнага гуртка ўскладнялі непаразуменні паміж рэжэсёрам А. Новікавым і некаторымі акторамі. Карэспандэнт газеты «Наш шлях» наступным чынам характарызаваў сутнасьць спрэчкі: *«Ці ўжо мы сапраўды нагэтулькі неграмадскія людзі, што аднойчы не скончым усе спрэчкі? Брыдка выносіць сваё смяцьцё на чужы падворак, але гэта ўжо адбылося, і таму спынімся на гэтым крыху шырэй. Што датычыцца непаладу сп. рэжысёра з некаторымі акцёрамі-аматарамі, дык віна тут абодвух бакоў. Сп. Новікаву, як рэжысёру, можна закінуць толькі часам кінутыя словы лаянкі ды магчыма абцяжаранасць працай у двох народаў. Але найбольш віны нашых актораў, якія ўжо бяруцца праводзіць рэжысюры, не маючы ні спэцыяльнае асьветы, ані вялікае практыкі. Тут, паважаныя спадары акторы, нам трэба яшчэ вучыцца, і таму адкінуць ганарлівыя мроі стацца Міровічам»*. З цягам часу атмасфэра ў калектыве яшчэ больш пагоршылася. Сьведчыць пра гэта ліст (1 чэрвеня 1943 г.) Алеся Махноўскага да Кастуся Езавітава, у якім чытаем: *«З Новікавым надалей працаваць немагчыма. Патрэбен рэжысёр. А дзе яго шукаць? У тэатры старэнна адчуваецца недахоп белар. інтэлігентных сіл. Зарэзала і адсутнасць п'ес для тэатра на белар. мове»*. Аўтар радкоў прызнаваў, што рэпэртуар дзьвінскага

тэатру яшчэ недасканалы, але заклікаў трымацца ўласна беларускіх твораў, а не квапіцца адразу на чужыя пераклады, бо *«ад маскоўшчыны ў нас яшчэ галава баліць ад часоў бальшавікоў»*.

З мэтай паляпшэньня якасьці працы драматычнай «дружыны» дзьвінскія беларусы былі вымушаны зьвярнуцца па дапамогу ў Менскі гарадзкі тэатр. У кастрычніку 1943 г. сакратар Дзьвінскага аддзела Беларускага аб'яднаньня Алесь Махноўскі ў лісьце да Язэпа Найдзюка прасіў прыслаць з Менска рэжысэра-артыста, які *«здолеў бы наладзіць і паставіць на патрэбную вышыню наш тэатр, каб ён даваў пастаноўкі не горшыя, чым даюць латыскі і расейскі дзьвінскія тэатры»*. Ён жа жаліўся на адсутнасьць новых п'есаў і прасіў, каб менчукі падзяліліся сваім рэпэртуарам. З мэтай наладжваньня супрацоўніцтва ў Менск выехала настаўніца Тамара Мацвеева. Тым часам намаганьнямі К. Езавітава рабіліся пераклады іншамоўных п'есаў, перш за ўсё латыскіх. Нягледзячы на вышэйзгаданыя цяжкасьці аматарскі калектыў у Дзьвінску не спыніў сваёй працы. У 1944 г. драматычная «дружына» паставіла камэдыю Мамантавай «Ружовае павуціньне».

Праявы беларускага культурнага жыцьця назіраліся ня толькі ў Латгаліі, але таксама ў Рызе. Галоўным ініцыятарам беларускіх урачыстасьцяў, якія звычайна адбываліся ў будынках беларускіх школаў, быў К. Езавітаў. На беларускіх вечарынах сьпявалі арыі з опэраў і народныя песьні. Восеньню 1942 г.у Рызе адбыўся канцэрт беларускай песьні й музыкі. Выканаўцамі зьяўляліся беларускія пэдагогій вучні, як, напрыклад, настаўніца 1-й рыскай беларускай школы Вольга Бароўская-Пігулеўская. У 1942 г. кіраўніцтва Беларускага аб'яднаньня атрымала згоду акупацыйных уладаў на вяшчаньне ў Рызе радыёперадачаў зь беларускімі народнымі сьпевамі. Адначасова кіраўніцтва Беларускага аб'яднаньня зьвярнулася да сьпевакоў з просьбай аб падрыхтоўцы рэпэртуару. На заклік адгукнуліся Анэля Латонас-Дзямідава, Ганна Бедарава, Габрыеля Вікснэ-Апініс і Эрыка Даніэльс. Рыскі кампазытар Дзьмітры Кулькоў напісаў фантазію для скрыпкі, у аснову якой лягла беларуская народная мэлёдыя. Да 20-годдзя творчай дзейнасьці паэта Пятра Масальскага (творчы псэўданім Пятро Сокал) па прапанове Беларускага аб'яднаньня кампазытар А. Туранкоў напісаў музыку да вершаў П. Масальскага «Прытуліcь да мяне» й «Развітаньне».

Беларускі актыў Латвіі рабіў спробы зладзіць выступленні замежных тэатральных калектываў і асобных сьпевакоў. У лістападзе 1942 г. старшыня Беларускага аб'яднаньня зьвярнуўся да старшыні Беларускай народнай самапомачы (БНС) Івана Ермачэнкі з просьбай накіраваць у турнэ па Латвіі групу беларускіх сьпевакоў з менскай опэрнай трупы: кампазытара Міколу Шчаглова, Ніну Бандарыну,

Натальлю Чамярэсаву, Варвару Пукст, Веру Купцэвіч, Стэфанію Ласкавец, Яна Лапаціна, Мікалая Вастокава йвіяланчэліста Мікалая Арлова. Канцэрты павінны былі адбыцца ад 25 сьнежня 1942 да 10 студзеня 1943 г.у Дзьвінску, Індры, Рызе, Краславе й Зілупэ. Пры гэтым плянаваўся таксама выступу памежнай з Латвіяй Друі.

Да латвійскіх беларусаў завітвалі таксама значныя славутасьці. Зараз варта спыніцца на выступах у Латвіі вядомага тагачаснага беларускага тэнара Міхася Забэйды-Суміцкага. Восеньню 1942 г. К. Езавітаў зьвярнуўся да старшыні бэрлінскага Беларускага камітэту самапомачы (БКС) Мікалая Абрамчыка з просьбай дапамагчы скантактавацца са сьпеваком. Тэнар пагадзіўся наведаць з канцэртамі Латвію, і ўлетку 1943 г. адбыліся яго першыя гастролі ў гэтай краіне. Агулам сьпявак даў сем канцэртаў у Латгаліі: Дзьвінску (9 і 11 ліпеня), Краславе (4 ліпеня), Індры (18 ліпеня), Люцыне (22 ліпеня), Зілупэ (24 ліпеня) і Пасіене (25 ліпеня). Рэпэртуар сьпевака складаўся з твораў беларускіх і замежных аўтараў (з перавагай першых). Падчас канцэрту маэстра акампаніравала мясцовая сьпявачка В. Бароўская, якая таксама выканала некалькі твораў. Сярод запрошаных на канцэрты былі прадстаўнікі беларускай грамадзкасьці й настаўніцтва, нямецкіх цывільных і вайсковых уладаў, латыскага самакіраваньня. Актыў дзьвінскага аддзела Беларускага аб’яднаньня вельмі станоўча ацэньваў вынікі турнэ, і ў сувязі з гэтым плянаваўся яго працяг у другой палове 1943 г. У лісьце кіраўніцтва дзьвінскага аддзела да цэнтральнай управы ад 31 жніўня 1943 г. чытаем: *«Усе канцэрты прайшлі надзвычай добра і з вялікім мастацкім і матар’яльным посьпехам. Беларускай песьняй у выкананьні нашага сьпевака Забэйды-Суміцкага цешыліся, прызналі прыгожасьць мэлёдыяў і высокае мастацкае выкананьне ня толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых народаў. Канцэрты Забэйды-Суміцкага зьяўляліся заменай беларускага нацыянальнага сьвята сьпеваў, якое не ўдалося па незалежным ад нас прычынам наладзіць разам з латышамі»*. Дзьвінскія беларусы зьвярнуліся з прапановай да цэнтральнай управы, каб апублікаваць беларускамоўны рэпэртуар сьпевака. Пасьля завяршэньня канцэртаў у Латгаліі М. Забэйда-Суміцкі некалькі тыдняў адпачываў у адным з фальваркаў у ваколіцах Люцына.

Падчас знаходжаньня ў Латвіі тэнар атрымаў ад кіраўніцтва Беларускага аб’яднаньня прапанову заняць пасаду рэжысэра й дырэктара беларускага тэатру і опэры ў Дзьвінску. Кастусь Езавітаў спадзяваўся, што згода тэнара дазволіць у будучыні стварыць музычную школу і кансэрваторыю. Сьпявак не выказаў аднак зацікаўленасьці. На думку К. Езавітава неабходна было арганізаваць канцэрты ў ваколіцах Рэжыцы і Ілукшты, а таксама ў Рызе. Задуму ўдалося аднак ажыццявіць

толькі часткова. Па запрашэньні Беларускага аб’яднаньня восеньню 1943 г. М. Забэйда-Суміцкі зноў наведаў Латвію, дзе даў канцэрт у Рызе (28 верасня) і Лібаве (4 кастрычніка). У студзені 1944 г. былі заплянаваны чарговыя канцэрты тэнара ў Рызе і Дзьвінску, якія аднак не адбыліся па прычыне хваробы сьпевака.

Заняцьце Чырвонай Арміяй большай часткі Латвіі улетку й восеньню 1944 г. спыніла беларускую культурна-асьветную працу ў гэтай краіне. Найбольш актыўныя дзеячы й завадатары беларускага жыцьця былі вымушаныя ратаваць свае жыцьцё. Па-рознаму склаўся іх далейшы лёс. Адны (напрыклад, Алесь Махноўскі, Пётра Мірановіч) ў паваенны пэрыяд апынуліся на Захадзе, дзе бралі чынны ўдзел у жыцьці беларускага замежжа. Іншыя (Сяргей Сахараў) прайшлі пекла сталінскіх лягераў альбо страцілі жыцьцё ў савецкіх катоўнях (Кастусь Езавітаў). Лёс яшчэ іншых (Андрэй Якубецкі) недзе згубіўся ў віры ваенных падзеяў.

Падсумоўваючы належыць адзначыць, што пад нямецкай акупацыяй у Латвіі адбылося ажыўленьне мясцовага беларускага нацыянальнага жыцьця. Галоўным чыньнікам, які гэтаму спрыяў, была палітыка акупантаў. Кіруючыся халодным палітычным разьлікам і жаданьнем падначаліць сабе захопленыя землі ўлады Трэцяга Рэйху дазволілі пэўную культурна-асьветную аўтаномію беларусаў. Галоўным рухавіком беларускага руху ў гэты час стала Беларускае аб’яднаньне ў Генэральнай акрузе «Латвія». Маштаб беларускай дзейнасьці ў 1941-1944 г. нічым не саступаў беларускай нацыянальнай актыўнасьці ў Латвіі ў міжваенны час, а ў дачыненьні да пэрыяду знаходжаньня краіны пад панаваньнем аўтарытарнага рэжыму Улманіса, а потым пад савецкай акупацыяй быў значна большы. Бясспрэчна, што дасягненьне гэтага было немагчыма без самаахвярнай і самаадданай працы мясцовага беларускага актыву. Асабліва належыць адзначыць ролю Кастуся Езавітава як пачынальніка і галоўнага завадатара большасьці ініцыятываў. Адным з істотных аспэктаў дзейнасьці беларускіхдзеячоў была драматычна-тэатральная чыннасьць, што знайшло сваё адлюстраваньне ў шматлікіх мерыпрыемствах: стварэньні аматарскіх хораў і драматычных калектываў, наладжаньні выступаў і фэстаў, арганізаваньні турнэ выканаўцаў з-за мяжы. Галоўнай мэтай дадзенай працы было захаваньне й разьвіцьцё нацыянальнай сьвядомасьці латвійскіх беларусаў. Нягледзячы на шэраг цяжкасьцяў (адсутнасьць належнага досьведу і адмыслоўцаў, кепская матарыяльная база) драматычна-тэатральная праца праходзіла досыць шпарка й ня можа не ўражваць сваім абсягам і дынамічнасьцю. Складана аднак адназначна ацаніць эфэктыўнасьць гэтае працы ва ўмовах вайны і акупацыі. Безумоўна, адказу на гэтае пытаньне варта пашукаць у гістарычных крыніцах.

**References**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Менск

Ф. 458 – Канстанцін Барысавіч Езавітаў

BundesarchivinBerlin-Lichterfelde (Фэдэральны архіў), Бэрлін-Ліхтэрфэльдэ

R 6 - Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete (Міністэрства акупаваных усходніх абшараў)

R 92 - Abteilung für Bildung und Kultur des GeneralbezirkLettland(Дэпартамэнт асьветы і культуры Генэральнай акругі "Латвія")

Latvijas Nacionālais arhīvs Latvijas Valstsvēsturesarhīvs (Латвійскі дзяржаўны гістарычны архіў Латвійскага нацыянальнага архіву), Рыга

F. P-712 – Baltkrievijas sabiedrība (Беларускае аб'яднаньне ў Генэральнай акрузе "Латвія")

Грыбоўскі Ю., *Да гісторыі беларускай школы ў Латвіі пад нямецкай акупацыяй (1941-1944 г.),* "Rocznik Centrum Studiów Białoruskich" 2017, t. 3, s. 38-92.

Грыбоўскі Ю., *З гісторыі беларускага руху ў Латвіі ў міжваенны і ваенны пэрыяды,* „Запісы БІНіМ" 2016, z. 38, s. 457-480.

Грыбоўскі Ю., *Культурна-асветная дзейнасць беларусаў у Латвіі пад нямецкай акупацыяй (1941-1944 гг.),* "Białoruskie Zeszyty Historyczne" 2018, t. 49, c. 181-213.

Грыбоўскі Ю., *Культурна-асьветная й грамадзкая дзейнасьць Кастуся Езавітава ў Латвіі падчас нямецкай акупацыі (1941-1944 гг.),* "Запісы БІНіМ" 2018. Т. 40. С. 645-681.

Грыбоўскі Ю., *"Латвійскі" перыяд дзейнасці Мікалая Дзямідава (1922-1942),* "Беларускі гістарычны агляд" 2016, t. 23, s. 41-71.

Грыбоўскі Ю., *Савецкая рэчаіснасць на бачынах беларускай газеты ў Латвіі "Голас Беларуса" (1925 – 1929 г.),* (w:) *"Światłamasztylewsobie...". Ze studiów wschodniosłowiańskich. Księga pamiątkowa dedykowana Profesorowi Aleksandrowi Barszczewskiemu w osiemdziesiątą piątą rocznicę urodzin,* red. M. Kaczmarczyk, A. Nowacki, M. Sidor, B. Siwek, Lublin 2015, s. 207—222.

Грыбоўскі Ю., *Стварэнне і дзейнасць Беларускага аб'яднання ў Генеральнай акрузе "Латвія" (1941-1944),* „Przegląd Środkowo-Wschodni" 2019, t. 4, numer specjalny: szkice ofiarowane Jerzemu Turonkowi z okazji 90. Rocznicy urodzin, s. 185-240.

Грыбоўскі Ю., *Удзел беларусаў у парламенцкіх выбарах у Латвіі (1922-1931),* "Беларускі гістарычны агляд" 2018. Т. 25. С. 111-148.

Грыбоўскі Ю., *Узаемадачыненні паміж польскім і беларускім рухамі ў Латвіі (1920-1940),* (w:)*Зъ зычливости ку моеи отчизне. Tom patiątkowy dedykowany profesorowi Mikołajowi Timoszukowi*, Warszawa 2017, s. 129-156.

Езавітаў К., *Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства "Бацькаўшчына" ў Латвіі*, Рыга 1932.

Езавітаў К., *Беларуская школа. Першая пасьля лемантара кніга для чытаньня,* Рыга 1926.

Езавітаў К., *Беларусы ў Латвіі,* Рыга 1927 [перадрук: Ню Ёрк – Менск 2013].

Езавітаў К., *Productionовішча беларускае школы ў Латвіі*, Вільня 1923.

Екабсонс Э., *Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах,* (у:) *Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы ІІІ Міжнароднага кангрэса беларусістаў*, Менск 2001, с. 47-71.

Екабсонс Э., *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940–1945),* Беларускі Гістарычны Агляд" 2006, т. 13, сш. 2,с. 199-233.

*Крывіцкія руны. Вып. ІІ: Беларускі культурны мацярык у Латвіі,* рэд.: М. Казлоўскі, С. Панізьнік, Менск 2017.

**Jerzy Grzybowski: The History of Belarusian Music and Theater Activities in Latvia during the German Occupation**

(***magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.24-35,*** *www.sakavik.net*)

In the interwar time one of the centers of the Belarusian national and cultural activities was Latvia. The main part of the Latvian Belarusians lived in Latgallia, where they were the indigenous population. Due to the very liberal legislation of the Republic of Latvia until 1934, local Belarusians enjoyed national-cultural autonomy, which, however, has been eliminated, along with the establishment of the country's authoritarian regime of Karlis Ulmanis. During the German occupation (1941-1945), national-cultural life of Latvian Belarusians increased significantly. A pragmatic policy of occupiers contributed to this. One of the essential aspects of the Belarusian life at this time was a musical and theatrical activity. This article examines in detail the conditions under which the activity of Belarusian musicians and actors occurred as well as it analyzes the results of their work.

**Юры Грыбоўскі: Беларусы ў Варшаве падчас нямецкай акупацыі (1939-1945)**

Адным з асяродкаў беларускага нацыянальнага руху ў гады Другой сусьветнай вайны была Варшава. Галоўную масу беларусаў у польскай сталіцы складалі былыя польскія вайскоўцы, якія ў 1939 г. апынуліся ў нямецкім палоне. Тым часам, рухавіком нацыянальнага жыцьця былі беларускія дзеячы – жыхары даваеннае польскае дзяржавы. Да мясцовых акрывістаў належылі Мікалай Шчорс, Мікалай Ждановіч, Янка Станкевіч, кс. Вінцэнты Гадлеўскі і іншыя. Палітычная й міжнародная кан'юнктура падчас вайны спрыяла актывізацыі нацыянальна-культурнай актыўнасьці беларусаў на акупаваных немцамі абшарах. У выніку ў Варшаве быў створаны Беларускі камітэт у Генэральнай губэрніі, які апекаваўся мясцовымі беларусамі. Акрамя таго, працавала пачатковая школа, дзейнічалі праваслаўная й рыма-каталіцкая парафіі. Культурна-асьветная й рэлігійная чыннасьць варшаўскіх беларусаў была заўважальнай на бацькаўшчыне.

***

Варшава займае заўважнае месца на мапе міжваеннага беларускага нацыянальнага жыцьця. У той час польская сталіцаналежыла да аднаго з найбуйнейшых беларускіх інтэлектуальных асяродкаў у Польшчы. У Варшаве жылі беларускія сэнатары й дэпутаты польскага Сойму такія, як: Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Вячаслаў Багдановіч і іншыя. У сталічных вышэйшых вучэльнях – Варшаўскім Унівэрсытэце й Варшаўскай Політэхніцы – навучаліся многія маладыя беларускія юнакі, якія потым бралі чынны ўдзел у нацыянальна-адраджэнчым руху. Так, напрыклад выхаванкам сталічнай політэхнікі быў Міхась Вітушка. Тым часам, шматгадовым і паважаным прафэсарам гэнай жа вучэльні зьяўляўся прафэсар Вацлаў Іваноўскі, адзін з бацькоў Беларускага Адраджэньня. Некалькі дзесяткаў праваслаўных беларусаў скончыла Факультэт Праваслаўнага Багаслоўя Варшаўскага Ўнівэрсытэту. Сярод іх належыць узгадаць айца Мікалая Лапіцкага, які ў паваенны час быў заснавальнікам і настаяцялем Беларускай Праваслаўнай Парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саут-Рывэр (ЗША). Свой сьлед у польскай сталіцы ў міжваенны час пакінуў іншы беларускі духоўнікі будучы япіскап Апанас (Мартас). Напярэдадні Другой сусьветнай вайны ў Варшаве дзейнічала Беларускае асьветніцкае таварыства.

Пачатак Другой сусьветнай вайны не спыніў беларускага жыцьця ў Варшаве. Наадварот, можна было назіраць пэўную актыўнасьць беларусаў у гэтым горадзе. Праўда, адбывалася яна ўжо ўва ўмовах нямецкай акупацыі. У сувязі з гэтым неабходна больш падрабязна прыгледзіцца акупацыйнай рэчаіснасьці. На

захопленых польскіх тэрыторыях нямецкія ўлады стварылі новы тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел. У кастрычніку 1939 г. было створана Генэрал-губэрнатарства (ГГ), у склад якога ўвайшлі наступныя дыстрыкты: кракаўскі, варшаўскі, люблінскі і радамскі, а ў летам 1941 г. быў таксама ўтвораны галіцыйскі дысктрыкт з цэнтрам у Львове. Тэрыторыя Генэрал-губэрнатарства была аддзелена ад III Рэйха мытнай мяжой. Палітыка акупацыйных уладаў адносна насельніцтва Генэрал-губэрнатарства адзначалася жорсткай эканамічнай эксплюатацыяй і масавым тэрорам. Генерал-губэрнатарства займала значную частку даваеннай польскай дзяржавы. У яго межах сярэдзіне 1941 г. пражывала звыш 16 млн чал. Характэрнай рысай грамадства ГГ была нацыянальная разнароднасьць. Побач з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў фігуравалі таксама беларусы. З нямецкіх крыніцаў вынікае, што ў 1942 г. на тэрыторыі Генэрал-губэрнатарства жыло 10 тыс. беларусаў, і яны знаходзіліся на пятым месцы пасля палякаў, украінцаў, габрэяў і расейцаў.

Немцы мусілі лічыцца са стракатым нацыянальным складам акупаваных абшараў. Стаўленьне акупантаў у дачыненьні да розных нацыянальных групаў не было аднолькавым, што адпавядала прынцыпу “падзяляй і ўладай”. Гэта палітыка знайшла своё адлюстраваньне ў адносінах акупантаў да мясцовых беларусаў. Некаторым нацыянальным групам, у тым ліку беларусам, была дазволена пэўная арганізацыйна-культурная аўтаномія.

Асяродкамі нацыянальна-культурнай актыўнасці былі камітэты самадапамогі, якія дзейнічалі пад пільным наглядам акупацыйных уладаў. Новую палітычную кан’юнктуру не маглі не выкарыстаць мясцовыя беларусія дзеячы. Супрацоўніцтва беларускіх дзеячоў з акупантам падчас Другой сусьветнай вайны ацэніваецца дасьледчыкамі па-рознаму. Належыць разглядаць гэту з’яву ў кантэксце тагачасных палітычных і міжнародных рэаліяў. Новая рэчаіснасьць, якая запанавала з пачаткам Другой сусьветнай вайны з гледзішча беларускіх дзеячаў давала ім шанец на паляпшэньне ўласнага становішча.

Найбольшую арганізацыйнцю актыўнасьць беларусы ГГ праяўлялі менавіта ў Варшаве. Адбывалася гэта перадусім па прычыне таго, што ў горадзе значна павялічылася колькасьць беларусаў. Пасьля 1939 году ў Варшавы прыбыла пэўная колькасьць уцекачоў з Віленшчыны й Наваградчыны, якія ратаваліся перад савецкай акупацыяй. Апрача таго, значную катэгорыю беларусаў, якія апынуліся ў Варшаве й ваколіцах, складалі польскія жаўнеры, якія ў верасьні 1939 году трапілі ў нямецкі палон. Да вясны 1940 году гэтыя людзі ўтрымліваліся ў лягерох ваеннапалонных на тэрыторыі акупаванай Польшчы. Потым распачаўся працэс вызваленьня палонных – украінцаў ды беларусаў. Згодна з нямецкім правам яны лічыліся іншаземнымі

наёмнымі работнікамі, якія накіроўваліся ў якасьці працоўнае сілы ў прамысловыя цэнтры. Пэўная іх частка апынулася менавіта ў польскай сталіцы.

Беларуская актыўнасьць у Варшаве набыла форму грамадзка-культурнай арганізацыі. Яшчэ на пачатку 1939 году старшыня Рады БНР Васіль Захарка апэляваў да нямецкіх уладаў, каб яны дазволілі стварыць у Варшаве беларускі цэнтар. У студзені 1940 г. у Варшаве адбыўся сход мясцовых беларусаў, падчас якога было вырашана стварыць Беларускі саюз самапомачы (БСС). Аднак толькі 9 чэрвеня 1940 г. у Варшаве распачаў працу Беларускі камітэт у Генэральн-губэрнатарстве. Новую арганізацыю ачоліў лекар Мікалай Шчорс, малады, але ўжо дастаткова вядомы на той час беларускі дзеяч. У склад галоўнай управы ўвайшоў сакратар Баляслаў Манкевіч (пазней Мікалай Ждановіч). Галоўная сядзіба гэтай арганізацыі месьцілася на вуліцы Ксёнжэнца, д. 4, кв. 7. Галоўная ўправа камітэта мела ўласную пячатку, на якой зьмяшчаліся выява герба «Пагоня» і надпіс «*WeissruthenischeKomiteeinGeneralgouvernement*». У сакавіку 1942 г. да арганізацыі належала ўжо некалькі тысячаў сяброў. У арганізацыю запісваліся ня толькі беларусы, але таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, якія па кан’юнтуральным прычынах дэкляравалі беларускасьць. Прадстаўнікі інтэлігенцыі складалі нязначны адсотак сяброў камітэту. Тым часам, пераважалі людзі, якія паходзілі з сялянства і мяшчанаў.

Нягледзячы на тое, што Беларускі камітэта быў створаны з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў і фармальна захоўваў ляяльнасьць у дачыненьні да немцаў, у сапраўднасьці многія ягоныя кіраўнікі й сябры не падзялялі стаўкі на супрацоўніцтва з Бэрлінам. Так, напрыклад, група, якая гуртавалася вокол Янкі Станкевіча, ня верыла ў трывалы хаўрус з немцамі, шукала кантактаў з заходнімі альянтамі й вяла патаемныя перамовы з прадстаўнікамі польскага незалежніцкага падпольля. Пасьля выбуху нямецка-савецкай вайны й заняцьця Беларусі Вэрмахтам частка дзеячаў камітэту (напрыклад, Я. Станкевіч) выехала ў Менск, дзе заангажавалася ў арганізацыю акупацыйнай цывільнай адміністрацыі пад нямецкай акупацыяй. Дзеячы Беларускага камітэтуў Генэрал-губэрнатарстве разлічвалі на тое, што немцы зробяць магчымым стварэньне беларускай дзяржавы. У сувязі з гэтым патаемна праектаваўся нават будучы ўрад, у якім ключавыя пасады мусілі атрымаць кіраўнікі варшаўскага Беларускага камітэту. Калі, аднак, аказалася, што ўлады III Рэйха не разглядаюць такой магчымасьці, некаторыя (М. Шчорс) вярнуліся ў Варшаву, дзе засяродзіліся на культурна-асьветнай працай сярод землякоў, якія апынуліся ў польскай сталіцы.

Згодна са статутам, Беларускі камітэт меў грамадзка-культурны характар. Вядома, паўнамоцтвы арганізацыі былі моцна абмежаваныя. Арганізацыя мусіла займацца забеспячэньнем насельніцтва харчаваньнем, адукацыяй, а таксама дапамогай уцекачам, эвакуяванаму насельніцтву (асабліва з тэрыторыі Заходняй Беларусі, далучанай у кастрычніку 1939 г. да Савецкага Саюза) і ваеннапалонным.Не выпадковаў Варшаве мелася камітэцкая сталоўка, якой штодзень карысталіся 150 чалавек. Таксама аказваліся паслугі па юрыдычных кансультацыях і парадах (напрыклад, пісаньне заяваў і скаргаў да нямецкіх уладаў). За невялікую працу аказваліся таксама й лекарскія паслугі (доктар Антон Краскоўскі, вул. Гранічная, д. 10, кв. 7). У сфэры паўнамоцтваў камітэту знаходзілася таксама пытаньне пошуку працы для сваіх сяброў, а таксама выдаваньне грашовых пазыкаў. Акрамя таго, Беларускі камітэт праводзіў актыўную культурна-асветніцкую працу. Ніжэй варта больш падрабязна спыніцца менавіта на культурна-асьветнай дзейнасьці.

Па ініцыятыве Беларускага камітэтуладзіліся суботнія вечарыны для сяброў арганізацыі, на якіх чыталіся рэфэраты на гістарычныя ды культурныя тэмы. Лекцыі й рэфэраты для сяброў арганізацыі чыталі сярод іншых Мікалай Шчорс, Янка Станкевіч, кс. Вінцэнт Гадлеўскі, кс. Пётра Татарыновіч, Часлаў Ханяўка. Акрамя таго, у Варшаве адбываліся вячэрнія курсы беларусазнаўства, якія ўключалі вывучэнне беларускай мовы, гісторыі і геаграфіі Беларусі, а таксама курс нямецкай мовы. Вядома, што лекцыі і курсы пастаянна наведваланекалькі сотняў чалавек. У студзент 1941 г. была створаная моладзевая сэкцыя, апеку над якой узяў на сябе Мікалай Ждановіч. У той жа час утварылася й жаночая сэкцыя, якой апекаваўся кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Пры арганізацыі былі закладзеныя таксама бібліятэка, хор (25 чалавек) і аркестр. Кіраўніцтва камітэту рабіла намаганьні атрымаць згоду акупацыйных ўладаўна выданьне беларускае газэты. Аднак захады беларускіх дзеячоў не прынесьлі плёну. Адсутнасьць уласнага пэрыёдыку кампэнсоўвала беларуская прэса, якая дастаўлялася з-за межаў Генэрал-губэрнатарства. Асаблівым попытам карысталася бэрлінская “Раніца”, на бачынах якой прысутнічала рубрыка, у якой асьвятлялася арганізацыйнае жыцьцё варшаўскіх беларусаў.

Згуртаваная вакол варшаўскага камітэту беларуская калёнія праводзіла таксама музычную і тэатральную працу. Быў створаны аматарскі драматычны гурток. Для гледачоў ставіліся п’есы на беларускай мове (напрыклад, «Выбары старшыні» Янкі Быліный, «Суд» Уладзіслава Галубка), а таксама ладзіліся канцэрты. Аднак бадай што найбольш значным вынікам чыннасьці камітэту было адкрыцьцё восеньню 1942 г. беларускай школы. Сямікласная адукацыйная ўстанова існавала ў 1942—1943 г. і знаходзілася на вуліцы Свентаерскай, д. 18. Гэта была адзіная на тэрыторыі Генэрал-губэрнатарства беларуская школа. У ёй вучыліся

каля 60 чалавек. Большасьць вучняў складалі дзеці з незаможных сем'яў. Дырэктарам школы стаў Васіль Літвінчук. Школа ўтрымлівалася за кошт сродкаў Варшаўскай школьнай управы. Пры школе быў створаны інтэрнат для вучняў (кіраўнік Клеапатра Паўлоўская). Пры школе дзейнічаў складзены з вучняў тэатральны гурток (кіраўнік Людміла Панько). У ліпені й жніўні 1943 г. была арганізавана калёнія для вучняў у вёсцы Забалоцьце, на Падляшшы.

Адным з важных поляў беларускай дзейнасьці ў Варшаве была Праваслаўная царква. Гэта было невыпадковым, паколькі пераважная большасьць мясцовых беларусаў належыла менавіта да праваслаўнага вервызнаньня. Акупацыйныя ўлады дазволілі беларусам стварыць унутры ўласныя царкоўныя структуры, а таксама праводзіць дзейнасць, якая мела на мэце правядзеньне беларусізацыі царкоўнага жыцьця там, дзе былі вернікі беларускай нацыянальнасьці. Восеньню 1940 г. пры Беларускім камітэце ў Варшаве была створана Беларуская царкоўная камісія (старшыня Аляксандар Шыла (з кастрычніка 1943 г. Антон Краскоўскі), сакратар Барыс Сыраб), якая занялася справай уніфікацыі беларускамоўных літургічных тэкстаў. У верасьні 1940 г. беларуская дэлегацыя на чале з М. Шчорсам накіравала мэмарандум да ачольніка Праваслаўнай царквы ў ГГ мэтрапаліта Дыянісія (Валядзінскага), у якім дамагалася стварэньня ў Варшаве беларускай парафіі. У адказ на пастуляты беларускіх дзеячаў ярархвыказаў згоду на заставаньне беларускай праваслаўнай парафіі ў гонар Увядзеньня Багародзіцы ў Храм, якая месьціласяў раёне Саская Кэмпа (вул. Парыская, д. 27). Першапачаткова беларуская грамада фармальна была філіялам мэтрапалітарнага сабору Раўнаапостальнай Марыі Магдалены, але пазьней яна функцыянавала самастойна.

Першым сьвятаром беларускай парафіі стаў айцец архімандрыт Філафей (Уладзімер Нарко), выхаванак Факультэта Праваслаўнага Багаслоўя Варшаўскага Унівэрсытэту. Гэты духоўнік увайшоў таксама ў склад Варшаўскай духоўнай кансысторыі. Вядомае таксама прозьвішча царкоўнага старасты, якім стаў А. Краскоўскі. Стаўленне мітрапаліта Дыянісія да беларускіх пачыннаньняў было вельмі прыхільным. Неаднаразова ярарх неведваў беларускую парафію і адпраўляў набажэнствы. Першая такая багаслужба адбылася ў 1940 г. на прыстольнае сьвятар парафіі (4 сьнежня), пасьля якой адбыўся ўрачысты банкет з удзелам праваcланых сьвятароў і вернікаў. Акрамя таго, у фэсце ўдзельнічаў як прадстаўнік беларускага каталіцкага духавенства кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Сьвятар ад імя беларусаў-каталікоў падзякаваў мэтрапаліту Дыянісію за наведаньне беларускай царкоўнай урачыстасьці й разуменьне патрэбаў беларускіх вернікаў. У прыватнасьці, ён падкрэсліў, што праваслаўныя беларусы Варшавы знаходзяцца ў значна лепшай

сытуацыі чым іх браты каталіцкага веравызнаньня, паколькі апошнія "сьніць аб тым ня могуць, каб да іх прыехаў біскуп, адправіў ім імшу і быў разам зь імі".

Трэба сказаць, што беларускія праваслаўныя дзеячы ў Варшаве рупіліся пра аднаўленьне праваслаўнага жыцьця ў Беларусі.9 верасьня 1941 г. пад кіраўніцтвам мэтрапаліта Дыянісія ў Варшаве была ўтвораная Беларуская царкоўная рада (БЦР), якая мусіла выпрацаваць прынцыпы набыцьця Праваслаўнай царквой у Беларусі самастойнасьці. Пасаду намесьніка кіраўніка Рады заняў айцец архімандрыт Філафей (Нарко). У склад гэтага органа ўвайшлі таксама Антон Краскоўскі і Барыс Стрэльчык. Меркавалася, што БЦР будзе прызнаны акупантамі ў якасьці дарадчага ў праваслаўных справах у Беларусі. На першым паседжаньні, на якім прысутнічалі мітрапаліт Дыянісій, архімандрыт Філафей, Ян Ермачэнка, Антон Краскоўскі, Барыс Стрэльчык, Алесь Вітушка, Анатоль Шкутка, Мікалай Ждановіч і Аляксандар Шыла, была прынята ўхвала, у якой пастулявалася неабходнасьць высвячэньня трох япіскапаў-беларусаў: Феафана (Пратасевіча), Філафея (Нарко) і Апанаса (Мартаса). Ермачэнку й Шкутку было даручана дамагчыся ажыцьцяўленьня вышэйзгаданай задумы шляхам перамоваў з нямецкімі ўладамі – у Менску й Бэрліне. У лістападзе 1941 г. архімандрыт Філафей выехаў у Беларусь, дзе неўзабаве быў высьвячаны на япіскапа. У знак прызнаньня заслуг гэтага сьвятара варшаўскія праваслаўныя беларусы падаравалі сьвежавысвячанаму ярарху каштоўныя панагіі.

Пасьля выезду ў Беларусь айца Філафея новым сьвятаром беларускага прыходу ў Варшаве быў прызначаны айцец Пётр Дубовік. Аднак гэты сьвятар не прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў, бо знаходзіўся ў Нямеччыне. У сувязі з гэтым набажэнствы для беларусаў часова праводзілі айцец Іван Каваленка (сьвятар расейскага прыходу), айцец Апанас Семянюк (вікарый прыходу Страсьцей Господніх і эканом мэтрапалітарнага дома) іайцец Юры Латоцкі. Толькі ў сакавіку 1942 г. мэтрапаліт Дыянісій прызначыў новым пробашчам айца Фёдара Барэцкага. Гэты сьвятар быў украінцам і паходзіў з Галіцыі. Духоўнік адпраўляў набажэнствы з дапамогай дзяка Ананія Герасімчука й псаломшчыка Мікалая Ждановіча. На прыходскае сьвята (4 сьнежня) набажэнствыштогод праводзіў мітрапаліт Дыянісій. Пра далучэньне да беларускага руху абвясьцілі таксама айцец Пятро Сарока і айцец Мікалай Рудакоўскі, якія час ад часу бралі ўдзел у набажэнствах у беларускім прыходзе ў Варшаве.

Беларусы ў Варшаве намагаліся ўтрымліваць зносіны са сваімі братамі на бацькаўшчыне. Устудзені і лютым 1942 г. адбываўся візіт у Менскбеларускай праваслаўнай камісіі Беларускага камітэту. Тым часам, увесну 1942 г. Варшаву

наведалі япіскап Філафей (Нарко), Апанас (Мартас) і япіскапВенядзікт (Сеўба), якія былі ўрачыста прывітаныя кіраўнікамі камітэта. Два першыя ярархі ўзялі ўдзел у сьвяткаваньні абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. З нагоды гэтага сьвята 25 сакавіка 1942 г. мітрапаліт Дыянісій уганараваў іконамі і ўхваленьнямі кіраўніка варшаўскага камітэту М. Шчорса, яго намесьніка М. Ждановіча і А. Шылу, старшыню царкоўнай камісіі. Увесну 1942 г. уладыка выдаў распараджэньне, згодна з якім рэлігійныя патрэбы (хрышчэньні, шлюбы, пахаваньні і г. д.) праваслаўныя беларусы, якія жылі ў Генэрал-губэрнатарстве, маглі задавальняць выключна ў беларускім варшаўскім прыходзе, а не ў парафіях, што належалі іншым нацыянальнасьцям (украінцам і расейцам). Беларуская царкоўная камісія пры Беларускім камітэце распачала ўлік сяброў арганізацыі праваслаўнага веравызнаньня. Было створана таксама парафіяльнае бюро, якое займалася кантактамі зь вернікамі. Наведнікі прымаліся штодзень у сынадальнай канцылярыі (вул. Зыгмунтоўская, д. 13).

Восеньню 1942 г. у Варшаве было створана Беларускае Праваслаўнае Брацтва Сьв. Юр’я. 19 верасня 1942 г. адбылося першае пасяджэньне ўправы, падчас якога былі абраныя ягоныя сябры ў наступным складзе: айцец Ф. Барэцкі (старшыня), А. Краскоўскі (віцэ-старшыня), М. Ждановіч (сакратар), Башчанін (намесьнік сакратара), А. Шыла (скарбнік). Згодна з традыцыяй Праваслаўнай царквы, апеку над брацтвам узяў на сябе мэтрапаліт Дыянісій. Брацтва паставіла сабе за мэту: 1) развіцьцё і ажыўленьне духоўнай асьветы й рэлігійна-маральнага жыцьця сярод беларускага праваслаўнага насельніцва; 2) дзейнасьць супраць сэктантаў і іншых веравызнаньняў, якія пасягаюць на Праваслаўную царкву; 3) спраўленьне ўчынкаў хрысьціянскай міласэрнасці і г.д. Новая арганізацыя разгарнула працу накіраваную на беларусізацыю Праваслаўнай царквы, а таксама паглыбленьне нацыянальнай і рэлігійнай сьвядомасьці праваслаўных беларусаў. Прыярытэтным у дзейнасьці брацтва было выданьне літаратуры, перш за ўсё жыцьцяў беларускіх сьвятых, гістарычных нарысаў славутых манастыроў, а таксама цудатворных абразоў.

Брацтва Сьв. Юр’я выкарыстоўвала сынадальную друкарню Варшаўскай праваслаўнай мэтраполіі. Выдавецкая дзейнасьць брацтва прынесла плён. У 1942 і 1943 г. былі выдадзеныя па-беларуску “Беларускі праваслаўны малітвеньнік”, “Праваслаўны месяцаслоў на 1942 г.” і “Беларускі праваслаўны патэрык”. Гэтыя выданьні былі першымі ў гісторыі Праваслаўнай царквы такімі аб’ёмнымі малітоўнікамі на беларускай мове і ўтрымлівалі ўсе асноўныя малітвы, неабходныя для штодзённага карыстаньня вернікамі (тэкст складаўся сярод іншага з сымбалю веры, падзячных, ранішніх і вячэрніх малітваў). Асабліва заслугоўвае ўвагі “Беларускі праваслаўны малітвеньнік”, які ўтрымліваў наступныя малітвы: малітва

пачатковая, малітва Сьвятому Духу, Анельская песьня, Праслаўленьне Бога, Малітва да Найсьвяцейшай Тройцы, Малітва Гасподня, Анельскае прывітаньне Божай Мацеры, Малітва за бацькаўшчыну, Вызнаньне Праваслаўнае Веры, Дзесяць запаведаў Божых, Ранішняя малітва Сьв. Макара Вялікага, Вячэрняя малітва, Малітва да Анёла Храніцеля, Малітва за жывых, Малітва за памерлых, Пахвала Божай Маці, Малітва да Сьвятога Крыжа, Канчатковая малітва, Малітва перад ежай, Малітва пасьля ежы, Малітва перад вучэньнем, Малітва пасьля вучэньня, Малітва да Сьвятога Апекуна, Малітва да Багародзіцы, Малітва перад прычашчэньнем, Вялікодная песьня, Вялікапостная малітва Сьв. Яфрэма Сырына.

Выдавецкую дзейнасьць меркавалася працягнуць. У беларускай прэсе зьявілася інфармацыя, што ідзе падрыхтоўка да выданьня другой часткі вышэйзгаданага малітоўніка. Брацтва Сьв. Юр’я ў Варшаве было першай беларускай сьвецкай праваслаўнай арганізацыяй падчас Другой сусьветнай вайны. Дзеячы брацтва лічылі сваю арганізацыю працягам традыцый праваслаўных брацтваў у Вялікім Княстве Літоўскім. Беларускія дзеячы зьвязвалі з дзейнасьцю брацтва вялікія надзеі на беларусізацыю праваслаўнага жыцьця на бацькаўшчыне. Неўзабаве ўправа брацтва заахвочвала суайчыньнікаў да заснаваньня брацтваў пры парафіях па ўсёй Беларусі. Пра гэта красамоўна сьведчаць словы Антона Краскоўскага: „*мы маем абавязак парупіцца аб нашым бедным беларускім браце, аказваць яму матэрыяльную помач, падаць брацкую руку ў ягоных цяжкіх перыядах жыцьця. Гэты абавязак перадалі нам нашыя дзяды ў сваіх прыкладах. Ён павінен зьяўляцца для нас таксама сьвятым, як сьвятым для кожнага патрыёта зьяўляецца ягоная родная мова, яго сям’я, народ і бацькаўшчына. [...] Гэтакую арганізаваную працу дасьць нам і загварантуе — арганізацыя! А канкрэтна — Царкоўнае Брацтва. Вось жа дзеля таго зьвяртаемся да ўсіх праваслаўных беларусаў, да ўсіх тых, каторым не чужым ёсьць наш царкоўны звон, хто быў хрышчаны як праваслаўны і ў царкоўнай агародзе пачуваецца сваім, каб арганізаваліся й запісваліся ў царкоўныя брацтвы, каб нясьлі свае супольныя ахвяры кажнамесячна ў меры магчымасьцяў сваю працу на карысьць свайго бліжняга, каб рупіліся аб актывізацыі царкоўнага і народнага жыцьця. Гэты абавязак ляжыць перадусім на настаяцелях прыходаў, манастыроў, ці іншых царкоўных інстытуцыях, на актыўным беларускім царкоўным элемэнце*”.

З мэтай арганізацыі новых брацтваў у 1942 г. у Варшаве накладам Беларускага камітэта быў надрукаваны “Нармальны статут царкоўных брацтваў”, які меркавалася распаўсюджваць сярод землякоў на радзіме і за мяжой.

У 1943 г. у жыцці беларускіх вернікаў у Варшаве адбыліся істотныя падзеі. Па-першае, мэтрапаліт Дыянісій прызначыў беларуса айца Пятра Сароку душпастырам варшаўскіх шпіталяў. Па-другое, у траўні 1943 г. у Варшаве была адчынена праваслаўная духоўная сэмінарыя, у якую прынялі каля 70 сэмінарыстаў. Паводле задумы, сэмінарыя павінна была мець шматнацыянальны характар. Беларускія дзеячы зьвязвалі з ёй вялікія надзеі на падрыхтоўку беларускага духавенства. Лічылася, што адкрыцьцё сталічнай сэмінарыі спрычыніцца да павелічэння колькасьці беларускіх сьвятароў. Не выпадкова сярод прадметаў, якія выкладаліся ў мурох вучэльні, была беларуская мова. Сярод выкладчыкаў сэмінарыі былі беларусы – В. Стрэльчык (філязофія), М. Шчорс (пастарская мэдыцына) і М. Ждановіч (беларуская мова й літаратура). Падчас урачыстага адкрыцця сэмінарыі 4 траўня 1943 г. В. Стрэльчык як прадстаўнік беларускага боку прачытаў на беларускай мове рэфэрат пад назвай „Значэньне й месца філязофскіх навукаў”. Беларускія дзеячы разглядалі Варшаўскую сэмінарыю як адзін з цэнтраў навучання духавенства дзеля патрэбаў беларускага праваслаўя.У сувязі гэтым беларускі варшаўскі актыў заахвочваў родзічаў (напрыклад, у Латвіі) у іншых краінах да пошуку адпаведных кандыдатаў на сэмінарыстаў.

Адна з апошніх узгадак пра беларускую парафію ў Варшаве паходзіць з пачатку 1944 году. Вядома, што на Каляды беларускі прыход у Варшаве наведалі чарнігаўскі япіскап Ніканор (Абрамовіч), ярарх Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а таксама наваградзкі япіскап Апанас (Мартас). Апошні 9 студзеня на патрэбы беларускай парафіі высьвяціў у дзякі Вінцэнта Жука.

Характэрнай рысай рэлігійнага жыцьця беларускіх праваслаўных вернікаў было выкарыстаньне роднай мовы ў царкоўнай практыцы. Набажэнствы адбываліся на царкоўнаславянскай мове, але казаньні сьвятары рабілі па-беларуску. У парафіі рэгулярна адпраўляліся ўрачыстыя набажэнствы з нагоды нацыянальных сьвятаў: 25 сакавіка — на дзень абвяшчэньня Беларускай народнай рэспублікі, і 21 лістапада — на дзень пачатку Слуцкага паўстаньня. Згаданыя багаслужбы адбываліся ва ўзнёслым і патрыятычным настроі. Захаваліся згадкі пра набажэнства ў праваслаўным прыходзе 21 лістапада 1943 г., якое правёў а. Ф. Барэцкі пры дапамозе айцоў А. Семянюка і П. Сарокі. Апошні прамовіў палымянае казаньне, у якім заклікаў да захаваньня беларускага патрыятызму й патрэбы ахвяраваньня на карысьць бацькаўшчыны.

Праваслаўныя беларусы Варшавы падтрымлівалі кантакты з родзічамі каталіцкага веравызаньня, якія таксама знаходзіліся ў польскай сталіцы. Пры Беларускім камітэце ў Варшаве існавала Беларуская каталіцкая камісія на чале з ксяндзом

Пётрам Татарыновічам. Гэтая камісія займалася перакладам літургічнай літаратуры на беларускую мову. Кіраўніцтва камітэту хадайнічала перад уладамі Генэрал-губэрнатарства і касьцельнымі ўладамі адносна стварэньня беларускай каталіцкай парафіі і прызначэньня сьвятара-беларуса. Нягледзячы згоду на гэта з боку мітрапалітарнай курыі ў Варшаве, справа не атрымала падтрымкі Ордэну марыянаў, да якога належаў кс. П. Татарыновіч. 7 лютага 1942 г. кіраўніцтва Беларускага камітэту зьвярнулася ў Апостальскую Сталіцу з просьбай адносна развязаньня гэтай справы. У выніку кс. П. Татарыновіч атрымаў права ажыцьцяўляць апеку над каталікамі-беларусамі ў Варшаве. Набажэнствы для каталікоў-беларусаў пачалі адбывацца ў лютым 1942 г. у касьцёле сьв. Марціна на вуліцы Піўнай. Ад лістапада 1943 г. беларускія багаслужбы адбываліся ў грэка-каталіцкай царкве Айцоў базыльянаў на вуліцы Мядовай. Беларусы абодвух вераавызнаньняў жылі ў згодзе й супрацоўнічалі паміж сабой. Так, напрыклад, кс. Вінцэнт Гадлеўскі і кс. Пётра Татарыновіч неаднойчы наведвалі царкоўныя й нацыянальныя ўрачыстасьці, якія адбываліся ў беларускай праваслаўнай парафіі. Належыць зазначыць, што беларуская каталіцкая грамада Варшавы была па колькасьці вернікаў значна меншай за праваслаўную.

Беларуская актыўнасьць у Варшаве спынілася ўлетку 1944 году. Галоўная ўправа Беларускага камітэту перабралася ў Кракаў, дзе фармальна працягвала сваю дзейнасьць да студзеня наступнага году. Далейшы лёс беларускага варшаўскага асяродкасклаўся па-рознаму. Некаторым зь іх (М. Шчорсу, Я. Станкевічу) пасьля вайны ўдалося перабрацца на Захад. Яны сталі пасля вядомымі дзеячамі беларускай дыяспары ў Заходняй Эўропе й Заадзіночаных Штатах. Іншыя загінулі падчас вайны. Некаторыя засталіся ў Польшчы, дзе патрапілі пад рэпрэсіі з боку камуністычнай бясьпекі. Па многіх былых беларускіх дзеячах у віры паваеннай рэчаіснасьці ўвогуле загінуў сьлед...

**References**

Грыбоўскі Ю., *Беларускі камітэт у Генерал-губернатарстве (1940—1945 гг.)*, „Arche” 2017,nr 5,s. 17-46.

Грыбоўскі Юры, *Беларускае праваслаўнае жыццё ў Генерал-губернатарстве (1940-1944)*, „ActaAlbaruthenica” 2018, t. 18, c. 301-316.

Grzybowski J., *Komitet Białoruski w Generalnym Gubernatorstwie (1940-1945)*, „Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej” 2018, t. 11, s. 32-64.

**Jerzy Grzybowski: Belarusians in Warsaw during the German Occupation (1939-1945)**

(***magazine “CULTURE. NATION”, April 2019, issue 23, p. 36-46,*** *www.sakavik.net*)

One of the centers of the Belarusian national movement during the Second World War was Warsaw. The bulk of Belarusians in the Polish capital were former Polish soldiers, who in 1939 were in German captivity. Meanwhile, the engine of national life was the figures of the Belarusian - Polish pre-war residents of the state. Among the local activists were: Mikalaj Shchors, Mikalaj Zhdanovich, Ivan Stankevich, priest Vincent Hadleuski and others. Political and international situation during the war contributed to the revitalization of national-cultural activity of Belarusians in German-occupied territories. As a result, in Warsaw, it was created the Belarusian Committee of the General of Province, which is patronized by local Belarusians. In addition, the elementary school worked, the Orthodox and Roman Catholic parishes acted. Cultural, educational and religious activities of Belarusians in Warsaw were visible at home.

*Фальклор*

**Сяргей Панізьнік: “Да хлеба што хочаш знойдзеш...”**
*(Фальклорныя запісы на вялікай радзіме)*



**Пра смакату маўлення** *(Са скарбаў лексікі на мёрска-дзісненскім мацерыку)*

Узьнесьціся – ня ўпасьці.
Вярнуцца – не прапасьці.
І нельга мову скрасьці:
яна ў крыві гарыць!
*Міколу Крыўко – стваральніку “Дзісенскага слоўніка”*

Адбярэ Божа стыд – будзеш сыт.
Адбярэ Божа сорам – будзе і корм.
Адзін дзень госьць – госьць, другі дзень госьць – хазяіну радасьць і злосьць;
трэці дзень госьць: -- А калі ж ты дадому паедзіш, ягамосьць ?
Чужое ем – і глух, і нем. А калі маё ядуць, - у мяне слёзы цякуць.
Камянёў – хоць забіся, вады – хоць заліся… Прыкупіўшы хлеба – можна жыць.
Калі не наеўся, то і не наліжышся.
Госьць ня воўк, а косьці аб”есьць.
А я не з галоднай хаты.
Часам з квасам, а парою з вадою.
Гаршчок гаршчку ганьбу даець, ды абодва дзюравыя.
На смачны кусочак знойдзецца і куточак.
Трапілася чарвяку на вяку!
Еш, пакуль рот сьвеж!
Кій на кій завадзіць, абед на абед – не.
Раньняя птушка цярэбіць зубкі, а позьняя – вочкі.
- Якое там паеў: хацеў скарынку хлеба абмакнуць, дык і тая ў вядро ня ўлезла.
Ня п’еш – хлебам макай.
Хлеб вяроўкай рэжуць?
А тут і хлеба не палюбіш…
Юра – у саланаватую ваду з алеем, цыбуляй накрышаны хлеб.
Цюпка (цюра) – хлеб, замочаны ў буллёне з малаком.
Плячысты на жывот.
Распасьціць пуза.
Сам не гам, і другому не дам.
Яму палец у рот не кладзі…
Як кот цяў! (Цяць – хутка ўхапіць са стала).
Клёк згубіць – страціць смак, разуменне, развагу.
Свая рука ня сука – у рот нясець.
І ад яйка адалье!
Калі салам абмазаць, то за ноч кот зьесьць (Пра худзенькую жанчыну).
Індычынку – на затычынку (Закуска ад Ядзвінні Кісьляк).
- Пі, душа! Не шкадую каўша! (Зычэнне майго бацькі).
Што стары зьеў, тое прапала.
Полевэчка з піньдзюкамі, біздрыкі ў масьле. (Піньдзюк - ранні грыб; біздрык - бязхвосты: вугор, або піскун (мінога ручаёвая).
На семя і на емя (пра запасы).

Какора – посны блін з ячменнай мукі; соль, сода ў дадатку. Пра ўчарсьцьвелую какору: "І чорт босым ня пройдзіць!"

Магір – трохкутнік з аржаной або пшанічнай мукі на малаку, зь яйкам. *"Магір"* – прызыўка чалавека з Бабышак – гаспадарліваму, але "сухому" на бяседзе.
Лапун – да бульбы скварку і ў печ.
Путра – каша з аржаной мукі. Латышская Putra – пахлёбка з саладовай мукі.
"Сарока" – бабка: у адцэджаную юшку пару яек, трохі манкі, скварак – і ў жароўню.
"Сьлёзкі" – зацірка: завараны крухмал ўперамежку з мукою.
Лёк – расол для сялёдак.
Панцак – завараная ў вадзе ячменная аддзёрка.
Прокідзь – буллён, запраўлены скваркамі з дабаўкай алею, або масла.
Камы з душамі – тое, што і цэпеліны.

Лепш не даеўшы, ды спакойна пасядзеўшы.
Так наясіся, што хоць на пупіку круціся.
Хоць зубы на паліцу (пры галаднечы).
Напіцерыліся! Умеюць і запрасіць, і падаць (пабыўшы ў Піцеры).
Суседзі "ядуцца" – сварацца.
Напундырыцца – наесьціся.
Уёдываць – есьці са смакам.
Апрыч есьці – асобна.
Ні рыба, ні мяса – аб непрыгоднасьці гаспадара.
Распурзаць – размазаць (кашу па стале).
Хоць шаром пакаці …(пра нішчымніцу).
Субіна кілбасы – палавіна (кола) счыненай дамашняй каўбасы.
Рыбаку кот яйцы не ад"есьць.
Трубіць у кулак – галадаць, галець.
Уволечку наесьціся.
Хадзіць на стол – на памінкі.
Хадзіць у адведкі – наведаць народжанага дзіцёнка.
Спраўляць пагалоўшчыну - частаваць свежай свінінай.
Засталіся толькі сьпіткі-зьедкі да пасьледкі.
Блішчэць – зайзросна глядзець за едакамі.
Уволечку наесьціся - упоўніцу.
Яглы – ня еўшы спаць ляглі *("яглы"* – прасяная страва, нішчымніца).
Сядзець у чужым арудзе – пабірацца набыткамі суседа.
Сядзець нашча – не пасьнедаўшы.

Кісьляк лытку памачыў – падкіслая, абрызлая страва (малако).
Блін на блін жывот не расколіць.
Сёмая вада на кісялі – пра далёкую радню.

---

Смакату прыказак і прымавак, жартаў і каламбураў, прысмакі пацешак і прыбабунькаў, наедак ад гаваркіх словаў, прокідзь гумару і засцярогі з незабытым памякчэннем зычных гукаў займеў я ў родных Бабышках, у Латышах, Даўгінаве, Лявонпалі… Многа выпіў раўгені, а не варголы пры запісах смажаніны з усьмешак ад бацькоў Нюры і Сьцяпана, не ўрабеў ад рызынак сястры Ніны, 1933 года нараджэння, якая і ў Юрмале берагла масьлянку з бабышаўскай бойкі (а фунцікі масла трэба было везьці ў Друю на продаж). І намаўляла мне: - А мы не з галоднай хаты! Жыць пры бясхлебіцы не было панады! А круціць у істопцы жорны і ты быў рады.

Ну вось тут усім едакам-не лайдакам і

САВЫ ПАРАДЫ

Вам засталіся сьпіткі-зьедкі?
Тады прыходзьце у адведкі:
мае смактушкі любяць дзеткі.

Непагадзь не прыкрыла люшку.
І ў макрэдзь мы згатавалі юшку.
Аж Саве той засьвярбела ў вушку.

Нас прасіла (мо і Папялушку):
- Вы падкіньце і ў маю кармушку
красачку не палыновую, -
дзятлавінку белагаловую!

Знайце: ранні пташак чысьціць зубкі,
а той, позьні, выцірае вочкі…
Не з пустой Сава, паверце, лубкі;
каб не госьцем быць у поснай ночкі, -

дайце мне бабок-гарох палушчыць;
хлеб-закалец, панцачок – у цёрла…
Толькі скразьнякамі з маёй пушчы
пад пустэчу не агаляйце дзёрна!

x x x

Мудрая Сава здымае стружку
з мовы нашчай, каб душу ня цёрла.

Мы папросім наліваць у кружку
лёк, расол, юру, зацірку, юшку…

І Саву пасадзім ля Галубкі:
з дзятлавінкай смакаваць пятрушку.

30.06.—4.07.2018

----------------------------------------------------------------------------------------------------

**Рыфмаванае маўленне землякоў**

Ня думай, як думаецца, а думай, як давядзецца!

У 2015 годзе Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі выдала вялізную кнігу: “Беларускі фальклор. Матэрыялы і даследаванні. Выпуск 2”. Там змешчана і каля 150 народных песьняў, запісаных мною ў Мёрскім раёне - Бабышках, Даўгінаве, Латышах, Лявонпалі… У багатых запасніках думаньня і маўленьня Андрыяна і Ядзіньні, Маруты і Марылі, Альжбеты і Адэлі, Вольгі, Васіля, Любы, Петрака, Стася я ўзбагаціўся не толькі старажытнымі песеннымі творамі з багатай народнай спадчыны, але і лексічнымі пярлінкамі – прымаўкамі, каламбурамі. прысяганьнямі, павучаньнямі, дражнілкамі, кленічамі… Адно зь любімых азначэньнняў такіх выслоўяў-вясёлашчаў у Рыгора Барадуліна —прыбабунькі.



На здымку: старонка з дыска "Пад ясну зарыцу" з воблікамі маіх суаўтараў Ганны, Альжбеты, Адэлі з роду Панізьнікаў, Ядзьвіньні і Андрыяна Кісьляк, Вольгі Грэцкай, Марылі Кезік, Маруты Пальчэх…

З назапашаных на лексічнай пашы скарбаў я выбраў толькі тыя аздабленьні ў гаворцы маіх землякоў, якія маюць рыфму: няважна, поўную ці няпоўную, мужчынскую ці жаночую, карнявую ці банальную, выпадковую ці глыбокую… Я ўзварушана слухаў, як граюць вусны ва ўсьмешцы, назіраў, як сарамлівеюць вочы…

З 9-10 стагодзьдзяў жыве РЫФМА ў славянскай вершатворчасьці. А якую глыбокую вершатворчасьць прыкмеціў я ў валачобных песьнях, пачутых ад Андрыяна Кісьляка! Падышоўшы да новага вакна , яму кожны раз прыходзілася прыдумваць новыя велікодныя зычэньні пасля абавязковага рытуальнага тэкста:

Гаспадару, сьлічны пану,
Глянь – на дворы што дзеіцца,
Што дзеіцца-лялеіцца.
Ў тваім дварку як у райку!

Рыфма на Беларускім Мацерыку пакуль даходзіла да натхняньнай Музы паэта, штодзённа жыла на вуснах кожнага трапяткога чалавека - для пахвальбы і суціху

суседа, для ўганаравання Яго, ці фрывольнай прыманкі Яе…
Але – пачнем слухаць Народ - для агульнай, як кажуць, карысьці.

xxx
З сынам сварыся – на печ кладзіся.
Зь зяцем сварыся – за клямку бярыся.
xxx
Каб ня клін, ды каб ня мох,
то і плотнік бы здох.
xxx
Каб ня ты, ды не Мікіта, -
была б хата не пакрыта.
xxx
Без вусоў, без барады -
як той чорт малады!
xxx
Пра воўка памоўка,
а мядзьведзь з-пад налуску ды за гуску.
xxx
А як мая галованька сьхітнецца, -
тады тваё гулянейка мінецца.
(Жонка мужу).
xxx
Якое дрэва, такі і клін.
Які бацька, такі і сын.
xxx
Еш, пакуль рот сьвеж!
А надакучыш – зусім не палучыш.
xxx
Трапілася чарвяку на вяку.
xxx
Чужое ем – і глух, і нем.
А калі маё ядуць, у мяне сьлёзы цякуць.
xxx
Адбярэ Божа сорам, будзе і корм.
Адбярэ Божа стыд – будзеш сыт.
xxx
Саракі гоняць сьнег да ракі.

xxx
Ня ведае правіца, што робіць лявіца.
xxx
Прарваўся грэх на сьмех.
xxx
Грэх у мех – і сам наверх.
xxx
Плакам, плакам, ды ўсё аднакам.
xxx
Плоха рада, а жыць нада.
xxx
Ня п”юць, а душу ў госьці завуць.
xxx
Не маніся, а Богу маліся!
xxx
Жыць – не мяшок шыць.
xxx
Як трывога, то й да Бога.
xxx
Калі пераначуем,
тады болей пачуем.
xxx
Шлюб пад плотам,
а вясельле – потым.
xxx
Ляжыць пад плотам,
а крычыць: - Работа!
xxx
Ну і нос:
чорт семярым нёс.
xxx
Дай волю -
трапіш у няволю.
xxx
Зычэнні маладым:
- Сем раз на начы,
восьмы раз устаючы.

А дзевяты на зару:
выйсьці з хаты – у пару!
xxx
Пачне ваяваць Кітай -
жыць кідай.
xxx
Вырас пад неба,
а дурны як трэба.
xxx
Хрэн табе ў вочы,
галавешкі ў зубы,
перац у нос,
клубок нітак паміж лытак,
галень паміж калень,
пад хвост памяло, -
каб аж дух заняло!
xxx
За грошы будзеш харошы.
xxx
Для чаго бабе ногі?
Каб не зьбіўся… я з дарогі.
xxx
Не выбірай дзеўку на ігрышчы,
а выбірай на ржышчы.
xxx
Хто мяняе,
па тым хамут гуляе.
xxx
У голад намруцца,
у вайну налгуцца.
xxx
Во як! Во як!
Насадзіў дзед хвояк,
а выраслі дубы!

У прысадах народнай творчасці (сам аднаго разу падыгрываў велікоднікам) выгукваліся мае вершы на хутары Бабышкі, у мястэчку Лявонпаль. Бабулька Альжбета вучыла, каб у радку было пабольш галосных: ДЫ нЕ кУкУй жА,

зЯзЮлЕнькА, рАнА… І яе песні ўвайшлі ў выдадзены заўзятым фалькларыстам Сержуком Доўгушавым дыск “Пад ясну зарыцу” (Песенна-абрадавая традыцыя Міёршчыны па матэрыялах аўдыёкалекцыі С. Панізьніка. Запіс 1968 – 1969 гадоў). Спраўдзілася надзея, што з дапамогай кіраўніка гурта “Vuraj” выйдзе і кампакт-дыск пра лявонпальскае вяселле 1969 года. А пакуль – выношу на суд чытачоў верш-прысвячэньне Сержуку – у падзяку за выданьне фальклорнай спадчыны маіх землякоў:

Пад ясну зарыцу!

Пад ясну зарыцу
мы выйшлі адкрыцца:
зямля не зьнямела, --
гучыць яна сьмела!
І добрыцца хмара
над родным папарам.
А песьня прачнецца --
радзіма ачнецца.
Каб зьнікла пустэча,
імкнемся на веча
да продкаў парога.
Зноў стане нас -- многа!

З бяседнага схода
раскрыляцца песьні,
каб нацыю весьці
туды, дзе свабода --
пад ясну зарыцу.
… Спаўна ганарыцца
такому народу:
мы гучныя – зроду!
Умеем узьвіцца
і мы над маўчаньнем.
Пад яснай зарыцай
Жыцьцё велічаем!

**Siargei Paniznik: "For the bread you may find what you want..."**
**(*magazine “CULTURE. NATION”, April 2019, issue 23, p.47-56,* *www.sakavik.net*)**
Folk recordings on a great homeland, vocabulary treasures, beauty speech and pronounciation of countrymen from Miory-Disna region of Belarus.

*Паэзія*

**Вершы Сяргея Панізьніка**

ANAMNESIS VITAE

(Пасля прачытання кнігі Алеся Адамовіча “Vixi” --“Пражыта”)

Перакуліцца дзень, пойдзе стоць галавою --
шарай рошчынай стане ў заснежжы грудоў…
Адчуваю, што так можа быць і са мною,
хоць я кінуцца ўслед свайму дню не гатоў.

Бачыў чорны тунель, дзе круціла і гнула:
толькі сілаю волі спыніцца я мог…
Але колькі ўжо струнаў навекі паснула,--
і трымае мяне толькі праведны Бог.

Хай жа доўжыцца дзень. На лагоныя хвілі
буду траціць я справы і помыслы ўсе,--
каб і з тымі людзьмі, што мяне не ўзлюбілі,
мог сугучна служыць першароднай красе.

Перакуліцца дзень. І за крок да сутоння
развітаюся стогнам апошняй струны…
А складаю свой верш вось цяпер, яшчэ сёння,--
каб жыццё святкаваць ад вясны да вясны.

--------------------------------------------------------

Anamnesis vitae – прыпамінак жыцця (лац.)

1994, 2019

## А ДЗЕ ЗВАНАР ДЗЯРЖАВЫ?

Кажу:--Ў папсу не лезь!
Цалуйся не з пачварай.
Ты ўвесь – туману ўзвесь:
нібы пад Ніягарай…
Твой фон – адна лухта,
экран нясе абразу…
Паэзіі бяда:
шлеш у дагоду фразу,
ліслівасці ўпрытык
ты крэмзаеш эпітэт…
Гляджу: стаіць індык,
саплёю апавіты.
Такі пявун – гулец.
Не Жрэц ён ля агнішча.
І твой “прадукт”, жылец,
наступнікі засвішчуць.
Чакай жа Суд за звіх
радкоў сваіх іржавых…
Брахунчык чуць прыціх.
А дзе Званар Дзяржавы?

*Няма даты*

## ВЫЯВЫ ЯНА ГУШЧЫ

Мой суайчыннік, у пальшчызне знаны,

З душой быў збеларушчанай да дна:

Струменілася там Dzisna і Дзісна,

Шугала Lodz узнёсла-апантана.

Гранёны келіх церпкага віна

Зрасходаваны – кроплямі – на раны.

Складае крылы Век Перапалоху.

Выгнанцы, паязджанне, вам – куцця!

Успомніце з гасціннага жыцця

І тое Загасцінне на разлогу,

Дзе на гарышчы чулае дзіця

Мацеем Бурачком здалося Богу.

У чорных рамках – вобразы-выявы.

У светлых рамках Яна – Каляда,

Дзвіны непераводная вада

І краявіды: згусны і бялявы,

Дзе шлях з гасціны – збочыста-кулявы,

Шлях да ojczyzny – годная хада!

1997

---

Ян Гушча (12.12.1917 - 26.06.1986) - польскі пісьменнік, перакладчык, выдавец і прапагандыст беларускай літаратуры. Нарадзіўся ў фальварку Задвор"е каля Цвеціна, маленства прайшло ў Загасцінні на Дзісеншчыне (сучасны Мёрскі р-н).

## І МЫ – РАДЗІМЫ КАЛАСЫ

Няслісія зыкі песень здольных…
…І радасць біла ў песнях вольных.
Якуб Колас "Новая зямля"

--Эх! Сухапутныя вы людзі!--
Казаў нам колас у арудзе.--
Свой ураджай вы -- у засек.
Калгасізацыя як здзек:
--Дзяліцца!—Прагне. – Зерне ў трум!

А продкі ладзілі свой рум:
--Работа – гнаць плыты – не тлум!

--О не! – узбантавала Клець.--
Узбагачацца трэба ўмець.
Чытайце "Новую зямлю"!
Паэт не ў труме, не ў арудзе
Трымаў Любоў, а нёс у людзі.

І ўзбагаціліся ў натхненні
Адроджаныя пакаленні.
Таму ад родненькай расы
І вы – Радзімы каласы!
10.03.2015

КЛЮЧ-ТАЯМНІЦА

"Адкрытаму архіву" тэледаследчыка Алеся Матафонава

Быў народ наш амаль ананімны: то Крывіч, то Ліцьвін, то Русін
ускладаў апраметныя гімны на маўчанне магільных лазін.

Беларусу сінонімы: Нейкі, Апраметны, Няведама чый,
Безназоўны… Такім на павекі – камяні, галавешкі, карчы.

Ананімак шалёнае ткацтва ад Наццэма пакінула шлак.
Мала –люду ў народ увабрацца, трэба з пырскаў сабрацца ў кулак.

Мы – схаваныя. У безнадзеі стог загадкава-цёмнай душы.
Ананімныя ёсць іудзеі? Анемічныя ёсць латышы?

На крутыя, бліскучыя німбы глянь, азнана-асмелены Зьніч!
Я пачую, як нашы Алімпы пераводзяць мычанне ва ўсхліпы,
безназоўнае р э х а – у Кліч.

Кліч "Адкрыйся, Сезам!" не ў архіве. Скача конь крывіча, а на грыве
беларусіцца кліч-таямніца… За чупрыну б вякоў учапіцца!

---

Тэлеперадача "Адкрыты архіў" была распачатая ў 2004 г. рэжысёрам А. Матафонавым і гісторыкам В. Скалабанам. Яе называлі інтэлектуальнай вітрынай Беларускага тэлебачання.
20.02.2004

ПАД ШЧЫТОЎКУ !

Прапоўз па землях зрушны ледавік.
Прайшоў па крушнях рупны чалавек.
Града. Лагчыны з пацеркамі рэк.
Мур і курган. Алтар і Божы лік.
Быў замак на дзядзінцы – як замок
на браме незалежнага жытла.
Калі ж у вежах продкаў гул замоўк,--
паменела ў Наваградка святла.

У праслах сценаў – пустазельны здзек.
Упёрся ў сэрцы новы ледавік.
Наваградак іскрынкай з-пад павек
наноў гартае ўласны чарнавік.
Праходцы, творцы! Пад Штытоўку – ўсе! --
страсаць навіслы адзічэлы чмур.
І з россыпу паўстануць у красе
лік Божы і алтар, курган і мур.

--------------------------------------------------------------------------
Мураваная вежа Шчытоўка сыграла вялікую ролю ў абароне Наваградскага замку – як надзейны шчыт сярэдневечнага гораду.

*Няма даты*

АЙЧЫННАЕ ПОЛЕ

*Ад імя кампазітара Зміцера Яўтуховіча*

--Звініць ля парога вішнёвае голле.
Трапечыцца рэха ў струне баразны…
Заве і з Нью-Ёрка
бацькоўскае поле
мяне – у абдымкі вясны.

Гаркоты-самоты ўсё болей і болей.
Дзе мой мацярык, з калыханкаю дом?
Хачу прызямліцца,

бацькоўскае поле,
уткнуцца ў твой бераг крылом.

Жыву за мяжою Радзімы. Раздолле!
Ды ў цёплым гняздзечку няма салаўя.
Шырэй акіяна
бацькоўскае поле --
вяртальная песня мая.

---------------------------------------------------
Зміцера называюць эстрадным кампазітарам, шоўмэнам, а 1990-е гады—эпохай Яўтуховіча. Ім створаны песні на словы Леаніда Пранчака, Уладзіміра Някляева, Алеся Бадака, Віктара Шніпа. На мае словы Зміцер напісаў песні "Эмігранты з Беларусі", "Спадарыня Юля", прысвечаная маме Данчыка Юліі Андрусышын.

9.06.2004

СЛАІСТЫ ШЛЕМ АЛЕСЯ РЫБАКА

Люты… Сустрэчы позныя.
А чуюся я зухавата:
"Дарогі бываюць розныя"
і "Сёння прыедзе тата"…
Загінуў ён пад прыгнётам.
…"Калгасная праўда" – хісткая.
Саюз Баявых Патрыётаў
слязой Рыбака паблісквае.

Будзь, шлеманос, карэктарам
пасляграмнічнай жытухі:
вунь – Кругор"е для крэктаў,
Койданава – для аддухі.
Помні, што й мы – чачэрскія,
роздумныя, ды не чэрствыя…
Годаў, дзе слодыч і горыч,
знойдзеш, Алесь Пятровіч!

---------------------------------------------------
Аляксандр Пятровіч Рыбак (7.11.1934 - 7.05.2017) - нарадзіўся ў Дзяржынскім р-

не, дзе падчас вайны загінулі яго бацькі. Пасля вучобы працаваў у газеце "Калгасная праўда" (1959—1962), карэктарам дакументаў у Вярхоўным Савеце СССР (Масква, 1966—1972). Выдадзены кнігі: "Дарогі бываюць розныя" (1972), "Сёння прыедзе тата" (1976)…

Датай заснавання Койданава лічыцца 1146 год. Упаміналася паселішча і пад назвай Крутагор"е. Ад 1932 г. - Дзяржынск.

Саюз Баявых Патрыётаў – так называў Алесь Саюз беларускіх пісьменнікаў. У жніўні 1986 г. разам з Міхасём Башлаковым мы дапамагалі збіраць чарнобыльскі ўраджай наўкруг Чачэрску.

16.08.2007 (Пасля Грамніцаў, пад Маладзік)



Выява да верша "Пад Шчытоўку": каля вежы Уладзімір Гніламёдаў, Зоя Мордус, Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік... Сакавік 1987 г.



Чарнобыльскія разлогі пад Чачэрскам: спыніліся каля возера Міхась Башлакоў, гаспадар радыёактыўных палёў, Алесь Рыбак. Жнівень 1986 г.

ВЫСЬ НАЦЫІ -- МОВА

О, “Тыдзень Роднай Мовы”
Айчыне як прычасце.
Мы Слоўнік адмысловы
не разарвем на часці.
Наш Мацярык спрадвечны
на Бацькаўшчыне відзен,
бо кожны тыдзень – свечны,
біблейны кожны тыдзень.
Так прамаўлялі продкі:
- Бяз Мовы дзень кароткі!
- На тым хамут гуляе,
хто гонару не мае…
- Табе ня ў стыд, што дадзена,

а ў стыд, што з поля скрадзена…
Кліч рваў і небакрай:
--Для вольных толькі воля!
Усім багатым – рай!
x x x
А "Тыдню Роднай Мовы"
кліч "—На дабрыдзень!" – ловы:
салдаціку, міністру, таксісту, журналісту
і ўсім, хто зняў аковы,
чаўпню паклаў у сховы,--
р а д н ю с е н ь к і м і быць
і нам, як альпіністам,
Высь Нацыі любіць !

АЛАІЗА ПАШКЕВІЧ (ЦЁТКА)

21 лютага
Міжнародны дзень
РОДНАЙ МОВЫ

"Шануйце роднае слова!"
*Цётка*

Размаўляйце
на беларуская мове штодня,
дзяцей навучайце роднай мове!
Няхай родная мова жыве
ў нашых хатах, нашых дамах,
палацах і школах заўжды!

Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны
МГА Згуртаванне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"

Мікола Купава

А Я РЫФМУЮ…

Прадзецца нітка – яе прыдзецца

Сабой звязаць, каб не парваць.

Вякі сівеюць і не крыўдзяцца,

Што нам за стол іх не пазваць,

Не пахваліць іх тымі кніжкамі,

З якіх пратопаў наш народ…

А мы жыццё сваё кілішкамі

Сплаўляем часта прама ў рот.

І не закусваючы блёсткамі,

Хістаючыся ад слаты

Праходзім продкавымі вёрстамі –

Стаць на парозе нематы.

Вунь колькі ніцяў абарвалася,

Вузлоў ад уніяў сабралася…

А я рыфмую: “Спадабалася!”,

Калі паслухаў горкі твор…

Ай!
“Загарэўся панаў двор.
Йдзіце, мальцы, гасіці,
Рэшатам ваду насіці.
А ў рэшаце вады нет,--
А ў мальчыкаў праўды нет.
Ой!

А ў кубачку вада ёсьць,--
А ў дзевачак праўда ёсць!
……………………………………………..
*З песні, запісанай у 1968 г. ад Вольгі Грэцкай у м. Лявонпаль Мёрскага р-на Віцебскай вобл.

25.05.2013

СВЕТАЧ-ПОЛЫМЯ ДУШЫ

(…) І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч (…)

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны светач-полымя (…)

Янка Купала “Спадчына”. 1918

Агледзіны.. І зноў пытаюся:
- А я за Спадчыну трымаюся?
Слугой Купалы ці з’’яўляюся,
каб скарб душы яго не збрыў?
(Пазнаў жа сам Паэт абрыў…)

Таму дні, ночанькі глытаючы, -
хачу даведацца: каго
я высвечу з прытульнай далечы?
Свайго суседа, ці яго –

мільённалікага і сціплага,
каму адно імя – Народ?
О, чую, як гадзіннік цікае,
ў якога бесперапынны ход.

Не будзе на мяне з папрокамі
глядзець падрослае дзіця.
Я ведаю, якімі крокамі
мне весці лінію жыцця, -

каб увабраць святло Нязводнае,
быць светач-полымем, дыхнуць
на прываротнае, звыроднае -
з Купалам р о д н а е вярнуць,

і ўсё, што зрынута, што знішчана
беспамяцтва густым гальнём,
што пад скарэжанымі днішчамі
асушана счужэлым днём…

x x x

З Купалам быць-- не жыць адключаным
ад родных нетраў, каранёў.
Мы пры стырне жыцця – уключыны,
натхненнем класіка далучаны

ад Вязынкі з іскрой раскручанай
аж да Скарынаўскіх агнёў.

1996; 12.08.2012; 2017

## ПАЖАДА ЖЫВОЙ ВАДЫ

Просіць Ранак: - Я не кволы,
а ўсё ж дайце мне варголы!
Не да Скіпетра, да Кварты
кліча мяне дзень упарты.
Зьвякнула аб стол Піяла:
- Муза додніцай пяяла
пра любоў…
Каханьне – смага?
Чару чараў дасьць адвага!
Конаўка аж зазьвінела:
- Дзе варголы? Я – зьінела…
З Кубачка – ну хоць глыток.
зацурчыць вясны выток!
Уськіпеў тут Збан: - Дзе Чаша?
Піць нагбом – спатоля наша.
Ну а мой арыенцір -
Адухоўлены Пацір,
каб узьняць Прычасьце Веры!
О, ніхто ня зрыне дзьверы
і батыевы манголы
не пасьмеюць піць варголы;
ненасытны фараон
возьме кроплю – фары вон!

З Гладышом пачну абрад:
- Я – на выбары! Ва Ўрад!
    Дзынкнула цярпеньня Шклянка:
    - Мне варголы – не гулянка…
Шар Зямны ў нас не дзюравы:
ёсьць гарбата, сырадой…
    І Дзвіна з Жывой вадой!
    Не Гаршок пусты, іржавы, -
Коўш узвысіць стан Дзяржавы:
ёсьць у нас жыцьця настой
    для Купелі залатой!
-----------------------------------------
  Варголы – вар голы: кіпень.

Яблычны Спас, 2017 года

**Siargei Paniznik: Poems**
**(*magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p. 57-69,* *www.sakavik.net*)**
A set of previous and latest poems by famous Belarusian poet Siargei Paniznik.

*Юбілеі*

**Да 70-годдзя з дня нараджэньня Яўгеніі Анішчыц**



Яўгенія Янішчыц, беларуская паэтэса і перакладчыца. Нарадзілася ў вёсцы Рудка, Пінскага раёна, Брэсцкай вобласці 20 лістапада 1948 года. У 1971 годзе выйшла замуж за беларускага паэта Сяргея Панізьніка. Яна — аўтар зборнікаў лірыкі «Снежныя грамніцы» (1970), «Дзень вечаровы» (1974), «Ясельда» (1978), «На беразе пляча» (1980), «Пара любові і жалю» (1983), «Каліна зімы» (1987), «У шуме жытняга святла» (1988). Лаўрэатка прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978) за кнігу лірыкі «Дзень вечаровы», Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1986) за кнігу лірыкі «Пара любові і жалю». Паводле Васіля Быкава:

*«Жэня была самая таленавітая з усіх самых таленавітых паэтэс Беларусі, самая цнатлівая і дасканалая. Гэта вялікае няшчасце, што яна так рана пайшла з жыцця. Але ў тым і нейкае наканаванне — даўно і не намі сказана, што Бог бярэ да сябе найлепшых. Але шкада — месца Жэні ў нашай паэзіі засталося пустое, мабыць, яго доўга не будзе каму заняць. Бо гэта - дужа годнае месца.”*

Друкуемы аповяд пра наведаньне аўтарам радзімы Я. Янішчыц летам 1965 г. пад назвай "Абяцаю, што ўсё асілю я..." быў перасланы укладальніцы выдання творчай спадчыны паэтэсы Святлане Уладзіміраўне Калядка, ст. навук. супрац. Інстытута літаратуры імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі.

**Сяргей Панізьнік: “Абяцаю, што ўсё асілю я…”. Успаміны пра першую дарогу да Жэні Янішчыц**

У канцы лета 1965 года закончылася мая журналістская практыка ў газеце 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі ва Ўруччы. Узгадаю, што сержант гэтай дывізіі ў жніўні 1963 года стаў у Львове курсантам факультэта журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ. Яшчэ вясной 1965 года ўдолося выпрасіцца на стажыроўку ў “родную” мне дывізію, а па-праўдзе – насыціцца радзімай.

У Львоў вырашыў вяртацца праз Баранавічы, каб потым у патрэбнай развілцы накіравацца ў бок Пінска. А на Ясельдзе знайсці Жэню Янішчыц. Зацікавілі першыя публікацыі яе вершаў у рэспубліканскім друку, захацелася ўбачыць гэтага незвычайнага самародка. Як гэта ўсё адбывалася больш як паўсотні гадоў таму, расшыфроўваю зярняткі радкоў з курсанскай “захаляўнай” кніжыцы.

ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

У Баранавічах - непаразуменне. На галоўнай станцыі – Палескай – цягнік не спыніўся. Завезьлі на “Цэнтральную”. Адтуль аўтобусам вярнуўся назад. За Баранавічамі сеў на грузавічок і паехаў да Ляхавіч. Калі праязджаў Шчару, то па абодва бакі было добра бачна, як чарнеюць байніцамі доты. Хлопец-шафёр гаворыць, што тут у часы Першай вайны тры гады фронт стаяў:
- Па ўсёй Шчары – такія германскія бункеры! Шафёр працаваў у леспрамгазе, і калі пілавалі ствалы дрэў, дык піла часценька ўядалася то ў калючы дрот, які завяз у камлі, а то ў асколкі…

Горад Ляхавічы стаіць на рацэ Ведзьма. Бачу, што гэта проста ручаіна з гнілымі берагамі. - Малая то малая, - прыкмячае вадзіцель, - а летась гэтая Ведзьма чалавека ўтапіла…

На маёй зацяглай дарозе вёска Свяціца – апошняя з населеных пунктаў па дарозе ад Ляхавіч да Ліпска. Мяне зацікавіла тая Свяціца вось чаму. У Львоўскім музеі украінскага мастацтва паказалі Біблію Скарыны, мноства беларускіх старадрукаў,

якія набыў у свой час Іларыён Свянціцкі, стварыўшы тым самым "Беларускі аддзел". Распавялі мне пра такі подзвіг вучонага яго дачка Вера Іларыёнаўна, удава Анісся Мацвееўна.

Першапачатковае прозвішча яго – Свяціцкі. Бацька Сямён Свяціцкі служыў святаром. І была згадка, што продкі яго – з ваколіц Выганаўскага возера, якое мела ў XIX ст. назву Свяціца. А тут мне напаткалася вёска Свяціцца – даўняе ўладанне Радзівілаў.

У Ліпску мяне высадзілі. Да Залужжа – 4 км. Прайшоў спакойна. Мне параілі пазней ісці ў Тухавічы, а пасля кіравацца да 10-га шлюза. Сем кіламетраў да Тухавіч ішоў па лесе. У вёсцы дазволілі пераначаваць на гарышчы. Развітаўся з гаспадыняй хаты і маці дзетак Зінай Пацукевіч. Пачалася новая дарога.

ДЗЕНЬ ДРУГІ

І вось я сяджу ў рыбацкай хібары. Хлопчык пакарміў мяне. Мы пакупаліся ў Агінскім канале. Маторная лодка павязе мяне бліжэй да вечара. Прыйшоў час гатаваць перакус. Я начысціў бульбы. "А яшчэ будзе суп з гарохам, "- кажа мой кармілец.

Маторкай я праехаў 10 км. Далей канал перасох. А да Целеханаў, мне сказалі, дабірацца ажно 12 вёрст. Рушыў у патрэбным кірунку. Дзесьці ў лесе заўважыў вышку. Агледзеў з яе вышыні ўсю мясцовасць. Не так далёка прыкмеціў будыніны. Рукзак скручвае плечы. Не дапамагае і процівага яму – "Спідола". Аказваецца, першай вёскай стала перада мной Вулька-Целяханская. Побач - возера. Заначаваў у добрых людзей. Сытна пачаставалі. Адпачываў у ложку. Гаспадары заможныя. Паснедаўшы, адправіўся ў дарогу.

ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

І вось я сяджу каля ліпы ў Цяляханах. Сто вёрст ад Баранавіч – гэта калі напрамкі… Чакаю папутку. З малодшым сяржантам-міліцыянтам даехаў да Лагішына. Далей ён ехаць не заахвоціўся – натросся ў кузаве. А я на спыненай ім машыне даязджаю да Ясельды. Адпраўляюся ў бок Парэчча, на землі Агінскіх-Скірмунтаў. Вёска цікавая, але мне сказалі, што Жэню трэба шукаць у Рудцы, у пяці кіламетрах адсюль…

Прышлося мне пешкі вяртацца назад. Па дарозе сустрэўся з аўтобусам, у якім, як пазней даведаўся, ехала Жэня з Рудкі ў Парэчча. А ў вёсцы Рудка я знайшоў яе

дом, але Жэні там не аказалася: мы размінуліся. Мяне сустрэла яе мама – лагодная, усмешлівая жанчына. Паказала Жэніны сшыткі. Сяджу, чытаю, перапісваю… Надта ж спадабаўся яе верш “Лівень”. Уразіла:

Я найшчаслівая з самых шчаслівых,
Я – у дарозе вечнай…

Пасля параўнання: “Лівень, лівень! Мой добры хлопчык…” закранула і такое:
Сэрца ў грудзях – маленькі гармонік,
Крыху дзёрзкі і бесклапотны.

Дзяўчыне яшчэ і сямнаццаці няма, а творы вельмі “дарослыя”. Перапісаў радкі з верша “Пісьмо да настаўніцы”:
Абяцаю, што ўсё асілю я,
З непрыкметным не выйду ў свет.
Верце мне, Кацярына Васільеўна,
Без трывогі і без прыкмет.

Я паспеў перапісаць у свой сшытак і такія вершы Жэні: “Хутка вернешся”, “Раўчукі”, “Дарогі”… У апошнім – спадзяванні аўтаркі на будучыню, у якой

…І зайграюць гармонікам
Пасівелыя вёсны.

Верыць аўтар, што прыдзе час, калі
Раптам сэрцам адчую я,
Як не згасла каханне.

А я што РАПТАМ адчуў? Раптам убягае ў хату дзяўчынка. Спытаў спачатку, агаломшаны: “- Жэня? “ Адказвае: “—Так!” Знаёмлюся: “—Панізьнік…” Такая жывая, па добраму смешная дзяўчынка стаяла перада мною. Нават не верылася, што гэта яна Жэня, можа пісаць такія кранальныя вершы.

Вясёлая! І гаворка вясёлая між намі не спыняецца. Ад Жэні я дазнаўся пра цікавы альманах “Ясельда” і што ў газеце “Полесская правда” за 11 красавіка 1964 года пра яе пісалі як пра маладую паэтэсу, якую любяць “за открытый, восторженный характер”. Пацікавіўся, а з якой нагоды пачалося ў Жэні захапленне вершамі? Дазнаўся, што школе рыхтаваліся правесці вечар, прысвечаны Якубу Коласу. Ёй прапанавалі прачытаць верш народнага паэта. Падумала: надта ж вялікі, цяжка

будзе вывучыць напамяць. Лепш я напішу свой! Так і пачалося…

А потым мы сталі чытаць па чарзе вершы. І зараз чую яе шчабятлівы голас:

Прастора і сэрца – насцеж.
Іду, нібыта вясна.
Людзі, бярыце шчасце:
Для вас я яго няслa.

Дзявочыя вершы было надзвычай прыемна слухаць. А па сапраўднаму таленавітыя - адчуваць на сэрцы свята. Я быў уражаны такому ўваходжанню ў паэзію. Аж зайзрасць брала ад шчаслівасці яе радкоў.

…Потым - палуднавалі. І на Ясельду! Хадзілі па беразе рэчкі з фотаапаратам і "Спідолай". Гаварылі, пераходзілі кладачку, гаварылі… Мне было вельмі нязвычна, што Жэня называе мяне на "вы". Колькі не ўпрошваў – хоць бы што. А пад вечар яна мяне праводзіла аж за дзве вёскі. Я узлажыў рукзак за спіну, а яна паехала на веласіпедзе дадому, у Рудку.

Потым у мяне быў Пінск, а к вечару наступага дня – Львоў. На адрас вучылішча прыходзілі пісьмы з Ясельды, а потым са Свіслачы. Студэнтка БДУ дзялілася і новымі радасцямі, і гаркотаю ад крыўдных неспадзевак. Адразу пасля прыезду з Рудкі я пастараўся перапісаць вершы Жэні і разам з фотаздымкам, дзе яна кладачку пераходзіць, паслаў у газету "Літаратура і мастацтва". Генадзь Мікалаевіч Бураўкін заахвоціўся яе паэзіяй і вялікая падборка вершаў Янішчыц была ім падрыхтавана і апублікавана. На жаль, здымак-ілюстрацыя быў без подпісу. Але " кладачку тоненькую" згадвалі пазней у прэсе А.Лойка, Р. Бярозкін… Віктар Гардзей пісаў:"…усмешлівая, шчаслівая дзяўчынка ракрыленай птушкай памкнулася кудысьці ўвысь над вясковымі кладкамі". А я і сёння ўсцешаны як "хросны бацька" той лімаўскай публікацыі.

Перад выпускнымі экзаменамі ў вучылішчы я напісаў верш, Жэні прысвечаны. Львоўскі архіў разам з паўсотняй ненадрукаваных вершаў на дзіва збярогся і Аўгінін верш праз паўстагоддзе выплывае насуперак лістападу…

А – Я (Аўгінні Янішчыц)

Маленькая дзяўчынка з-за ракі!
Я рады, што на свеце столькі светласці
І ясельдзянскай задумённай ветласці,
І шчырасці – у подыме рукі.

І столькі суму, зменлівых трывог,
І зманлівых сумленне выпадковасцяў…
Асцерагаешся слядоў ад подласцяў?
Пякуцца там, дзе выкінуты Бог…

Маленькая дзяўчынка з-за ракі!
Я рады, што і кладкі робяць хісткімі,
Што смех крынічны надзяляюць віскатам,
Што ходзяць гасцяваць на Саракі.

Што дзесь далёка -- не ўсім дайсці--
Як Беларусь мацнее Край – Паэзія.
Што ёсць і праславяншчына: -– П а л е с с е!
І ўсё, што напаткала ты ў жыцці.

Я рады, што нам столькі выбіраць
І прыбіраць, і нішчыць непатрэбнае…
А сэрцайка ўжо б”ецца не пад рэбрамі,
Калі яму паходняю палаць.

Не мне наказам шчырым паланіцца.
Мне б толькі – у спагадзе – пакланіцца:
- Усё гэта за плечы перакінь,
Маленькая дзяўчынка з-за ракі!

3.УІ. 1967 г. Львоў

**Anniversaries. The 70th anniversary of Eugenia Anishchyts by Siargei Paniznik: "I promise that I all can overpower ..."**
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.70-79,*** www.sakavik.net ***)***
Memories to Eugenia Anishchyts, famous Belarusian poet and translator.

Ніжэ падаюцца здымкі Я. Анішчыц з архіва С. Панізьніка




"Неприрученная птица" – вокладка твораў ў перакладзе масквіча Івана Бурсава



Масква, 5-я Усесазная нарада маладых пісьменнікаў (03.1969). Стаяць у першым шэрагу Данута Бічэль, Паўліна Мядзёлка, Яўгенія Янішчыц.



Юрмала, жнівень 1971 г. (*сімвалічны кадр*).



Прага. Яўгенія Анішчыц побач спевака Міхала Забэйды-Суміцкага (1972).

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

**Пётра Мурзёнак: Святкаваньне 101-й гадавіны абвяшчэння БНР у Атаве.**
***Здымкі Аляксандра Каралькевіча***

Святкаваньне 101-х ўгодкаў Абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў Атаве ў суботу, 6 красавіка 2019 года, у City Hall, у зале пад назвай Councillors Lounge з 14 да 17 гадзін. Месца для правядзення свята было прадстаўлена гарадскім саветнікам Keith Egli, за што мы выказалі яму шчырую ўдзячнасць за падтрымку і разуменьне. На свята прыйшлі каля 60 атаўчан, ды прыехаў дзесятак артыстаў з Таронта.

У праграме свята значылася:

1. Віншаванне са святам ад сп. І. Сурвілла, старшыні рады БНР.
2. Уручэнне дыпломаў Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (Канада) за 2018 год.
3. Вершы Юрася Шамецькі.
4. Спектакль "Вуліца Геніюш". Артысты з Таронта, рэжысёр В. Шаўчэнка.

Урачыстую частку свята пачаў архіепіскап Святаслаў (Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква), які прачытаў малітву за Беларусь. З традыцыйным зваротам з нагоды свята слова мела сп. Івонка Сурвіла. Карыстаючыся нагодай, яна ўручыла медалі «100 год БНР» некалькім чалавекам - за грамадскую актыўнасць і працу на беларускай ніве. Медалі на свяце ў Атаве атрымалі: Уладыка Святаслаў (БАПЦ), Валянціна Шаўчэнка, Пётра Мурзёнак, David Kilgour (Атава). За Анатоля Храноўскага (Саттон, Квебек), які сам не змог прысутнічаць, медаль атрымаў яго сын Грэгоры. На гэтым паседжанні было таксама аб'яўлена, што медалямі узнагароджаны – Вольга Грыцук (Кінгстон), Prof. David Marples (Эдмантон), Senator Raynell Andreychuk (Атава). Раней, 24 сакавіка 2019 года, медалі "100 год БНР" атрымалі ў Таронта: Ірына Варабей, Зіна Гімпелевіч, Вольга Іпатава, Віялета Кавалёва, Сяргей Панізьнік, Ірына Тоўсьцік.

Далей, у адпаведнасці з праграмай, былі ўручаны дыпломы Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ, Канада) за развіццё беларускай культуры за 2018 год. У мінулым 2018 годзе па ініцыятыве арт-гасцёўні "Родны край" (кіраўнік Ірына Тоўсцік) і "Яваровых людзей" (кіраўнік В. Кавалёва) упершыню ў Канадзе была выказана прапанова штогод адзначаць добрых людзей добрымі словамі і падарункамі, напрыклад, у намінацыях - шчодры спонсар, самы актыўны наведнік мерапрыемтсваў, самы шчыры беларус і г.д. Да гэтай ініцыятывы далучыліся ЗБК і БІНІМ (Канада).

Па рашэнню Управы БІНІМ (Канада), былі вызначаны тры працы для ўзнагароды дыпломамі за развіццё беларускай культуры ў Канадзе:

1. За фільм-музычную сказку "То-то-то" - мастацкага кіраўніка калектыва "Яваровыя людзі", Віялету Кавалёву; гука- і відэа рэжысёра Ігара Філюшкіна. Прэм'ера фільма адбылася ў Беларускім грамадскім цэнтры ў Таронта, 10 лютага 2018 года.
2. За рэжысуру і пастаноўку спектакля "Вуліца Геніюш" - Валянціну Шаўчэнку. Прэм'ера спектакля адбылася ў Беларускім грамадскім цэнтры ў Таронта 11 красавіка 2018 года.
3. За арганізацыю і правядзеньне святкаваньня 100-годдзя БНР у Атаве ў будынку парламента Канады (11 сакавіка 2018) - каманду сяброў БІНІМу (Канада) і Атаўскага аддзела ЗБК у складзе: Наталія Баркар, Інна, Ксенія і Аляксандр Каралькевічы, Ірэна і Ўладзімір Клімковічы, Аляксандра Логвін, Аксана і Сяргей Мазгавыя, Пётра Мурзёнак, Ірына і Ўладзімір Панчанкі, Галіна Рэзаіпур, Міхась Рыкаў, Галіна Туміловіч, Ўладзя і Юрась Шамецькі.

Дыпломы В. Кавалёвай і І. Філюшкіну былі ўручаны 31 снежня 2018 года ў Таронта на святкаванні новага 2020 года. Дыпломы В. Шаўчэнка і сябрам Атаўскай каманды былі ўручаны 6 красавіка 2019 года ў Атаве, на святкаваньні 101-й гадавіны абвяшчэньня БНР, дырэктарам БІНІМ, доктарам П. Мурзёнкам. Тым, хто адсутнічаў, дыпломы будуць уручаны пры нвгодзе.

Управа БІНІМ, Канада шчыра павіншавала ўзнагароджаных і пажадала ім усяго найлепшага іх сем'ям і далейшай плённай актыўнасці ў падтрымцы беларускай культуры і беларускасці.

Пасля вершаў Юрася Шамецькі, якія цёпла былі сустрэты прысутнымі, і перапынку, адбыўся спектакль пра Ларысу Геніюш, беларускую паэтэсу і патрыётку.



Артысты спектакля "Вуліца Геніюш": Ігар Чэпулкоўскі, Наталія Колас, Оля Манькоўская, Параскева Асадчая, Ала Асадчая, Яфім Падвойскі, Лена Паценка, Алена Лявончанка, Валяніцна Шаўчэнка



Агульны здымак

**Piotra Murzionak: Celebrating of the 101th Anniversary of the Independance of the Belarusian People's Republic in Ottawa**
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.80-86,*** www.sakavik.net ***)***

The celebration was held in Ottawa on Saturday, April 6, 2019, in the Councillors Lounge of Ottawa City Hall from 14.00 to 17.00. In the program: Congratulation by I. Survila, chairman of the Rada BNR in exile. Awarding ceremony of the Belarusian Institute of Arts and Science (BINIM, Canada) for 2018. Poems by Yuri Chametka. The performance "The Street of Heniyush" by Toronto actors, directed by V. Chevtchenko. For the development of the Belarusian culture in Canada diplomas of the BINIM (Canada) were awarded: Violetta Kovaleva; sound and Igor Filyushkin for the video film-music tale "To, To, To"; Valentina Chevtchenko for directing and staging the play "The Street of Heniyush"; team Ottawa for organizing and conducting the celebration of the 100th anniversary of the Belarusian People's Republic in Canada Parliament building composed of: Natalia Barkar, Inna, Ksenia and Alexandre Karalkevich, Irena and Vladimir Klimkovich, Alexandra Logvin, Oksana and Sergei Mazgavoj, Piotra Murzionak, Irina and Vladimir Panchenko, Galina Rezaipur, Mikhail Rykov, Galina Tumilovich, Vlada and Yuri Chametka.

*Каляндар важнейшых дат у жыцьці беларусаў у 2019 годзе*

**Сяргей Панізьнік: Пра беларускія мерыдыяны, украінскія паралелі, львоўскі экватар. ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ 2019 года.**



**990 гадоў ад нараджэння Усяслава Чарадзея**, сына Брачыслава, унука Рагнеды (29.07.1029 – 14 /21/.04.1101). 975 гадоў таму заняў пасад князя Полацкага (1044 – 1101); быў на пасадзе князя кіеўскага (1068-1069).

"Мяне гукалі леты на улонне, / каб летапісы дзвінскія бярог…
Як Усяслаў, дасюль я у палоне / маіх на бацькаўшчыну выбраных дарог.
І Беларусь крывіцкая аберуч / узважвае сыноўскае крыло:

маю любоў, маю адданасць, веру,-- / усё, што вывела мяне за родны бераг
і што назад на бераг прывяло.”
(З верша С. Панізьніка “Бераг” у зб. “Слова на дабрыдзень”. 1982)

**915 гадоў ад нараджэння княжны, заступніцы і нябеснай апякункі нашай зямлі Еўфрасінні Полацкай** (5.01.1104 – 5. 06.1173). Першая жанчына, кананізаваная Рускай праваслаўнай царквой у 1547 г., прылічана да ліку святых у 1893 г. Па яе заказе майстар-ювілір Лазар Богша ў 1161 г. стварыў напрастольны крыж. Мастацкія асаблівасці шэдэўра сведчаць пра сувязі з традыцыямі кіеўскай ювелірнай школы. У 1187 г. мошчы Еўфрасінні з Іерусаліма былі перанесены ў Феадосіеву пячору Кіева-Пячэрскай лаўры. 23.05. /5.06./ 1910 г. нятленныя астанкі перавезены ў Полацк – у Спаса-Еўфрасінеўскі манастыр.

5 чэрвеня – Дзень Прападобнай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай.

“Я – адна / Кветка зорная / З неба сіняга.
Я – вясна / Непаўторная. / Еўфрасіння Я!”
(З песні “Споведзь”: музыка Віктара Войціка, словы Сяргея Панізьніка).

**450 гадоў** таму ў выніку Люблінскай уніі 1.07.1569 г. з Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і Польскага каралеўства **утварылася федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая.** Туды ўваходзілі землі сучасных Польшчы, Беларусі, Літвы, Латвіі, часткова Украіны. Рэч Паспалітая праіснавала да 1795 г.

“Толькі Край, дзе радзіўся і вырас, / мае сілы і волі працяг.
Беларусь – летуценне навырast, / на якім і мой Герб, і мой Сцяг”.
(З верша С. Панізьніка “За абрысамі летуценняў”. Львоў, ліпень 1963)

450 гадоў таму Іван Фёдараў з Пятром Мсціслаўцам выдалі “Евангелле вучыцельскае” (1568—1569) , а таксама першыя на Беларусі кнігі “Псалтыр”, “Часасловец” (1569—1570).

**445 гадоў таму Іван Фёдараў у 1574 г. выдаў у Львове першую ўкраінскую друкаваную кнігу “Апостал” і наступную – “Азбуку” (“Буквар”).** У Астрогу (1.05.1581 г.) выдаў “Храналогію” Андрэя Рымшы: гэта першы беларускі друкаваны каляндар і першы выдадзены твор беларускай паэзіі.
Івана Фёдарава (Федаровіча) з беларускага роду Рагозаў лічаць заснавальнікам

кнігадрукавання і ў Расіі, і ва Ўкраіне. Пахаваны "друкар кніг дагэтуль нябачаных" у Ануфрыеўскім манастыры Львова.

"Самотны Леў стаіўся каля вежы. / Ён зіркачам-хімерам не раўня.
Туман яго атульвае ў начлежжы, / загрывак абдымае цішыня."
(Урывак з верша "Львоў" (Альбоў) Наталкі Пазняк у перакладзе С. Панізьніка. У зб."Пры сьвячэньні…", 2004)

**205 гадоў ад нараджэння Тараса Шаўчэнкі** (9.03.1814 – 10.03.1861)—украінскага пісьменніка, мастака, грамадскага дзеяча, заснавальніка новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. 190 гадоў таму казачок (дваровы) П.Энгельгарта прабіраўся Віленскім гасцінцам . Каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны знак у гонар тых, хто праходзіў у Вільню гэтым гасцінцам: М. Агінскі, С. Будны,Т. Шаўчэнка, Я. Купала, Я. Колас, Я. Судрабкалн, М. Гогаль, К. Цвірка і дзесяткі іншых. У 1839 г. у Пецярбургу Шаўчэнка пазнаёміўся з Я. Баршчэўскім, Р. Падбярэзскім. Супрацоўнічаў з З.Серакоўскім, Э. Жалігоўскім, Я. Станкевічам. Сябраваў з Б. Залескім. У 1843 г. па дарозе ва Ўкраіну наведаў Віцебск, Магілёў, Гомель.

Творы Т. Шаўчэнкі перакладалі Я. Купала, А. Гурло, Ф. Чарнышэвіч, А. Паўловіч, А. Гарун, Я. Колас, Зм. Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, Р. Барадулін…

У 2014 г. выйшаў зборнік вершаў Тараса Шаўчэнкі "І мёртвым, і жывым, і ненароджаным" ( укладальнікі Т. Кабржыцкая і В. Рагойша).

"Шлях з Мінска да Вільні: / ад ветласці – ў роднасць…
Слуга, ён быў вінен, бо думаў пра годнасць.
Наперадзе страты, салдацкія ранцы…
Ён Віленскім трактам ідзе – у паўстанцы!"
(З верша С. Панізьніка "Віленскі гасцінец". У зб. "Мацярык", 1984. Пераклаў на украінскую мову Раман Лубкіўскі)

**160 гадоў ад нараджэня Янчука Мікалая Андрэевіча** (29.10.1859 – 6.10.1921)—беларускага, украінскага, рускага славіста, этногафа, фальклрыста, антраполага, літаратуразнаўца, пісьменніка. Пасля 1917 г. у Маскоўскім універсітэце чытаў курс лекцый па беларускай і украінскай літаратурах. Прымаў удзел у заснаванні Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе з 1921 г. прафесар на кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі. Даследаваў песенную культуру Падляшша,

Палесся, Беларусі і Украіны. Сцвярджаў самастойнасць беларускай і украінскай культур і народаў.

“А бывай, мамка, здарова, / А мне выйшла з Украіны дарога.
Ды ці будзець мая мамка бедаваць? / --А ня буду, мая дзетка, ня буду.
Праз год, праз гадочкі забуду. /--А няпраўда, мая мамка, няпраўда:
--Ды на сіне мора хусты праць як пайду,/ Тады ўспомніць мяне мамка на раду”.
(Запісаў С. Панізьнік у 1968 г. у в. Бабышкі ад Ірыны Талочка, 1917 г. н.)

**155 гадоў таму нарадзіўся Уладзімір Самійленка** (3.02.1864—12.08.1925)— украінскі драматург, перакладчык, паэт-лірык, сатырык. З дапамогай Івана Франка друкаваўся і выдаваў кнігі ў Львове. Працаваў у Чарнігаве. Выбраныя творы былі выдадзены ў 1926 г., творы ў двух тамах – у 1958 г.

**155 гадоў ад нараджэння Міхайлы Кацюбінскага** (17.09.1864—25.04.1913)— класіка украінскай літаратуры.

**130 гадоў ад нараджэння і 80 гадоў Памяці пра Міхайла Драй-Хмару** (10.10.1889 – 19.01.1939) – украінскага паэта, неакласіка, перакладчыка, літаратуразнаўца, педагога, вучонага-славянаведа. 95 гадоў таму ён у Кіеве выдаў зборнік вершаў Максіма Багдановіча “Вянок” –у сваім перакладзе, з уступным артыкулам, каментарамі.

Першай ластаўкай, што пераляцела з Беларусі на Украіну, назваў гэтае выданне сам М. Драй-Хмара.

Вязень “исправтрудлагеря” быў расстраляны на Калыме.

“Будзь зямлёй святою, Баць-каў-шчы-на!
Сем дарожак з дому, дадому – адна”.
(З верша С. Панізьніка “Сем дарожак з дому”, 09.1969 г. У зб. “Палявая пошта”, 1972)

**125 гадоў ад нараджэння Васіля Эллана-Блакітнага** (12.01.1894 – 4.12.1925) – украінскага паэта, празаіка, палітычнага і грамадскага дзеяча. Васіль Элланскі вучыўся ў духоўнай семінарыі на Чарнігаўшчыне, у Кіеўскім камерцыйны інстытуце. Разам з Міколам Хвылевым, Аляксандрам Даўжэнкам быў заснавальнікам і рэдактарам часопіса “Всесвіт”. Пасля 1934 г. так званы “буржуазны нацыяналіст” доўгі час быў у забыцці. Рэабілітаваны пасля 1956 г.

У спадчыне творцы – тры зборнікі вершаў, выданні навэлаў, нарысаў, публіцыстычнай прозы. Памёр у Харкаве.

Васіль Эллан-Блакітны

Напагатове (На чатах)

Стогны і раны – так проста.
Промняў пяток – і расвецце.
Смерць прыглядаецца востра
Да чырвані зор на кашкеце.

Мільёнаразова ударыць
Прама ў аблічча, у грудзі.
Зубы зацяўшы, на варце
Стой, адбівайся – будзем.

Промні – мячоў трохкутнік --
Аж на край свету мецяць.
Выбух расквеціцца… Хутка?
Зараз. Трымайся. Агледзься.

Будзем размахам грымотаў.
Будзень аздобім пурпурам.
Чырвань у калаваротах,
У навальніцах --
Віхурна.

Пераклаў з украінскай мовы С. Панізьнік. Львоў, красавік 1967 г.

**110 гадоў а нараджэння Багдана-Ігара Антоныча** (5.10.1909 – 6.07.1938)— укранскага паэта, празаіка, літаратуразнаўца, перакладчыка. У 1928—33 гг.— студэнт Львоўскага універсітэта. Марыў стаць кампазітарам. Пры жыцці выйшлі тры зборнікі Антоныча, тры – пасля смерці.

Слухай, свайго сына Бацькаўшчына кліча
самым простым, непаўторным, вечным Словам.
Водсветам віровым зоры і абліччы,
людзі чарнавокія, пявучая мова.

( Урывак з верша “Бацькаўшчына”. Пераклаў з украінскай мовы С. Панізьнік. У зб. “Сустрэча роднасных сусветаў”, 1997)

**110 гадоў таму, у 1909 г. педагог Іван Крыпякевіч** (25.06.1886—21.04.1967)— выдатны вучоны- гісторык , аўтарытэтны знаўца беларускай культуры **выдаў брашуру "Білоруси",** дзе разглядаў гісторыю і пісьменства Беларусі, сувязі з Украінай, ацэньваў творчасць беларускіх пісьменнікаў. Упершыню ва Ўкраіне былі змешчаны ў перакладзе Мікіты Шапавала вершы Янкі Купалы "А хто там ідзе?" і "Памяці Шаўчэнкі". Іван Крыпякевіч пісаў: "Творы Купалы – гэта гарачы заклік у абарону ўсіх прыгнечаных, кліч да барацьбы за лепшую долю беларускага народа". Аўтар распавёў пра Васіля Цяпінскага, Ф. Скарыну, Ф. Багушэвіча. Для больш шырокага пазнання тэмы заклікаў прачытаць творы Д. Дарашэнкі, І. Свянціцкага, Я. Карскага, прапаноўваў падпісацца на газету "Наша Ніва".

Гучыць і такое прызнанне І. Крыпякевіча: "Сярод беларусаў знайшлі мы, украінцы, шчырых сяброў і суседзяў. А іначай не магло быць. Амаль усю мінуўшчыну пражылі мы разам з беларусамі, і ніколі не было між двума народамі якой-небудзь нязгоды… У долі і нядолі ішлі мы ўсе разам".

**110 гадоў** таму ў львоўскім гадавіку "Літературно-науковий вістнік" (ліпень-верасень 1909 г.) надрукавана **нізка вершаў "З беларускай паэзіі",** падрыхтаваная перакладчыкам Мікітам Шапавалам (1882—1931). Акрамя купалаўскіх, ён пераклаў і два вершы М. Багдановіча: "Над магілай" і "Прыдзе вясна".

А сам М. Багдановіч пераклаў вершы Т. Шаўчэнкі, І.Франка, М. Кацюбінскага, В. Стэфаніка, В. Самійленкі і інш.

"Пясняр – ён ваяр і гісторык, / і чорнарабочы, калі
становяцца светлыя творы / малітваю горкай зямлі".
(З верша С. Панізьніка "Паклон" у зб. "Мацярык", 1984)

**110 гадоў таму (вясной 1909 г.) Максім Багдановіч лячыўся ў Ялце** (Аўтка, малочная ферма "Шалаш". Летам 1915 г. лекаваўся ў Старым Крыме. Наведаў Кактэбель, Феадосію. У лютым 1917 г. зноў трапляе ў Ялту ( назаўсёды).

"Шалаш" знаходзіўся на вуліцы Крымская, 2. Яе пераназвалі ў вул. М. Багдановіча. А на будынку былой малочнай фермы была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда: "В этом доме в 1909 году жил белорусский поэт Максим Богданович. 1891 – 1917 г.г."

Побач, у Місхоры, у 1957 г. быў устаноўлены помнік работы Заіра Азгура з надпісам: "Выдатнаму беларускаму паэту Максіму Багдановічу (1891 – 1917)", які ў 1959 г. стаў узнёслай аздобай парку пры санаторыі "Беларусь". 30 гадоў таму, у снежні 1989 г., у Ялце была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з барэльефам: "На

этом месте находился дом, в котором жил (с марта по май 1917 г.) и умер 25 мая 1917 г. выдающийся белорусский поэт Максим Богданович". На мітынгу ў гонар такой падзеі дошку адкрыў паэт Мікола Аўрамчык, выступілі скульптар Генадзь Мурамцаў, дырэктар музея М. Багдановіча ў Мінску Алесь Бяляцкі, паэт Сяргей Панізьнік.

На ялцінскіх гарадскіх могілках (сектар №7) у 1924 г. быў пастаўлены помнік Паэту. У 2003 г. яго замяніў новы варыянт помніка, створаны Львом і Сяргеем Гумілёвымі.

"З песняй кахання ўзнадзеіцца вера. / Промні пастукалі ў шыбу акна,
Каб над Ай-Петры не смягла Венера – як пры Максіме – адна."

(З песні "Світальная зорка (Максіму Багдановічу)": музыка Міколы Яцкова, словы Сяргея Панізьніка)

**105 гадоў таму, у 1914 г. выдадзены творы Максіма Багдановіча** ў выдавецтве К. Ф. Някрасава : "Червоная Русь. Австрийские украинцы": Серия "Библиотека войны"№8-9; "Угорская Русь", №24; "Братья-чехи", № 28.

У артыкуле "Львоў" (1914 г.) Максім Багдановіч пісаў: "Львоў вельмі прыгожы і знакаміты. Ён угняздзіўся сярод гор, на адной з якіх, а непасрэдна на "Замкавай гары", расце дзівосны парк".

А калі б так: апантаны турыст уздымаецца на старажытную вось гэтую Замкавую гару і, прыпыніўшыся, учытваецца ў сціплы надпіс:"Тут адпачываў М. Багдановіч па дарозе з Аўткі ў Вільню".

"На планеце ля дзяржаўных вежаў / весніцца сваяцкая душа,--
і няма -- у роўнасці – замежжа, / і знікае – ў роднасці – мяжа"

(З верша "Дзянніца-заранка" у зб. С. Панізьніка "Нас – многа!". 2012)

**100 гадоў таму пачаў выходзіць тыднёвік "Воля"** (1919—1921)—спачатку ў Львове, а потым у Вене пад рэдакцыяй Андрэя Горленкі. У перакладзе на украінскую мову Аляксея Ярэмчанкі там надрукаваны вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна.

А. Ярэмчэнка змясціў у "Волі" (верасень 1921 г.) "Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры". А ў 1922 г. у прыгарадзе Берліна – Шарлотэнбурзе выдаў на гектографе зборнік сваіх перакладаў пад назвай "Білорусь". Там – 17 вершаў М. Багдановіча, 4—Я. Купалы, 2—Я. Коласа, па адным А. Гаруна, Зм. Бядулі, Г. Леўчыка.

"І заўтра хтось яшчэ адзін абудзіцца, / забыўлівасці распілуе краты.
Святла – у спраты! Ажывайце, страты, / і ўсё, у што паверылі мы, збудзецца".
(З верша "Страты" у зб. С. Панізьніка "Стырно". 1989)

**100 гадоў ад нараджэння Гарэцкага Пятра Ігнатавіча** (26.06.1919 – 17.03.1997) – украінскага паэта, перакладчыка, журналіста, рэдактара. У 1966 г. прысутнічаў са сваімі сябрамі і родзічамі Яна Дамінікавіча на свяце Купалля ў Вязынцы. З 1993 г. жыў у Мінску, прыняты ў саюз пісьменнікаў. Перакладаў вершы Я. Купалы, П. Броўкі, М. Танка, П. Глебкі, П. Прыходзькі…

**95 гадоў ад нараджэння Быкава Васіля Уладзіміравіча**(19.06.1924 – 22.06.2003) – пісьменніка і грамадскага дзеяча. У 1959 г. прыняты ў СП СССР; у 1964 г. – Лаўрэат літпрэміі імя Я. Коласа; у 1974 г. атрымаў Дзяржпрэмію СССР; ад 1980 г. – народны пісьменнік Беларусі…

Ваяваў на 2-м і 3-м Украінскіх франтах. Удзельнічаў у баях за Крывы Рог, Александрыю, Знаменку. Падчас Кіравааградскай аперацыі (1944 г.) быў цяжка паранены (памылкова запісаны ў спісы загінуўшых). У в. Вялікая Севярынка Крапіўніцкага р-на на брацкай магіле устаноўлены мемарыял, дзе пазначана, што В. У. Быкаў лічыцца забітым 3.01. 1944 г. і тут пахаваны. Сам горад Кіраваград пераназваны у г. Кропивницький.

"Сёння знойдзеным ветразем сцелецца / ваяроў-весляроў павучанне:
анікуды Айчына не дзенецца, / не сплыве Беларусь у маўчанне!"
(З верша С. Панізьніка "Вялікае княства Беларусь". Зб."Пры сьвячэньні…"2004)

**90 гадоў таму, у 1929 г. Янка Купала** (Ян Дамінікавіч Луцэвіч) **уганараваны званнем акадэміка** Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.

"Да пачэсных прытуляцца -- / уваскрэснуць! І прызнацца:
з Бацькаўшчынай і я вялікі.
Будуць за мяне трымацца / Нацыі святыя лікі."
(З верша С. Панізьніка "Загудзі ў павазе, голас вечавы!". 9.07.2017)

**90 гадоў ад нараджэння Іванычука Рамана Іванавіча** (27.05.1929—17.09.2016) – украінскага пісьменніка, грамадскага і палітычнага дзеяча. За два раманы ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй УССР імя Т. Шаўчэнкі (1985). Займеў званне Героя Украіны з уручэннем ордэна Дзяржавы 22.01.2009 г. Быў удзельнікам семінара замежных перакладчыкаў у доме творчасці "Іслач" пад Ракавам (16—26.09.1987).

**90 гадоў ад нараджэння Маторнага Уладзіміра Андрэевіча** (4.06.1929—5.06.2015)—вучонага-славіста, прафесара, вучня Іларыёна Свянціцкага ў аспірантуры Львоўскага ўніверсітэта. У 1971—75 гадах быў на дыпламатычнай службе ў сталіцы Чэхіі Празе.

Аўтар манаграфіі "У святле славянскіх літаратур" (2004). Яго называлі фундатарам украінскай сарабістыкі, энцыклапедычна дасведчаным педагогам, арыстакратам духу, сонечным чалавекам.

**90 гадоў ад нараджэння Гнацюка Івана Фёдаравіча** (27.07.1929—5.05.2005)—украінскага паэта, празаіка, перакладчыка вершаў беларускіх, польскіх, сербскіх , іншых замежных паэтаў. Адбываў пакаранне за прыдуманыя грахі перад савецкай уладай на Калыме.

Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі.

"Асілкам стаў, асілкам ён і пойдзе, -- / не з шабляю, са словам агнявым.
I будзе яго лік на гарызонце, / пакуль нябёсы родныя над ім."

(З верша Івана Гнацюка "Гарызонт народа" у перакладзе С. Панізьніка ў зб."Сустрэча роднасных сусветаў", 1997)

**90 гадоў ад нараджэння** і 70 гадоў ад выхаду першага зборніка вершаў **Алеся Ставера** (10.08.1929 – 23.07.1995) – паэта-песенніка, празаіка, перакладчыка, драматурга, дзіцячага пісьменніка. У 1965 г. ён два месяцы заходзіўся ў творчай камандзіроўцы. Сустракаўся з рабочымі, студэнтамі, піянерамі Львова, Львоўскай і Івана-Франкоўскай абласцей, з воінамі Прыкарпацкай ваеннай акругі. Некаторы час меў гасцявы прытулак у ВВПУ СА і ВМФ на вул. Гвардзейская. 17.09.1965 г. у Доме афіцэраў выступаў з Г. Глазавым, У. Кастровым, С. Куняевым, А. Вазнясенскім. Прачытаў вершы "Скрыпка беларуская", "Косіць хлопец канюшыну", "Гуцульская рака" і верш, прысвечаны А. Вазнясенскаму.

--Каб любіць Беларусь нашу мілую,-- / трэба ў розных краях пабываць,--
і сёння спявае душа Алеся Ставера.

**90 гадоў ад нараджэння** (28.09.1929 г.) на прыкарпацкім мацерыку **Паўлычкі Дмытра Васільевіча** – украінскага паэта, перакладчыка, літаратурнага крытыка, грамадска-палітычнага дзеяча, дыпламата, Героя Украіны. Працаваў у львоўскім часопісе "Жовтень" ("Дзвін"), 55 гадоў як жыве ў Кіеве. 12.07.1999 г. узнагароджаны ордэнам князя Яраслава Мудрага 5-й ст. 27.09.2004 г. займеў званне Героя Украіны з атрыманнем ордэна Дзяржавы. 25.05.2009 г. узнагароджаны ордэнам князя Яраслава Мудрага 4-й ст.

Многа сяброў займеў на Беларусі, якія па сённяшні дзень перасылаюць яму сваю павагу і прызнальнасць.

"О не, я не прыму паўторнага жыцця, / Але калі і ўстаць, то глянуць на даліну - Спаверыцца: ідзе Страпчацiва дзіця / Маліцца ў родны храм за вільну Украіну."
(З верша "Страпчаціў" у перакладзе С. Панізьніка.
"Літаратурная Беларусь", №9, 2010)

**85 гадоў ад нараджэння Лучука Уладзіміра Іванавіча** (27.08.1934 – 24.09.1992) – украінскага паэта, перакладчыка, шчырага сябра беларусаў. У 1978 г. выдаў зборнік вершаў В. Зуёнка. Ягонымі перакладамі беларускіх аўтараў былі запоўнены старонкі украінскіх выданняў. Вершы У. Лучука друкаваліся ў перакладах на 20 мовах свету. За зборнік вершаў і казак прысуджана Літаратурная прэмія імя Лэсі Украінкі (пасмяротна).

У 1984 г. Уладзімір Лучук разам з жонкай Аксанай Сенатовіч наведалі Беларусь: мемарыял на радзіме Р. Барадуліна, прасторы Прыдзвіння з літаратурна-краязнаўчым музеем "Хата бабкі Параскі на Шляху з грэкаў у варагі".

Актыўныя творцы --сыны Аксаны з Уладзімірам – Іван і Тарас.

"Хто ми такі?
Лише подорожні,--супутники серед небес.
Нащо ж на землі
свари і чварі, біль, гіркота,
Коли всі ми разом летим
До зір?

(Переклав Володимир Лучук)

**80 гадоў таму**, 15.08.1939 г. **выйшаў у Львове “беларускі нумар”** польскага незалежнага ілюстраванага грамадска-літаратурнага штомесячніка “Sygnaly”. Да выхаду № 37 спрычыніліся Севярын Сасноўскі, Станіслаў Грынкевіч… Быў надрукаваны пераклад верша Язэпа Пушчы “Да паэтаў еўрапейскіх”. А на старонцы часопіса “Адраджэнне літаратуры беларускай” чытач углядаўся ў цудоўныя партрэты Якуба Коласа, Янкі Купалы. У архіве выдання дзесяткі здымкаў беларускіх творцаў розных пакаленняў. Рэдактар Караль Курылюк перадаў скарбы часопіса ў Асалінэум (зараз Львоўская навуковая бібліятэка імя В. Стэфаніка).

**80 гадоў таму**, у 1939 г., у львоўскіх гістарычных будынках быў размешчаны штаб Украінскага фронту, пазней – Львоўскае пяхотнае вучылішча Чырвонай Арміі. З 1947 г. тут абаснавалася ваена-палітычнае вучылішча, створанае 18.11.1939 г. у Бранску. З 1962 г. установа на вул. Гвардзейская, 32 стала называцца так: Вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча СА і ВМФ з факультэтамі культпрасветработы і журналістыкі.

Вуліца Гвардзейская была пераназвана на вул. Герояў Майдану, 32. Там размяшчаецца Нацыянальная акадэмія сухапутных войскаў імя гетмана Пятра Сагайдачнага. А 120 гадоў таму, 1.10.1899 г. у гэтых гмахах размясцілі Імператарскую і каралеўскую школу кадзетаў пяхоты. З 1921 г. там існаваў Польскі кадзетскі корпус № 1.

Варта ўзгадаць выпускнікоў факультэта журналістыкі ВВПВ, якія пазней сталі беларускімі пісьменнікамі. Сярод іх Васіль Ткачоў (вып. 1973 г.), Аляксандр Карлюкевіч (вып. 1985 г.), Аляксандр Тамковіч (вып. 1987 г.)… У сувязі з юбілеем Аляксандра першага, адзначаю:

**55 гадоў таму нарадзіўся Алесь Мікалаевіч Карлюкевіч** – 1 студзеня 1948 года -- журналіст, пісьменнік, выдавец, аўтар краязнаўчых кніг і зборнікаў для дзяцей. Радзімазнаўцам назваў яго Рыгор Барадулін. “Моцная краязнаўчая постаць – Алесь Карлюкевіч” – характарыстыка Аляксея Пяткевіча. У 2002 г. А. М. Карлюкевіч скончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, на пасадзе міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь з 28.09.2017 г.

Створаная ім кніга “Францыск Скарыны на мовах свету”: Зборнік перакладаў урыўка з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі “Юдзіф” запатрабавана чытачамі і даследчыкамі. Своеасаблівы паклон Львову – узгадаваная А. Карлюкевічам анталогія “На арэлях натхнення”, дзе прадстаўлены ў перакладах на беларускую

мову вершы 16 паэтаў Львоўшчыны. Прадмова да зборніка – выпускніка факультэта журналістыкі ВВПВ 1967 г. Сяргея Панізьніка.

Свяча бліскучая зіяе,
Каб расступілася імгла…
Максім Багдановіч

**Узнёслая хада Максіма Багдановіча** – класіка беларускай літаратуры, прыхільніка украінскага нацыянальнага адраджэння **пазначана такімі вехамі**.



**12 сакавіка 1966** г. у Львове было створана Беларускае зямляцтва імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Да студэнтаў-медыкаў далучыліся курсанты ВВПВ, навучэнцы кансерваторыі, паліграфічнага, гандлёва-эканамічнага інстытутаў. Спрыялі дзейнасці зямляцтва выкладчыкі ўніверсітэта І. Дэнысюк, У. Маторны, К. Трафімовіч. Была праведзена вечарына “Тут крокі іх, тут сэрцы засталіся”: ішла гаворка пра творчасць Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, львоўскую прысутнасць Цёткі. Спрыялі раскрыццю іх талентаў А. Сенатовіч, Р. Кудлык, Р. Лубкіўскі, В. Грабоўскі, У. Лучук, які назваў таварыства”беларускім  брацтвам”.

"Увайду я ў давер вечаровыміараскамі, /воблік чараў пачуцці твае ўскалыхне.
Будуць промні сустрэч непаўторнымі казкамі.
Каб убачыць сябе – паглядзі на мяне.
(З верша С. Панізьніка "--Паглядзі на мяне!". Львоў, травень 1964 )

**75-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча** адзначылі ў Львове 9 снежня 1966 г. у Будынку вучоных на вул. Міцкевіча, 6. Спрыялі святу Беларускае зямляцтва імя Цёткі, Львоўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Украіны, Клуб інтэрнацыянальнай дружбы на філалагічным факультэце Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франка. Іван Дэнысюк прачытаў змястоўны даклад, яго даследаванне біяграфіі паэта прадоўжыў С. Панізьнік. Выступілі вучоныя і літаратары У. Маторны, К. Трафімовіч, А. Шмігельскі, М. Ільніцкі, І. Лазінскі, В. Калодзій, А. Сенатовіч, У. Лучук, Я. Паўлычка. Непасрэдна да свята новыя пераклады вершаў М. Багдановіча агучылі Р. Лубкіўскі, І. Сварнык, Я. Асечкін…

Цёпла сустрэлі львавяне спецыяльна запрошаных пісьменнікаў з Мінска – Міколу Хведаровіча, Сцяпана Александровіча, Анатоля Вярцінскага. Назаўтра разам з імі свята прадоўжылася ва ўніверсітэце.

"Мо кублы – гудуць стагоддзі.
Хоць гарнец вазьмі ад кожнага,--/ прыпамінамі свет напоўніцца".
(З верша С. Панізьніка "У краіну сінечы". Львоў, 10.03.1966 )

**26 студзеня 1967** г. у львоўскім клубе пісьменнікаў адбыўся вечар перакладу пад назвай "Панарама беларускай паэзіі ХХ стагоддзя" – пры падтрымцы секцыі перакладчыкаў львоўскага аддзялення СПУ, абласнога Дома дружбы народаў і Бібліятэкі іншамоўнай літаратуры. Даклад падрыхтаваў С. Панізьнік. "Панарама…" аказалася змястоўнай дзякуючы навуковым аналізам У. Маторнага, К. Трафімовіча…А. Шмігельскі ўзгадаў свае сустрэчы з Янкам Купалам у Сочы. Выступалі А. Сенатовіч, У. Лучук, Я. Паўлычка, В. Калодзій, М. Ільніцкі, М. Пятрэнка, А. Валашчак.

"Малюю мару: з дзён былых паўстаў
прызваны Дойлід з праведнай дзясніцаю.
Пры ім не вартавыя на пастах,
а мы – усе! – наш уявіўшы дах,
майструем Дом, зіркочучы зарніцамі."
(З верша С. Панізьніка "Пра Дойліда". Львоў, 25.12.1965 )

**90-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча**, класіка беларускай літаратуры, адзначылі 4 снежня 1981 г. у памяшканні Абласной арганізацыі

Украінскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Слова пра М. Багдановіча “Речник братерства” прамовіў Р Лубкіўскі. А вось ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаніка свята пачалося адкрыццём выставы “Співець братэрства”. Пасля уступнага слова Я. Стасюка прамаўлялі навукоўцы і літаратары І. Дэнысюк, Р. Лубкіўскі, М. Пятрэнка, І. Гушчак, В. Калодзежны, А. Сенатовіч, К. Бондар і, як паведаміла гарадская газета –“госці з братняй Беларусі – Валянціна Коўтун і Сяргей Панізнік”.

У зале бібліятэкі прагучала песня кампазітара А. Кос-Анатольскага на словы М. Багдановіча “Маладыя гады”.

А 28.12.1981 г. і ў Кіеве сябры саюза пісьменнікаў Украіны адзначылі 90-гадовы юбілей Максіма Багдановіча.

“Выдужалі словы і ў зазіме,
Хвалі памаглі радочкі звіць.
Суждана было табе, Максіме,
Іх у новай песні ажывіць”.
(Радкі з верша Міколы Пятрэнкі “Сонца над песняю М. Багдановіча”
у перакладзе С. Панізьніка)

**Восень 1987** г. Львоўскае аддзяленнне Саюза пісьменнікаў Украіны правяло сустрэчу творцаў з Беларусі і Украіны—круглы стол “Пачуццё сям”і адзінай”, на якой былі абмеркаваны літаратурныя і культурныя стасункі, пытанні міжнацыянальных зносін, узаемаперакладаў. У газеце “Літаратура і мастацтва” (23.Х.1987 г.) С. Панізнік адзначыў: “Па- дзелавому, пранікнённа выступілі вядучыя “круглага стала” Вольга Іпатава і Раман Лубкіўскі. Шчырымі, заклапочанымі былі гарачыя словы ўсіх удзельнікаў бяседы—Аксаны Сенатовіч, Валянціны Коўтун, Уладзіміра Лучука, Івана Дзенісюка, Міколы Ільніцкага…”

У тыя дні госці з Беларусі наведалі Музей украінскага мастацтва, дзе быў заснаваны І. Свянціцкім Беларускі аддзел, наведалі Жоўкву (тады яшчэ г. Несцераў), дзе дырэктар друкарні, наш зямляк К. І. Галань распавёў пра тое, як тут выдавала свае кніжачкі Алаіза Пашкевіч – Цётка

Для Беларускага тэлебачання былі падрыхтаваны перадачы пра Цётку, Скарыну (аўтар і вядучы С. Панізнік, рэдактар В. Іпатава).

“І зноў я пачуцці напоўню: / туманы Купалля плывуць!
Хай нашу планету – Любоўю, / Вялікай Любоўю завуць”.
(З верша С. Панізьніка “На планеце Любові”. Зб. “Мацярык”, 1984)

І зноў пра **100-годдзе Максіма**… Львоўская навуковая бібліятэка 16 студзеня 1992 г. правяла “Літаратурна-навукову акадэмію з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння

класіка беларускай літаратуры, прыхільніка украінскага нацыянальнага адраджэння М.Багдановіча”. Працяг ушанавання Творцы адбыўся 19.03.1992 г. Але…

**9 сакавіка 1992** г. у Львоўскім дзяржаўным тэатры опера і балета імя І.Франка адзначалі 178-ю гадавіну з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. На ўрачыстасці былі запрошаны мінчане Таццяна Кабржыцкая, Вячаслаў Рагойша, Сяргей Законнікаў, Сяргей Панізьнік. Пасля выступлення С. Законнікава мінчане уручылі ўкраінцам беларускі “Кабзар” Т. Шаўчэнкі: гэтым томам было распачата выданне серыі “Скарбы сусветнай літаратуры”.

“А дазнаўся, Кабзару, па свеце / крона Вашага дрэва плыве.
…І ў галінкі ўрастае бяссмерце, / і ў карэньчыках Памяць жыве”.
(Радкі з верша С. Панізьніка “З Шаўчэнкам каля вярбы ў Львове”. 1963)

**10 сакавіка 1992** г. Львоўскі дзяржаўны універсітэт імя І. Франка прадоўжыў ушанаванне М. Багдановіча. Была праведзена навукова-творчая канферэнцыя: “Максім Багдановіч і Заходняя Україна”. Даследавалі тэму А. Сенатовіч, М. Пятрэнка, Р. Лубкіўскі, У. Лучук і госці з Беларусі –Т. Кабржыцкая, В. Коўтун, В. Рагойша, С. Законнікаў.

А сюрпрызам ад паэта, перакладчыка Уладзіміра Лучука сталася ратапрынтнае выданне верша М. Багдановіча “Пагоня” на мовах свету.

“Львоў падарыў іскрыначкі надзеі, / якія дапамогуць у бядзе.
…І ў самых агаломшаных падзеях / Нептун да плошчы Рынак давядзе”.
(З верша С. Панізьніка “Надзея на Нептуна”. Львоў, 29.09.1965)

Імгла раступілася, свяча ззяе і мы вяртаемся да чорговых датаў літаратурнага чысленніка.

**50 гадоў таму**, 25.03—1.04.1969 г. у Маскве праходзіла 5-я Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў. Запомніліся сустрэчы беларускіх творцаў з Міколам Сынгаіўскім, Барысам Алейнікам, Галінай Турэлік, львоўскімі літаратарамі. І той натхнёнmake год узрадаваў яшчэ адной падзеяй: у Кіеве была выдадзена анталогія маладой беларускай паэзіі “Калинові мости” (укладальнік Грыгорый Кочур, рэдактар Пятро Засэнка). 37 украінскіх літаратараў пераклалі вершы 47 беларускіх паэтаў.

“А сіла хоча годнасці! А сіла хоча гордасці!
І мерыць справядлівасцю ўсе крыўдачкі ў жыцці.
Людьмі азвацца смелымі і ваярамі ўмелымі,
З прыязнымі суседзямі -- упоручкі ісці.”
(З верша С. Панізьніка “Калінавы мост”. Львоў, 20.06.1967 г.)

-***-

**2 лютага споўніцца 70 гадоў ад нараджэння** (2.02.1949 г.) **Галіны Турэлік** – украінскай паэтэсы, перакладчыцы, журналісткі, літаратурнага рэдактара. З 1971 г. сябра пісьменніцкага саюза. Лаўрэат абласной прэміі імя Васіля Стэфаніка (1998).

А 15 гадоў таму, 17.02.2004 г.,у Львоўскую абласную арганізацыю Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны прынята **Яраслава Паўлычка** (народжаная ў 1948 г.) – старэйшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея імя Андрэя Шэптыцкага. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Багдана-Нестара Лепкага. Перакладчыца з славянскіх, заходне-еўрапейскіх і усходніх моваў.

Актыўна спрыяла падрыхтоўцы анталогіі украінскіх паэтаў "На арэлях натхнення".

" А сёння Львоў трапечча ад зарніц. / З увагай, гараджанне, паглядзіце:
Ідзе са мной зямная Неферціці / Паходкаю егіпецкіх царыц."
(З верша С. Панізьніка "Неферціці". Львоў, 27.09.1965 )

**У ПАМЯЦІ**

**75 гадоў Памяці пра Андрэя Шэптыцкага** (29.07.1865 – 1.11.1944) – рэлігійнага дзеяча, епіскапа Украінскай грэка-каталіцкай царквы. У 1905 г. заснаваў Нацыянальны музей у Львове. Дзякуючы спрыянню і фінансавай дапамозе мітрапаліта А. Шэптыцкага першым дырэктарам гэтага музея стаў Іларыён Свянціцкі (7.04.1876—18.09.1956). Сёння пра яго ведаюць як пра славіста-беларусіста, музеязнаўца, этнографа, доктара філалагічных навук… У музеі, запоўненым памяткамі беларускай культуры, сотняй старадрукаў ці не з 20 даўніх беларускіх рукарняў, у тым ліку і скарынаўскіх кніг, дзякуючы Іларыёну Сямёнавічу ўзнік Беларускі аддзел. І слуцкія паясы аказалі экспанатамі Дзяржаўнага музея украінскага мастацтва. Ён існуе ў Львове на вул. Драгаманава, 42 і называецца Нацыянальным музеем імя А. Шэптыцкага. Побач яго – помнік Мітрапаліту Андрэю.

І. С. Свянціцкі прызнаваўся, што продкі яго – беларусы. Шануючы радавод, ён падпісваў свае творы і так: Сваціцкі. Аўтар даследваў такія тэмы: "Адраджэнне беларускага пісьменства" (1908), "Асновы адраджэння беларускага пісьменства" (1914), "Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі" (1918).

У 1997 г. выстава "У сугуччы культур. Беларусь – Украіна" прайшла ў

Літаратурным музеі імя Янкі Купалы і была прымеркавана да 90-годдзя першага замежнага беларускага музея ў Львове. Была выказана вялікая падяка найперш Андрэю Шэптыцкаму і яго таленавітаму падручнаму Іларыёну Свянціцкаму.

"Узнёслы горад – як мальберт…
…Я, беларускасці малюск, / адкрыў Сьвянціцкага канверт
спасцігнуць сэнс:"Мэ фэцыт Слуцк". / На акварэльнай любаце
бузок у Стрыйскім парку цьвіў. / І ў Алаізіным куце
свяцілася: "Мэ фэцыт Львіў".
(З верша С. Панізьніка "Мяне стварыў Альбоў".У зб."Пры сьвячэньні…", 2004.
"Me fecit Sluciae"—пазнака на канцах слуцкіх паясоў з Беларускага аддзела.
Альбоў – назва Львова ў беларускм фальклоры)

**65 гадоў Памяці пра Грыгорыя Антонавічу Нудзьгу** (21.01.1913– 14.03.1994) - украінскага пісьменніка, фальклnetwork ыста, крытыка, культуролага. Укладальнік анталогіі "Песні і рамансы украінскіх паэтаў". Аўтар даследавання "Беларуская песня за мяжой" (час. "Полымя", №4. 1967 г.). Пры сустрэчы ў 1974 г. распавёў, што вывучаў творчасць Яна Ласіцкага (1534 – 1605) – гісторыка, бібліёграфа, этнографа, пісьменніка-палеміста, аўтара кніг "Аб рэлігіі, ахвярапрынашэннях, шлюбных, пахавальных абрадах русінаў, маскавітаў і татараў" (1582).

"З дзён-усмешак, сябры, жыццё.
Веру, радасць вы мне дасцё / і паверыце: я для вас
і надзей, і падзей прыпас.
(З верша С. Панізьніка "Набыццё". Львоў, 4 красавіка 1964 )

**60 гадоў Памяці пра Краскоўскага Івана Ігнатавіча** (24.06.1880 –23.08.1955)- гісторыка, эканаміста, беларускага педагога, украінскага грамадска-культурнага і дзяржаўнага дзеяча. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта працаваў у Кіеве. У снежні 1917 г. на з"ездзе народаў у Кіеве прадстаўляў беларускія нацыянальныя арганізацыі. У 1918 г. уваходзіў у склад ураду Украінскай Народнай Рэспублікі, быў паслом УНР у Грузіі (1919—1921). Дырэктарам Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі працаваў у 1922—1925 гадах. Меў службу ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Арыштаваны НКВД у 1930, у 1937 гадах. Пасля адбыцця пакарання дачка І. І. Краскоўскага перавезла яго ў Чэхаславакію. Памёр у Браціславе.

“На Дзінабург! Рубон! На крыжакоў!.. / Праз попел і пясок хачу разгону,
каб выстраіць – для выслуху – калону / з аголеных безпамяцтвам вякоў”.
(З верша С. Панізьніка “Гасцінец”. У зб. “Пры сьвячэньні…”, 2004)

**35 гадоў Памяці пра Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча** (26.11.1930—25.07.1984) – паэта, празаіка, драматурга, перакладчыка, грамадскага дзеяча, творцы беларуска гістарычнага рамана. У 1949—64 гг. навучаўся на філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта. Працаваў настаўнікам у в. Лісовычі пад Кіевам.

Украіне прысвяціў аповесць “Лісце каштанаў”, ва ўспамінах пісаў пра дзеячоў украінскай культуры – Лэсю Украінку, Івана Франка, Тараса Шаўчэнку і інш. Перакладаў творы І. Франка. Сябраваў з Раманам Іванычуком, Іванам Драчом. Творы Караткевіча перакладалі К. Скрыпнычэнка, В. Сідарэнка, М. Львовіч, С. Літвін, У. Лучук, С. Зінчук, Т. Каламіец і інш.

У. С. Караткевіч узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, пасмяротна – Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа. Існуе музей Караткевіча ў Оршы, помнікі ў яго гонар наведваюць ў Оршы і Віцебску. 14.04.2011 г. помнік У.К. Караткевічу быў установлены ў Кіеве каля будынка беларускай амбасады.

“ І назавём за спадчынную грузь / заслужана НАРОДНЫМ літаратарам…
…Над словам – караткевічаўскім кратарам
бясконцай магмай льецца Беларусь”.

**10 гадоў Памяці пра Веру Рыч** (24.04.1936-20.12.2009)—англійскай паэтэсы і перакладчыцы твораў украінскай беларускай літаратур, сакратара Англа-Украінскага Таварыства ў Лондане.

Аўтар зборніка “Як агонь, як вада” – першай у свеце анталогіі перакладаў вершаў беларускіх паэтаў на англійскую мову (1971) – з творамі ад 1928 г. да сучаснасці. Перакладала вершы Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі.

У квартальніку “Украінскі агляд” (1993) значную ўвагу надавала украінска-беларускім культурным і гістарычным сувязям. Працавала над англійскім перакладам “Новай зямлі” Якуба Коласа. У 1991 г. упершыню трапіла ў Беларусь, пазней прызджала часта і надоўга. Яшчэ ў 1977 г. выйшаў пераклад Веры Рыч “Тараса на Парнасе” (разам з Арнольдам Макмілінам). А ў 2004 г. яна падрыхтавала зборнік беларускай паэзіі пад назвай “Вершы на Свабоду. Роздум пра Беларусь”.

Нацыянальны Саюз пісьменнікаў Украіны ўзнагародзіў Веру Рыч прэміяй імя

Івана Франка. Яна ўзнагароджана і ордэнам Княгіні Вольгі. Пахавана паводле запавету ў Каневе каля магілы Тараса Шаўчэнкі.

Светлая згадка пра Веру Рыч

Шчакочуць шчокі маразы. / Дзе / дзень /узнёслы?
Зіма. Свіргочуць палазы. / Інеюць вёслы. / Прыслухаюся: / Не я адзін
Хадок нязгоды. / Але ж пакуль вясны турботы, --/ Паэтам стань, грамадзянін!
Не адкладай уздых на потым: / Плыве з раструшчаных ільдзін / Азон / свабоды.

For from the brash ice there flows / Ozone / of freedom.
Translation Vera Rich

(З верша С. Панізьніка у зб. на беларускай мове і ў перакладах на англійскую і французскую мовы "На ўсе вякі…" 2011)

На ўсе вякі Зямлі – Радзіме песен жыць!
Сяргей Панізьнік

**Siargei Paniznik: Belarusian meridians, Ukrainian parallels, and Lviv' equator. MEMORABLE DATES 2019**
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2019, issue 23, p.87-105;*** www.sakavik.net ***)***
Our famous poet Siargei Paniznik prepared Belarusian calendar for 2019 where the events reflected therein are accompanied by his verses.

**Юбілейныя дні нараджэньня паэтаў і пісьменьнікаў**

**СТУДЗЕНЬ 2019**

150-годдзе з дня нараджэння Ядвігіна Ш.
120-годдзе з дня нараджэння Міхася Лынькова
115-годдзе з дня нараджэння Алеся Якімовіча

**ЛЮТЫ 2019**

105-годдзе з дня нараджэння Аркадзя Куляшова

**САКАВІК 2019**

205-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі
90-годдзе з дня нараджэння Еўдакіі Лось

**МАЙ 2019**

115-годдзе з дня нараджэння Адама Русака
115-годдзе з дня нараджэння Паўлюка Труса

**ЧЭРВЕНЬ 2019**

95-годдзе з дня нараджэньня Васіля Быкава

**ЛІПЕНЬ 2019**

150 гадоў з дня нараджэння Вітана-Дубейкаўскага (Дубяйкоўскага) Лявона Іванавіча (1869 – 1940), беларускага паэта, архітэктара

**ЖНІВЕНЬ 2019**

470 гадоў з дня нараджэння Радзівіла Мікалая Крыштова (мянушка Сіротка) (1549 – 1616), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната, пісьменніка

**ВЕРАСЕНЬ 2019**

160 гадоў з дня нараджэння Эпімаха – Шыпілы Браніслава Ігнатавіча (1859 – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фальклярыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца

**КАСТРЫЧНІК 2019**

135 гадоў з дня нараджэння Ждановіча Фларыяна Паўлавіча (1884 – 1937), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра

**ЛІСТАПАД 2019**

29 лістапада - 160 гадоў з дня нараджэння Янчука Мікалая Андрэевіча (1859 – 1921), беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста і пісьменніка, этнографа, фальклярыста, літаратуразнаўца, антраполага

**СНЕЖАНЬ 2019**

115 гадоў з дня нараджэння Дудара Алеся (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч) (1904 – 1937), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка

************

**390** гадоў назад нарадзіўся Сімяон Полацкі (сапр. Пятроўскі–Сітніяновіч Самуіл Емяльянавіч) (1629 – 1680), беларускі і рускі грамадскі і царкоўны дзеяч, пісьменнік, публіцыст і педагог

**385** гадоў з дня нараджэння Казіміра Лышчынскага (1634 – 1689), беларускага мысліцеля

**220** гадоў назад нарадзіўся Баршчэўскі Ян (1799, паводле іншых крыніц 1790, 1794, ці 1796 – 1851), беларускі і польскі пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

## Каляндар гістарычных дат

**1 студзеня 1919 года створана Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка (БССР)**

| | |
|---|---|
| **1045** | гадоў назад (974) паводле Віцебскага летапісу кіеўскай княгіняй Вольгай заснаваны Віцебск |
| **1000** | гадоў назад (1019) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Брэст (Берасце, Бярэсце) |
| **975** | гадоў з пачатку будаўніцтва (1044) у Полацку Сафійскага сабору (будаўніцтва скончана ў 1066 г.) |
| **975** | гадоў з часу княжання (1044 – 1101) у Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем |
| **975** | гадоў назад (1044) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Навагрудак (Новогород, Новогородок) |
| **960** | гадоў назад (1059) у летапісах упершыню ўпамінаецца Копысь як горад Полацкага княства |
| **915** | гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай (свецкае імя Прадслава) (каля 1104 – 1173), беларускай асветніцы |
| **860** | гадоў назад у летапісах упершыню ўпамінаецца Чачэрск |
| **745** | гадоў назад (1274) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Капыль |
| **735** | гадоў назад (1284) войскі літоўскага князя Рынгальда разграмілі мангола-татарскія войскі каля вёскі Магільна (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці) |
| **605** | гадоў назад (1414) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Глыбокае |
| **580** | гадоў назад (1439) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Лепель |
| **575** | гадоў назад (1444) Гродна атрымаў поўнае самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **565** | гадоў назад (1454) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Стары Мядзел (цяпер г. Мядзел Мінскай вобласці) |

| | |
|---|---|
| **525** | гадоў назад (1494) горад Высокае атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **525** | гадоў назад (1494) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Косава (Косаў) |
| **520** | гадоў назад (1499) Мінск атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **515** | гадоў з часу ўтварэння (1504) Полацкага ваяводства |
| **515** | гадоў назад (1504) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца в. Будслаў (Буда, Буцлаў, Будцлаў) Мядзельскага раёна |
| **505** | гадоў назад (1514) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца Мёры |
| **490** | гадоў з часу ўвядзення (1529) Першага Статута Вялікага княства Літоўскага, збора законаў айчыннага феадальнага права |
| **485** | гадоў назад (1534) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Сянно |
| **490** | гадоў назад (1 ліпеня 1569 г.) заключана Люблінская унія – урачыстае абвяшчэнне пра аб’яднанне на аснове роўнасці Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую |
| **450** | гадоў назад (1569) Радашковічы і Дзісна атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **445** | гадоў з часу заснавання (1574) у Вільні друкарні братоў Мамонічаў (дзейнічала да 1623 г.) |
| **445** | гадоў з часу выдання (1574) Сымонам Будным у мяст. Лоск каля Валожына Новага Запавету |
| **440** | гадоў назад (1579) Гродна стаў рэзідэнцыяй караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Стэфана Баторыя |
| **430** | гадоў назад (1589) Кобрын і Пружаны атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **420** | гадоў назад (1599) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Вілейка |
| **385** | гадоў назад (1634) Чавусы і Бешанковічы атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |

| | |
|---|---|
| **295** | гадоў назад (1724) створана Нясвіжская капэла Радзівілаў (існавала да 1809 г.) |
| **290** | гадоў назад (1729) заснавана Пінская друкарня (існавала да 1746г.) |
| **250** | гадоў назад (1769) у в. Бабоўня (Капыльскі раён) заснавана суконная мануфактура |
| **250** | гадоў з пачатку дзейнасці (1769) у Гродна тэатра Тызенгаўза (дзейнічаў да 1780 г.) |
| **250** | гадоў з часу заснавання (1769) шклозавода “Залессе” ў мяст. Ілля |
| **245** | гадоў назад (1774) у Гродна створана музычна-тэатральная школа Тызенгаўза (існавала да 1780 г.) |
| **225** | гадоў з пачатку паўстання (1794) у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі |
| **225** | гадоў з часу ўтварэння (1794) Віленскага генерал-губернатарства (існавала да 1912 г.) |
| **215** | гадоў з дня нараджэння Гарбачэўскага Мікіты Іванавіча (1804 – 1879), беларускага архівіста, мовазнаўца, педагога |
| **215** | гадоў назад (1804) завершана будаўніцтва Агінскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Дняпра |
| **210** | гадоў з часу заснавання (1809) у Магілёве першай у Беларусі метэаралагічнай станцыі |
| **210** | гадоў назад (1809) у Магілёве на базе галоўнага народнага вучылішча адкрыта першая гімназія |
| **195** | гадоў з часу выдання (1824) “Беларускага архіва старажытных грамат”, першага зборніка па гісторыі беларускіх зямель |
| **190** | гадоў з пачатку дзейнасці (1829) Беларускай навучальнай акругі |
| **180** | гадоў назад (1839) скончана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Бебжы (басейн Віслы) |
| **180** | гадоў назад (1839) заснавана метэаралагічная станцыя ў Гродна |
| **160** | гадоў назад (1859) уведзена ў эксплуатацыю першая ў Беларусі тэлеграфная лінія Мінск – Бабруйск |
| **155** | гадоў назад (1864) заснавана Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (існавала да 1920 г.) |
| **150** | гадоў назад (1869) пачалося будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай |

| | |
|---|---|
| | чыгункі (скончылася ў 1878 г.) |
| **145** | гадоў назад (1874) у Гомелі заснаваны галоўныя механічныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі (у далейшым Гомельскі вагонарамонтны завод) |
| **140** | гадоў назад (1879) заснавана Нававеліцкая запалкавая фабрыка “Везувій” (з 1944 г. Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат) |
| **135** | гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1884) чыгуначнай лініі Вільня – Пінск |
| **135** | гадоў з часу пабудовы (1884) Пінскага параходабудаўнічага завода (з 1939 г. суднарамонтны завод) |
| **120** | гадоў назад (1899) заснавана Мінская абласная бібліятэка імя А.С.Пушкіна (адкрыта 25 снежня 1900 г.) |
| **115** | гадоў назад (1904) у Брэсце адкрыта жаночая гімназія |
| **110** | гадоў назад (1909) у Брэсце быў адкрыты першы кінематограф |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Минской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Полоцко-Витебской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі Беларусі |
| **110** | гадоў з пачатку дзейнасці (1909) настаўніцкай семінарыі ў Рагачове (дзейнічала да 1919 г.) |
| **110** | гадоў з часу выдання (1909) у Гомелі грамадска-палітычных і літаратурных газет “Полесье” і “Полесская жизнь” |
| **105** | гадоў з часу стварэння (1914) у Мінску кампазітарам У.В.Тэраўскім аднаго з першых беларускіх харавых калектываў |
| **100** | гадоў назад (1919) заснавана Віленская беларуская гімназія (існавала да 1944 г.) |
| **100** | гадоў назад (1919) у Магілёве адкрыта музычная школа, адна з першых у Беларусі (з 1937 г. музычнае вучылішча імя М.А.Рымскага–Корсакава, з 2009 г. Магілёўскі дзяржаўны музычны каледж імя М.А.Рымскага–Корсакава) |

| | |
|---|---|
| **65** | гадоў з часу ўрачыстага адкрыцця (4 ліпеня 1954 г.) у Мінску манумента Перамогі – помніка воінам Савецкай Арміі і партызанам, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў |
| **50** | гадоў назад (5 ліпеня 1969 г.) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Курган Славы” |

**Calendar of important events in the life of Belarusians in 2019**
***(magazine “CULTURE. NATION”, April 2019, issue 23, p.106-112;***
*www.sakavik.net)*
In this issue: Calendar of wrirers’ and poets’ birthdays, and Calendar of historical dates.

*Наступны 24-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў лістападзе 2019 года*